


**М. БАСАЛЫГА.** Лінарыт, 1984.

# Маладосць

**ОРГАН
ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА
ЛКСМБ
І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ
БЕЛАРУСІ**

ШТОМЕСЯЧНЫ
ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС

**Выдаецца з 1953 года**

6 · 89

**(436) ЧЭРВЕНЬ**

**МІНСК
Выдавецтва ЦК КП Беларусі**

# У нумары

## Паэзія · Проза



## Публіцыстыка







Вокладка **М. Анемпадзістава.**

На шмуцтытуле паэзіі і прозы— **М. Басалыга. Сымон-музыка** (лінарыт, 1984).

На шмуцтытуле публіцыстыкі—фота **С. Брушко.**





# Паэзія Проза



*Упершыню ў „Маладосці"*

## *Сяргей Сыс*

### ЖЫЦЦЁ

У горадзе шэрым,
квадратна-кубічным,
усцяж паралельным
і скрозь сіметрычным,

дзе сціплае сонца
з-за гмахаў звісае
і промні, як дзіды,
туман прабіваюць,

дзе коміны неба
паранілі дымам,
дзе пахне мазутам,
іржой і бензінам,

скрозь панцыр асфальту,
праз тоўшчу бетону,
прабіўся да сонца
парастак клёна.

### ТРЫЯЛЕТ

Плакса-восень адшасцела
Залатым дажджом лістоты,
Гнуцца голыя чароты,—
Плакса-восень адшасцела.
Малады мароз няўмела
Шыбы пэцкае ў афорты.
Плакса-восень адшасцела
Залатым дажджом лістоты.

■

З непакрытай галавой
На кані гарачым
Сэкундэла, панскі войт,
Каля рэчкі скача.

Сэкундэла — важны чын
Спераду і збоку.
Яго белы казачын
Быў відзён здалёку.

Пых і нораў панскі меў,
Ганарысты дужа...
Ды аднойчы, неўспадзеў,
Гэпнуўся ў калюжу.

### БЕЛЫ ВЕРШ

Бялюткая столь ад мелу,
І белы дзвярэй праём,
І накрыўкі лапік белы
Пад лямпаю з белым шклом.

І ў белай, як дзень, палаце
З белае кафлі дол.
Бялявая, ў белым халаце,
Доктарка робіць укол.

А потым акно гукала,—
Там белыя стылі дамы
І белае сонца спявала
Белую песню зімы.

І толькі на снезе белым
Чорныя плямы людзей,
Якія хаваюць пад целам
Нешта яшчэ чарней.

■

Што было паміж намі?
— Нічога,
Ні знаёмства, ні нават сустрэч...
Так,
На момант звяла дарога,
А праз момант штурхнула прэч.

### КРОПЛЯ

Я — лёгкая кропля,
якую
зусім выпадкова
ранак пакінуў
на жоўтым лісце
адзінокай асіны.
Мой час — невядомы,
мой лёс — выпадковасць.
І стан раўнавагі
праз момант парушыць
вецер-бадзяга.

Сусветам празрыстым
пад ногі людскія
скачуся ў пыл пакаленняў, які
рассунецца, прыме мяне без сумненняў,
убярэ у былыя вякі.
І брудам жыцця стану я.





*Упершыню ў „Маладосці"*

*Іван Сяргейчык*

АПАВЯДАННІ

# ГОРКАЯ ПЯШЧОТА

Пасля начной завірухі ранак выдаўся нечспадзяваны. Сонца нібы спазнялася. Яно прыхарошвалася дзесьці за лесам у белаватай смузе. Вулічныя абсады — клёны, таполі і бярозы, — голле якіх спрэс аблежана снегам, спагадліва пазіралі на замеценыя завірухай кусты, бо як асядзе снег — абломіць, знішчыць усю прыгажосць. І тады жыві як хочаш. Альбо чахні ад тугі і суму, альбо аддавай усю моц пасынкам. Пачынаць жа новае жыццё — адно і тое ж, што разам з зернем слёзы сеяць. Што ўзыдзе? Ды ці ўзыдзе што?

Згледзеўшы людзей, абсады сыпалі на іх галовы снежнай пацярухай: спыніся, чалавеча, не праходзь міма бяды чужой. Спыніся...

Ішлі гараджане, спяшаліся хто куды, бо чужая бяда як іржавая вада — нікому не патрэбная.

А тым часам з ваеннага гарадка на гарадскую вуліцу выцягвалася калона армейцаў. Паперадзе, як і належыць, адлічваў крок аркестр. Вулічны рух прыпыніўся. Нецярплівыя легкавушкі, грузавікі і аўтобусы ціснуліся да тратуараў і, стоячы там, тарахцелі маторамі. Праз шыбіны вокнаў на ваенных з цікавасцю пазіралі людзі. Над вуліцай чуўся рыплівы такт салдацкіх крокаў.

Данеслася музыка — калона падыходзіла да плошчы. У страі падраўняліся.

Ажылі тратуары. Людзі, ствараючы шчыльны ланцужок, не адрываючыся, цёплымі позіркамі глядзелі на армейскі строй.

На плошчы калона скіравала ўлева. Мінула ўзлобак, пасярод якога высіўся помнік, атулены старымі лапістымі ліпамі. Абапал помніка — ганаровая варта: салдаты, піянеры, збоч — ветэраны, а навокал — жывое людское мора.

Дзесьці за скрыжаваннем калона завярнулася і спынілася насупраць помніка.

Непадалёку на тратуары стаяла невысокая маладжавая жанчына. На дробным маршчыністым яе твары відзён быў неспакой. З-пад цёмнай хусткі рассыпаліся густыя пасмы сівізны, а вочы, цёмныя і глыбокія, акружаныя падкоўкамі маршчынак, быццам кагосьці шукалі сярод строю.

«...Людская памяць не ведае вымярэнняў. З кожным годам радзеюць нашы рады, на скронях становіцца ўсё больш сівізны, а на сэрцы — болю...» — ліўся з рэпрадуктара голас ветэрана.

Жанчына, напэўна, не чула гэтых слоў. Крыху схіліўшы галаву, непрыкметным узмахам рукі яна схавала пад хустку непаслухмяныя пасмы валасоў. І тут грымнуў салют. Скаланулася паветра. З таполяў пасыпаўся іскрысты снег. Ён слаўся на галовы, на плечы, дробнымі кропелькамі вады казытліва астуджваў твары. Хто паспеў — адхіляўся ўбок, хто атрасаўся, а яна стаяла нерухома, накіраваўшы позірк на высокага стройнага салдата ў першай шарэнзе строю. І раптам заплакала. Салдаты пазіралі на яе.

Жанчына стаяла, прытуліўшыся да дрэва, і рукамі закрывала твар. Худыя плечы ўздрыгвалі ўсё часцей і часцей.

Падбегла нейкая дзяўчына, пачала супакойваць, нешта гаварыць. Жанчына падняла галаву і, выцягнуўшы шыю, зноў зірнула на салдацкі строй. Затуманены позірк яе спыніўся на тым жа салдаце. Штосьці бязгучна прашапталі напружаныя вусны. А салдат нечакана, праглытнуўшы камяк жалю, кашлянуў, выйшаў са строю і хутка накіраваўся да жанчыны. Афіцэр, які стаяў наперадзе, наважыўся нешта сказаць наўздагон салдату, але сусед спыніў яго, паклаўшы руку на плячо.

Доўгая яловая вітая гірлянда хваляй памяці плыла на руках да помніка.



Мал. **А. Назаранкі.**

З жаночых вачэй нястрымна ліліся слёзы. Яна выцягнула з рукава паліто хусцінку і пачала выціраць твар. Салдат быў побач ужо, і яна імкліва зрабіла крок яму насустрач.

— Сы-но-о-чак, род-нень-кі! — вырвалася са стогнам з жаночых грудзей, і рукі абвілі шыю салдата.

Яны стаялі на вуліцы — маленькая жанчына і высокі салдат. А навокал было чутно, як шмыгалі людзі насамі.

— Што здарылася?..

— Чаго яна?

— Стрэла сына?

— Загінуў сын яе. У Афганістане.

Некаторыя паціскалі плячыма.

Зноў грымнуў салют. Жанчына здрыганулася.

— Сыночак, сын-ку, пойдзем дамоў... Пойдзем жа... — ласкава клікала яна, пяшчотна гладзячы рукамі шэры салдацкі шынель.

Натоўп расступіўся, прапускаючы іх.

І трэці раз скалануў паветра салют, аддаючыся прыглушаным рэхам на вуліцах і завулках.

# АПОШНІ РЭЙС

КамАЗы адзін за адным паволі выпаўзлі з парка і доўгім шчыльным ланцугом амаль што прыхіліліся да каменнага дувала.

Над Кабулам устойваўся ранак — доўгі, халодны. Восень скупілася на сонца. Горы неахвотна выпускалі яго са сваіх пячор. Ненадоўга, толькі падражніцца. І яно ледзь-ледзь паўзло, нібы прыкаванае, па горных вяршынях Гіндукуша. У такі лістападаўскі час зямля і людзі грэюцца тады, калі свеціць сонца, а схаваецца яно — апранай кажух.

Тым жа, хто з аўтаматамі выскокваў з кабін, кажух яшчэ не патрэбны.

Жартам падбадзёрваючы адзін аднаго, салдаты спяшаліся ў галаву калоны. Перад БМП [1] выцягнуўся строй і па камандзе капітана павярнуў галовы направа.

Са штаба спяшаўся камбат — маёр Крыўкін. Хутка казырнуўшы, ён кінуў сваю шырокую, што рыдлёўка, далонь капітану і, на хаду выслухоўваючы даклад, спыніўся насупраць строю. Бадзёрым, моцным барытонам прывітаўся.

Злітныя маладыя галасы рассеклі ў адказ санлівую ранішнюю цішыню.

— Вось што, хлопцы, затрымліваць вас я не буду. Многія з вас птушкі страляныя, самастойныя. А калі так, спадзяюся, як на сябе самога. Хачу толькі папярэдзіць: першае — дарогу перад Салангам сцерагуць афганцы...

— Душманы, — паправіў камбата хтосьці са строю, і сям-там пачуўся шэпт.

Твар камбата са слядамі ацёкаў спахмурнеў.

— Не спяшайся раней бацькі ў пекла, — папярэдзіў ён і паўтарыў: — Дарогу сцерагуць афганцы — людзі Саідбека. Яны прыйшлі з пакаяннем і падпісалі дагавор з уладай. Таму прашу і патрабую: ніякіх правакацый з вашага боку і ні на якія правакацыі не адказваць. Другое, — твар у маёра пасвятлеў, — мае бязвусыя «дзяды»! На адзін крок!..

Строй раздзяліўся. Частка яго зрабіла крок наперад.

Навісла цішыня. Усе глядзелі на камбата, а ён — на кожнага, хто зрабіў гэты крок.

— Нну-у, апошні рэйс. Дапамажыце хлопцам асвоіцца. Будзьце з імі прасцей — і ні пуху ні пяра вам... — сказаў камбат і пайшоў уздоўж шарэнгі, па чарзе паціскаючы загарэлыя рукі сваіх дваццацігадовых «дзядоў». Каля кожнага затрымліваўся, папраўляў аўтамат, бронежылет або каску. Пільна, з бацькоўскім даверам заглядваў у юначыя вочы.

Строй маўчаў. Кожны пазіраў на камбата, а ён паляпаў па плячы апошняга ў шарэнзе салдата, павярнуўся да ротнага, які стаяў непадалёку, і ледзь прыкметна кіўнуў галавою, паказваючы на строй.

— Па ма-шы-на-а-ах!..

Дружна загулі матory, падпяваючы адзін аднаму. Калона кранулася з гарадка, уздымаючы шчыльную сцяну пылу. Ніхто не бачыў, як віхурыўся ён, абвіваючы камбата, і паволі асядаў на яго крыху ссутуленыя плечы.



— Жэ-ня, бронежылет на дзверцах, — напомніў радавому Алейнікаву старшы машыны сяржант Галаўко. — І пазірай у люстэрка. За намі ідзе БТР. Будзе адставаць — скажаш.

Вадзіцель, не адрываючы позірку ад дарогі, намацаў справа ад сябе бронежылет, пераклаў яго ў левую руку, накінуў на дзверцы кабіны і зірнуў у люстэрка.



[1] БМП — баявая машына пяхоты.

— Ідзе.

Горад застаўся ззаду. Дарога зварочвала ўлева, цягнулася на пад'ём. Ззаду застаўся дыспетчарскі пост, а разам з ім і горы, якія абцугамі трымалі старажытны шматаблічны Кабул з яго зманлівай і непаўторнай прыгажосцю. За першым на гэтай дарозе невялічкім перавалам пацягнуўся шэры раўнінны абшар. Наперадзе, паводдаль ад асфальтавай стужкі, гарбіліся руіны афганскай сядзібы, акружаныя чорнымі абпаленымі дрэвамі.

— Хутка Амінаўка,—папярэдзіў вадзіцеля сяржант Галаўко.

— Вялікі кішлак?—пацікавіўся той.

— Быў кішлак. Цяпер—адны руіны. А ўсё роўна не-не ды і пекануць адтуль па калоне. Асабліва вечарам.

— Нас там не стрэнуць?

— Не,—упэўнена прамовіў Галаўко.

Салдат прыцмокнуў языком, але змаўчаў.

Зруйнаваны ў часы баёў, кішлак стрэў і праводзіў калону маўклівасцю. Разбітыя саманкі і дувалы зеўралі вялізнымі дзіркамі ад снарадаў.

— Вось гэта малюнак!—здзівіўся Алейнікаў і паправіў на каленях аўтамат.

Галаўко заўважыў гэта і падумаў: «Як цікава ўсё ж злеплены чалавечы характар! Хай толькі ёкне салдацкае сэрца, і рука адразу цягнецца да зброі. Дакранешся ў холад—саграе душу, дакранешся ў спякоту—астуджвае галаву і цвярозіць думкі. Няўжо зброя больш надзейная за сябра?..» Раней ён ніколі не думаў пра гэта ўсур'ёз. Не было нагоды. А цяпер...

Галаўко лянiва пацягнуўся, закурыў і, зірнуўшы на Алейнікава, засмяяўся.

— Ты трымаеш руль, як гаспадыня чыгун з кіпенем. Так цябе надоўга не хопіць. Крыху расслабся, будзь як за палудзенным сталом. Лыжку, відаць, трымаеш упэўнена? Так павінна быць і тут.

— Баішся, што давядзецца падмяніць?

— Не баюся, а за руль не сяду.

Салдат хмыкнуў, пакруціў галавою.

— Мне камбат месца вызначыў,—сказаў яму сяржант.—А калі праўду сказаць, дык цяжка ехаць вось так...

— Пасажырам?—апярэдзіў Алейнікаў.

Галаўко рэзка павярнуўся да яго, бліснуў вачыма:

— Знайдзі месца,—ён пастукаў пальцам па скроні,—і занатуй: пасажырам тут ездзяць двойчы. Першы раз—калі ляціш ці едзеш у часць, і другі—калі вяртаешся ў Саюз... або вяртаюць у цынкавай труне. А каб гэтага не было і каб тваю дыню не прасвідравалі з «Бура»[1], побач з табою і сядзіць, як ты сказаў, «пасажыр» з АКМам,—Галаўко паказаў на свой аўтамат, які стаяў у яго між каленяў.—А сваю цацку трэба трымаць як найзручней. Вось тут,—ён зняў з каленяў вадзіцеля аўтамат і паклаў на сядзенне справа ад яго.

Салдат маўчаў, учапіўшыся ў руль. Сцятыя сківіцы хутка варушыліся. Было відаць, што такая размова яму не спадабалася.

«Во які зацяты,—падумаў Галаўко пра Алейнікава,—нічога не ведае і ведаць не хоча. Думае, што калі пачнуць страляць, дык абавязкова ў яго. Няхай сабе і так, але, перш чым схапіць аўтамат, трэба спыніць машыну, бо, калі кінеш руль, аўтамат ужо не спатрэбіцца. Страх—не дарадчык. Ну, ды нічога. Захочаш напіцца—здолееш і пакланіцца. Не цяпер, дык у чацвер. Жыццё прымусіць».

Гледзячы на Алейнікава, Галаўко адчуваў, што той разважае. Недарма моршчыць лоб, то прыплюшчваючы, то шырока адкрываючы вочы. Нават вуснамі варушыць.

— Таварыш сяржант! Калі не цяжка, прасвяціце мяне: у батальёне дзядоўству патурае адзін камбат ці ў яго ёсць яшчэ і прыхільнікі?

«Ну, вось і на табе. Цяпер чухай патыліцу»,—хмыкнуў Галаўко, ледзь прыкметна ўсміхаючыся.

Але было не да смеху. Хвароба, пра якую пачаў размову Алейнікаў, сёння хвалюе ўсіх, бо глыбока пусціла свае карані, як пырнік. Што адказаць? Неабдуманае слова можа быць горшае за абух. Пасееш сумненне—пажнеш недавер.

— Жэня, ты сам зрабіў гэтае адкрыццё ці пачуў ад каго?

— І сам, і пачуў. Трэба быць сляпым, каб не бачыць, як да вас адносіцца камбат.

— І гэта ўсё?

— Мала?

— Фактаў у цябе няма.

— Што, крыўдна?

— Балюча,—прызнаўся сяржант.—Прабач, Жэня, але ты яшчэ не салдат. Апрануць форму—гэта яшчэ не ўсё... А калі ты лічыш сябе салдатам, дык павінен ведаць, браце, што ў арміі ёсць такі закон,—дадаў ён і ляпнуў вадзіцеля па плячы.

— Стукаць падначаленых па плячы, як камбат?—перабіў Алейнікаў.

— І гэта закон. Няпісаны, праўда, і не галоўны. Ёсць другі. Калі гаворыць камбат—усе маўчаць, а калі пытае,—адказваюць па чарзе. А ты вось выскачыў. За гэта звычайна па галоўцы не гладзяць. Цябе камбат пашкадаваў. Лічы, што пашанцавала. І яшчэ: камбата не чапай. Не маеш маральнага права... Калі ты паважаеш сябе, нас, яго паважаць ты проста павінен. Гэта твой абавязак.

Па вуснах прабегла прыхаваная ўсмешка. Сяржант заўважыў гэта. Ён зірнуў на Алейнікава, але прамаўчаў. Ведаў, што словы кранулі салдата. А калі так, дык жыццё само прымусіць яго адшукаць і ўбачыць праўду.

Нейкі час ехалі моўчкі. Алейнікаў знарок не зважаў на сяржанта, нават пачаў насвістваць пад нос, ды, зірнуўшы на горы, замоўк.

Не першы раз Алейнікаў быў у гарах, але гэтыя, як яму здавалася, чужыя горы палохалі яго. Глянуўшы на далёкія заснежаныя вяршыні, ён здрыгануўся, іх мёртвыя белыя шапкі нібы пранізалі яго сваім лютым холадам. Цяжкія, непаслухмяныя рабіліся рукі.

Салдат і сяржант сядзелі, быццам не заўважаючы адзін аднаго, пасля пакашлялі па чарзе, пачалі круціцца, зручней уладкоўваючыся на сядзенні. Першы азваўся сяржант.

— Жэня, не трэба чапляцца за словы. Ты чалавек сур'ёзны і павінен зразумець. Мы не «дзяды» яго, а дзеці. Тое, што камбат перажыў адзін, хапіла б на пяцярых. І сівізны яго—таксама. А яму толькі нядаўна споўнілася сорак...

Алейнікаў маўчаў, мо хацеў выбраць важкі довад.

— Ты як клічаш камбата?—спытаўся Галаўко.

Салдат толькі пацісну́ў плячыма. Відаць, усё ж адчуў, што вінаваты.

— Дык як ты клічаш камбата?—паўтарыў Галаўко.

— Звычайна. Таварыш маёр.

---

[1] «Бур»—англійская вінтоўка ўзору 1800-х гадоў.

— А ён цябе?

Алейнікаў паціснуў плячыма, не разумеючы, лыпнуў вачыма, але адказаў:

— Учора ў парку пытаўся: «Як справы, сынок?»

— Ы-гы! — пагадзіўся Галаўко. — А яшчэ цікавіўся, ці выдалі табе каску. Ты сказаў, што не-э. Праз паўгадзіны яе прынёс табе ў парк сам узводны.

— А ты адкуль ведаеш? — здзівіўся салдат.

— Некалі і ты будзеш усё ведаць. Праўда, «бацька» ўжо зменіцца. Але ж другі будзе цябе клікаць не «сынок», а «Жэня». Вядома, калі ты гэтага заслужыш.

— Панібрацтва, — падсумаваў Алейнікаў, задаволена ўсміхнуўшыся. — Да гэтага мне яшчэ служыць, як меднаму...

Калона сцішала ход. Раўніна скончылася. Па абодва бакі ад шашы круглымі гарбамі выпіраліся горы.

Галаўко адчыніў дзверцы, глянуў на дарогу і павярнуўся да вадзіцеля.

— Злева — помнік. Пачуеш сігнал — цісні таксама, пакуль не мінеш гэтае святое месца...

Апошнія словы яго патанулі ў дружным сігнале КамАЗаў.

— Ды мацней ты! Каб у скроні калола! — крыкнуў Галаўко, рэзка нахіліўся да вадзіцеля і, сцяўшы зубы, націснуў на сігнал.

Злева, збоч ад дарогі, на скальным выступе высілася белая мармуровая пліта з ярка-чырвонай зоркай.

Пасля, ужо за другім перавалам, Алейнікаў запытаўся ў сяржанта:

— Хто там загінуў?

Галаўко маўчаў, гледзячы ўдалячынь. Чуў ён гэтыя словы ці не, сказаць цяжка. Непакоіла іншае: дзе знайсці кветкі? Па дарозе назад трэба абавязкова спыніцца. Апошні рэйс...

Вадзіцель варухнуўся, рыпнуў сядзеннем, зірнуў на сяржанта і падумаў: «Шчаслівы. Адслужыў. Праз дзень-другі — цывільны чалавек. Я на яго месцы ад радасці быў бы на сёмым небе, а ён...»

— Ты пытаешся, хто там загінуў? — перапытаў нарэшце Галаўко. — Нашы хлопцы. Маладыя, прыгожыя. Разам прызываліся, служылі разам, а цяпер вось павінны былі б разам ляцець дадому... Такі чалавечы лёс. Жывеш і не ведаеш, дзе тваё, а дзе чужое... Так што месца тое, Жэня, як брацкая магіла. Леташняю вясной нас тут абстралялі. Ну, залеглі, пачаўся бой. А яны з гранатамёта па наліўніку. Што ра-бі-ла-ся!.. Страшна ўспомніць. У камбата рубцы на твары, ведаеш ад чаго?

Алейнікаў моўчкі кіўнуў галавой.

— І плечы ўсе такія... Пасля шпіталя ён доўга сам вадзіў калоны. Даведаліся начальнікі — забаранілі. А на мінулым тыдні самавольнічаў. Зноў павёў калону. На тым месцы мы доўга стаялі. «Бацька» занёс да помніка кветкі, стаў на калені і цалаваў зямлю.

Сяржант апусціў галаву, і салдат заўважыў, як прыгожы загарэлы твар сяржанта адразу пачарнеў, нібы ад нясцерпнага болю.

— Праклятая зямля!.. — прасіпеў вадзіцель і так сціснуў руль, што пабялелі кончыкі пальцаў.

— Не-е, Жэня, так няможна, — перапыніў Галаўко вадзіцеля. — Гэтая зямля для нас вельмі дарагая. Вельмі...

Ён правёў рукою па твары, «сабраў» у жменю вусны.



Салдат маўчаў. Час ад часу ён адрываў позірк ад дарогі і паглядаў на сяржанта, а той сядзеў, думаючы аб чымсьці сваім. Яго шырока адкрытыя вочы не бачылі ні дарогі, ні шаравата-рыжых скал, якія часта навісалі над ёю цяжкімі казыркамі. Утрапёны позірк плаваў недзе далёка за дарогаю.

Алейнікаў паспрабаваў адгадаць, куды глядзіць сяржант, і ўпёрся паглядам у левы край шашы, за якім пачынаўся абрыў.

«Сарвіся туды — і не тое што касцей не збяруць, а не знойдуць нават і пырскаў», — прамільгнула думка, і цела пранізала халадком.

Салдат здрыгануўся і, каб развеяць непрыемныя думкі, стаў глядзець у люстэрка. БТРа чамусьці не было відаць. У душу закрадваўся страх.

А машына паўзла ўсё далей у горы, натужна выводзячы манатонную мелодыю.

Раптам Алейнікаў адчуў, як на руль побач з яго рукою легла чужая цвёрдая рука і павярнула руль управа. Гэта было так нечакана, што ён не супраціўляўся.

— Што, не відаць? — пачуў спакойны голас сяржанта.

Салдат зірнуў на яго.

— Не-э.

— Трымайся правей, — папярэдзіў сяржант і дадаў: — На дарозе ціха. Дагоняць. Далёка адстаць яны не маглі.

У гэтых словах была ўпэўненасць, і Алейнікаў супакоіўся.

Страх адступаў, а разам з ім сціралася ў сэрцы і крыўда на Галаўко. Рукі ўпэўнена трымалі руль.

— Можна папяросу? — папрасіў ён сяржанта.

Галаўко моўчкі дастаў «беламорыну», прыкурыў, падаў Алейнікаву і толькі тады сказаў:

— Жэня, ты ж не курыш.

— Адзін разок... — Алейнікаў прагна зацягнуўся дымам, закашляўся і вярнуў папяросу сяржанту.

— Ты стаміўся. Можа, падмяніць? — прапанаваў Галаўко.

— Дзякуй, не трэба. Такая стома — і доктар, і настаўнік, — прызнаўся салдат, выціраючы рукавом курткі слёзы і пот. — Вы лепей скажыце: служыць цяжка?

— Нялёгка. Я, напрыклад, не чуў, каб салдацкая служба была лёгкая.

— А вам ніколі не было крыўдна, што вы служыце тут, а іншы там — у Саюзе?

— За што?.. Я таксама служыў у Саюзе. А сюды трапіў, бо напісаў рапарт.

— А мяне адразу пасля каранціну сюды. Бацькам нават не паспеў напісаць.

— Нічога. Вернемся, — і напішаш, — супакоіў салдата сяржант.

Час набліжаўся да поўдня. Сонца паўзло дзесьці справа, хаваючыся за халоднымі лысымі скаламі. У кабіну няпрошаным госцем урываўся колкі ветрык, але ад матора дыхала цяплом. Не верылася вачам, звыклым да гэтых мясцін, што злева, на той бок цясніны, у «зялёнцы»[1], стаяць шэрыя дрэвы, бо скінулі апошні пажоўклы лісток.

---

[1] «Зялёнка» — зялёная зона ў гарах ці ў пустыні, дзе жывуць афганцы, у большасці — паблізу вады.

Ззаду пачуўся трохразовы сігнал. Вадзіцель глянуў у люстэрка.

— БТР!—узрадаваны, сказаў ён і таксама прасігналіў.

— Не трэба,—стрымаў вадзіцеля Галаўко.—Гэта права таго, хто дагнаў калону.

— Колькі тут няпісаных законаў!—здзівіўся Алейнікаў.

— Чаму няпісаных?—перапытаў сяржант.—Усе законы тут напісаны жыццём. І наш абавязак—іх выконваць. Дарма ты, Жэня, гэтую зямлю назваў праклятай. Зямля ні ў чым не вінавата. Многа крыві пралілося на ёй, шмат болю і крыўды яна сцярпела. Кожны выбух—гэта рубец, кожны асколак—рана. Іншы раз да болю крыўдна, што людзі не могуць зразумець гэтага. Не крыві хоча афганская зямля, а вады і міру. Усе толькі крыўдзяць яе, а яна аднолькава трывае і душмана, і салдата... Ці будзе калі-небудзь усяму гэтаму канец?..

Галаўко прыкурыў патухлую папяросу і глянуў праз шыбіну дзверцаў.

На дарозе ўсё часцей бялелі снежныя плямiны, усё больш зласлівы станавіўся вецер.

Прайшлі яшчэ адзін дыспетчарскі пост. Да калоны далучыліся дзве машыны, якія рамантаваліся там з учарашняга дня.

— Хутка ўбачыш былых душманаў,—папярэдзіў вадзіцеля сяржант Галаўко.

Да Саланга, самага высокага перавала з даўжэзным тунелем, заставалася кіламетры чатыры. Раптам Галаўко ўбачыў, як наперадзе, са скал, на шашу грымнулася некалькі валуноў, а пасля за імі пасыпаўся розны друз. Пакуль перапалоханы Алейнікаў спыняў машыну, Галаўко прыгнуўся і зірнуў ўгару. Там, на заснежаных скалах, чарэпкаліся два афганцы. Крыху правей сядзеў яшчэ адзін.

«Відаць, абвал»,—падумаў сяржант і адчыніў дзверцы кабіны.

— Таварыш сяржант!—усхвалявана паклікаў Алейнікаў.

— Я хутка. Сядзі,—загадаў Галаўко.

— Аўтамат,—напомніў Алейнікаў, падсоўваючы зброю сяржанта на правы край сядзення.

— Не трэба,—спакойна сказаў сяржант і прычыніў дзверцы кабіны.

Валуны леглі на самую дарогу—не аб'ехаць. Галаўко спыніўся каля аднаго, зноў глянуў на скалы. Афганцы ўжо стаялі на скальным выступе і штосьці гаварылі. Адзін—невысокі, малады, у старэнькай рускай аблавушцы, з аўтаматам на плячы, другі—барадаты, ссутулены. Ён трымаў у руках «Бур».

— Салом, шураві! [1]—крыкнуў малады рускаму салдату, паказаўшы шырокія белыя зубы.—Как дэла?

— Салом!—адказаў Галаўко, падняўшы ўгару сціснутую ў кулак руку.

Барадаты афганец пацягнуў за руку маладога.

Галаўко нахіліўся і, перакульваючы ска́ліну, пакаціў яе да абрыву. Над цяснінай рэхам пракацілася грымота.

«З гэтай будзе цяжэй»,—падумаў сяржант, вяртаючыся назад.

Другая скаліна была большая, нейкая аднагорбая. Галаўко ўчапіўся за выступ, пасіліўся зрушыць камень з месца. Не выйшла. Тады ён прысеў, расставіў ногі, упёрся ў камень рукамі і... паволі, як абяссілены, лёг тварам на асфальт.

---

[1] Салом, шураві!—прывітанне да савецкага чалавека.



Алейнікаў бачыў, як сяржант развёў рукі, нібы спрабуючы абняць зямлю. На аблінялым хэбэ пад левай лапаткай хутка павялічвалася цёмная пляміна.

Ён схапіў аўтамат і выскачыў з кабіны...

# ГУРКІ

Шчыравала лета. Дні стаялі адзін лагоднейшы за другі, а ночы раўняліся верабʼінаму кроку.

Рыгор Матушка прачынаўся з заранкаю. Абыходзіў нетаропка сад, агарод і клыпаў да сажалак. Тут, на шаўкавістым беражку, ён слухаў, як крычыць самы галасісты на вёсцы певень суседа Алеся. Жанкі ўставалі на дойку па ім ахвотней, чым па будзільніку. Тады і абуджалася вёска, абвяшчаючы дзень сваім бойкім рознагалоссем. Ужо днела. Рыгор вяртаўся да будана, дзе садзіўся рамантаваць скрынкі пад гуркі. Тахкаў малатком, бы той дзяцел, да пярэкліку жаўрукоў, а пасля разносіў скрынкі па міжрадкоўях гурэчнага поля. Як мог, стараўся дапамагчы жанчынам. Ім хапала таго, што праз усё поле выносілі такую цяжэру да дарогі ды падрываліся, каб падаць скрынкі з гуркамі ў кузаў «газіка». Вядома, стамляліся, але ж песні, жарты, смех не змаўкалі над полем з самага ранку і да змяркання.

Калі жанчыны на полі, Рыгор—каля будана. Сядзіць у цяньку на невысокім самаробным услончыку ды пасмыквае вуснамі пасля якога жарту. А ў час паўдзённай стомы пачынаюцца анекдоты. Вось ужо наслухаецца, што і сківі́цы ломіць, і жывот сцінае.

— А няхай вас чэрці!..—пырхне смехам Рыгор і зойдзецца рогатам.—І дзе вы іх бераце толькі?..



Была нядзеля. Над сцішаным полем чулася толькі, як клыпаў Рыгор ды часам пастукваў аб каменьчыкі жалезны наканечнік ягонай кульбакі.

Вяртаючыся каторы раз да будана па скрынкі, Рыгор напалохаў начлежніцу. Яна вылецела з гурэчнага гушчару і сiганула ў прыцемак.

— Ат, дурніца, збоч жа прайшоў бы,—усміхаецца ён і пераходзіць на кашачы крок.

Толькі цяпер стары заўважае вечаровую постаць.

А здарожанае сонца ўжо ўладкоўваецца на спакой за сіняватымі вершалінамі здалечанага лесу.

Рыгор спыніўся, акінуў вокам палетак і, задаволены, пачыкільгаў да будана. Пакашляў звыкла ў кулак, паставіў каля сцяны кульбаку, прымасціўся на ўслончыку.

Непрыкметна нараджалася зорнасць, паглынаючы апошнія напамінкі дня. Прыемная стома расслабляла цела. Зямля дыхала гарачынёю. Пахла прэлінай. З лугавіны, што ў міждоллі, побач з сялом, даплываў пах балотных пракосаў, а суседні палетак слаў казытлівы водар жоўтага лубіну і канюшыны.

Нечакана на дарозе пачуліся шаркатлівыя крокі.

Шах-шах, шах-шах, заграбалі ногі зямлю. Так магла плысці па палявой пясчанцы толькі ягоная Ганна.

— Ну, як ты тут? — прывіталася яна, скіроўваючы з дарогі да будана, і адразу загадала: — Мый рукі і вячэраць.

«Што прынесла цябе сюды? Чаму на ноч гледзячы?» — падумаў Рыгор, мосцячыся на ўскрайку лаўкі.

— Рыгор! Аглух ты, ці што? — незычліва прамовіла Ганна.

— Не чапляйся. Мыў ужо, — схлусіў ён незадаволена.

Смачна запахла кропам, свежай бульбай і маласольнымі гуркамі.

◆

Ганна сядзела за столікам насупраць Рыгора і непрыкметна пазірала на яго.

— Сэрца маё не на месцы, далібог. Чаму дзеці не едуць? — не стрывала нарэшце Ганна. — Хіба мо што здарылася?

— Кошка здохла, — буркнуў Рыгор, сцяміўшы, што Ганну сюды прывяла не адзінота.

— Не пляці кашалі. Ад самага вялікадня ні слыху ні дыху, а табе жарты.

— Паедзь сама. Час ёсць.

— А гаспадарку на каго?

— Якую гаспадарку? Парася ды куры?

— Няхай сабе, але ж і іх карміць трэба.

— Сам накармлю.

— Не, пачакаю да другое нядзелі. Мо хто прыедзе, быць таго не можа.

— Пачакай, пачакай да Пятра, недалёка.

— Балбатун ты, і больш нічога, — не стрывала Ганна і ўздыхнула.

— Няхай, — пагадзіўся Рыгор, хрумкаючы гурок, і адкрыта зірнуў на жонку. — А ўсё ж ведаю, чаму дачка не едзе.

— Чаму?

— Зяць хоча, каб ты яшчэ і сабе машыну купіла і на ёй ездзіла да іх у госці.

— Ты, відаць, не можаш сабе дараваць, што памог Алене купіць машыну? — з крыўдай прамовіла Ганна.

— Не памог, а купіў. І не Алене, а зяцю, — сказаў Рыгор.

— Ну, купіў. Няхай будзе па-твойму. Не чужому — дачцэ. Што, было б лепш, каб грошы даляжалі ў панчосе да нашай смерці, каб забраць з сабою на той свет?

— Ты, старая, нешта не ў той бок хіліш. Калі і што я ёй шкадаваў?

— Бо сам ніколі не меў нічога добрага.

— Меў, не меў, а жылі не горш за людзей.

— Толькі што жылі. Толькі і хапала на тое, каб сорам прыкрыць, — не схіляла са свайго Ганна.

— Не мялі пустое. Голыя не хадзілі і галодныя не былі. Бабе колькі грошай ні давай — усё роўна мала.

— Якія грошы ты тады меў? Адзін раз у канцы года капейкі на працадзень? А людзі жылі, бо ўмелі жыць.

— У-ме-лі жы-ы-ць, — перадражніў жонку Рыгор. — Умелі, бо кралі.





А ты хацела, каб і я краў?.. Не-е-э! Барані божа. Жылі, як маглі, і будзем жыць, як зможацца. Алене грэх крыўдаваць на нас. Выгадавалі, вывучылі і замуж аддалі. Чым змагу, і цяпер памагу. Я — бацька.

— Вядома, ты — бацька, а я — ма-ці, — распеўна, у задуменні сказала Ганна і ўздыхнула.

Усталявалася ноч. Цяплом і цішынёю яна лашчылася да старых, чакаючы нейкага адказу і падміргваючы мноствам вачэй далёкіх палахлівых зорак. Рыгор і Ганна думалі пра сваё — пра жыццё. Не лёгкае, кароткае, як гэтая ночка, а чалавечае жыццё. Ім было аб чым успомніць. Быў час, калі шчасцем поўніліся сэрцы. Але ж была і вайна, пакуты, было, што і бяда карміла крапівою і лебядою. Нядаўняя размова-спрэчка толькі ўскалыхнула іх прыцішаныя пачуцці.

Першая здалася Ганна. Няспешна ўстала, абышла столік і села побач з Рыгорам.

— Як нага? — спыталася яна, кладучы на яго калена шурпатую руку. — Не баліць?

— Нічога, можна трываць, — прызнаўся Рыгор і махнуў рукою, быццам адганяў ад сябе надакучлівую думку. — Нага як нага. Што ты хочаш? Сабралі. Хоць і крывая, як дуга, а не пратэз — свая.

Рыгор зірнуў на гадзіннік і прыспешыў жонку:

— Час позні. Збірайся, а мне яшчэ поле абысці трэба, да сажалак трапіць.

— Што ты пакінуў на тых сажалках? У такую пазнечу добрыя людзі на другі бок павярнуліся, — паспрабавала затрымаць Рыгора Ганна.

— Добрыя, вядома, павярнуліся, а для злодзея законы не пісаны.

Рыгор узяў кульбаку і ціхенька паклыпаў да саду.

— Глядзі ж, не бауся там. Не будзі пеўняў дачасу, — гукнула Ганна наўздагон Рыгору, і хутка яе невысокая постаць накіравалася да вёскі.



Ранак купаўся ў ліпкім тумане, які хутка растварала сонейка. Устоеная за ноч цішыня поўнілася дзённымі турботамі.

Сон у гэтую часіну самы смакаўны, але не ляжалася. Прыгадалася Ганна са сваім трызненнем дачкою, і яму таксама стала неспакойна. Пасля той размовы з жонкай прайшоў тыдзень.

«Ну, калі ўжо і сёння не прыедуць, то па палудні Ганна папрэцца ў горад сама. Яе душа трываць больш не зможа», — падумалася Рыгору.

Ён паспрабаваў успомніць, калі дачка з зяцем прыязджалі да іх апошні раз, але так і не змог. Хутчэй за ўсё напрадвесні. Здаецца, усё было ладком, крыўдаваць не павінны. Адпачылі, пагутарылі, нават у нечым памаглі старой па гаспадарцы. Праўда, з такой гаспадаркаю, як у яго, і аднарукі ўправіцца. А як з'ехалі — ні вестачкі. Няўжо гарадскім так цяжка выбрацца на гадзіну-дзве да бацькоў у вёску?

Рыгор чуў, што гарадскім, калі хто хоча, даюць дачы. Так, трэба нечым заняць чалавека. Толькі хто аддасць пад дачы культурнае поле? Дурні перавяліся. А ўсцілаць чарназёмам пясчаную выселку — тое ж, што напарсткам вычэрпваць крыніцу — хай яно прэе.

«Ні садзіць, ні палоць не трэба. Прыедзь ды хаця гатовае вазьмі, — зноў падумаў пра сваіх Рыгор. — Дамашняе — не з рынку. Грошы плаціць не трэба, а лішні рубель у кішэні не муляе. Дачка не павінна крыўдаваць, унучкі таксама, а зяць... — лежачы, Рыгор паціснуў нават плячыма, — чужую думку не прачытаеш. Мужчына ён увішны, не гультаяваты, як іншыя. Аднак і сэрца да яго чамусьці не ляжала, хаця іншы раз пры людзях мог пахваліць яго. Няхай бачаць, што не горшы, чым у другіх. Праўда, такое выпадала рэдка. Часцей крычаў на Ганну, бо вельмі ж ужо хваліць умела, але не пры людзях.

— Чаго раскудахкалася? Не мялі языком дарэмна. Без цябе ўсе ведаюць, што кожная курыца свайго пеўня хваліць...

Унучак сваіх Рыгор любіў больш чым каго. Ледзь толькі яны забягалі на падворак, як чулася іх вясёлае: «Дзядуля-бядуля! Дзе ты? Стрэнь нас на парозе!» І Рыгор страчаў. Заўсёды з падарункам. То ляльку-прыгажуню купіць у магазіне, то пачак добрых цукерак, а часцей — прыгожую кніжку. Іншы раз страчаў праз сілу (больш трох гадоў не зрасталася нага пасля таго, як зімою ўпаў са сцірты на мёрзлую зямлю).

Добрыя растуць дзяўчаткі: прыгожыя, паслухмяныя, круглыя выдатніцы. Такімі не цешыцца — грэх. Прасіў дачку, каб пакінула ў вёсцы на лета, ды дзе там... Не паспеюць у хату ўвайсці, як ужо дамоў збіраюцца.

Рыгор вельмі любіў дзяцей. Сваю дачку гадаваў тады, калі сам толькі пачынаў жыць. Ды так і не асмакаваў гэтага шчасця. Не паспеў і вокам міргнуць, а гняздо — пустое.

«Вось і выходзіць каламута. Людзі хоць ад унукаў радасць маюць. А я сваіх бачу, як на Пятра сонца. Ляжы во, дзед, ды думай, калі і чым мог пакрыўдзіць дачку і зяця. А можна было б адпачываць, жыццём цешыцца. Не было спакою ў маладосці, не будзе яго і на старасці», — падумаў Рыгор, вылазячы з будана.



А дзень набіраў моцы. Лёгкая пара ўзнімалася ад зямлі (не здоўжылася яшчэ пасля дажджу). Яна несла кволы напамінак свежай рошчыны.

«Даўней так пахла ў хаце, калі ў дзежцы падыходзіла цеста на хлеб, — прыпомнілася Рыгору. — Цяпер такога хлеба не пякуць, а дзежкі тыя — музейная рэдкасць. Нават пірагі на свята мала хто пячэ. Больш тартамі ласуюцца. Во якое жыццё прычакалі старыя людзі! У магазінах тых усё, што толькі душа пажадае. Нават «Птушынае малако». І трэба ж прыдумаць тое!..»

Рыгору прыпомнілася, як аднаго разу, калі Ганне споўнілася пяцьдзесят гадоў, дачка пачаставала іх «Птушыным малаком». Ну і несмач, нічога ён у ім не знайшоў. Пячы не ўмеюць, ці якая трасца? Але што ж — пяклі не для сябе. Мо цяпер, як людзі пачалі ствараць розныя каапératывы, хоць смачней гатаваць будуць, бо не прадасі — не пражывеш, як кажуць, — гаспадарчы разлік. Час пакажа, хто на што здатны.

Каб разагнаць свае думкі, Рыгор пасіліў рукою аб скрынку, нахіліўся і разоў колькі глыбока ўдыхнуў свежай пары, што вывівалася над буйным гурочнікам.

Палягчэла. Вабны пах павеяў нечым прыемным, здавалася, нават закружыў галаву.

Прыпадымаючыся, Рыгор амаль не страціў раўнавагі. Адступіўся на некалькі крокаў назад, намацаў кульбакаю лаўку і з крэктам усеўся.

Паводдаль нешта зашаркацела, пачуўся кашаль. Рыгор азірнуўся. Па дарозе, матляючыся ў пяску з боку ў бок ад таго, што заносіла, на веласіпедзе пад'язджаў сусед Алесь. Сарочка на ім мокрая ад поту, твар таксама змакрэў.

Алесь спыніўся каля століка і сказаў, нават не прывітаўшыся:

— Ся-дзі-і-іш? У хаце госць, а ты тут на сонцы зубы сушыш.

— Ну, дачакалася, слава богу,— з палёгкай абрадаваўся Рыгор, устаючы з лаўкі.— Дзякуй, Алесь, за добрую навіну.

Пераклаўшы кульбу пад паху, двуруч прывітаўся з суседам і адразу ж, кульгаючы, пусціўся да вёскі.

— Ровар бяры! — крыкнуў наўздагон Алесь.— І не спяшайся, я папільную.

— А-а-ай! — адмахнуўся Рыгор.— Я напрасткі. Так бліжэй.

◆

Падыходзячы да хаты агародам, Рыгор убачыў на падворку чырвоную «Ладу». Весніцы, як заўсёды, былі адчынены насцеж.

Чамусьці ўспомнілася, што зяць ніколі не пакідае машыну на вуліцы. Нават тады, калі прыязджае на хвіліну. І весніцы зачыняць за сабою не прывык.

«Хвалько,— падумаў Рыгор,— гонар трымае. Ведайце, маўляў, нашых. Не хто-небудзь, не чужынец нейкі праездам спыніўся ля хаты, а зяць, ды яшчэ на ўласнай «Ладзе».

Пакуль стары зачыняў піскплявыя весніцы, з хаты на ганак выйшаў зяць.

— Здароў, татка!

— Добры дзень, сынку. Добры дзень,— ласкава прывітаўся Рыгор, гледзячы на вясёлага зяця.

Хацелася спытацца: «Чаму ж гэта вы забыліся пра старых?» А сказаць не адважыўся. Не змог адразу ж у вочы выказаць сваю крыўду.

— Ну, як вы там? Ці здаровыя хаця, а то мы з мацераю ўжо ўсялякае перадумалі? — пацікавіўся.

— Дзякуй, татка, нічога — здаровыя. Прывітанне табе ад дачкі і ўнучак.

— А чаму яны не прыехалі?

— Алена павезла дзяўчынак у піянерскі лагер.

— Ну і добра, калі так. Малайчына, што прыехаў. Дзякуй. А дзе ж гэта маці?

— У хаце,— адказаў зяць.

— Чаго вы стаіце на двары? — пачула і выйшла на ганак Ганна.— Уваходзьце ў хату. Я ўжо сняданак сабрала. Мабыць, не еўшы паехаў? — звярнулася яна да зяця.

— Не ўпершыню,— махнуў той рукою.

— То ж яно і кепска, так і да язвы недалёка. Курыш, нябось? — прашчабятала старая і з дакорам зірнула на Рыгора.— Я чула, што ты зноў пакурваеш?

Рыгор не стаў спрачацца.

— Ты ідзі, Віця, а я трохі твар памыю,— сказаў ён зяцю.

— Дык я палью,— напрасіўся Віктар.

Пакуль Рыгор здымаў кашулю і майку, зяць вынес з хаты вядро вады, кубак і, зачарпнуўшы з вядра, пачаў паліваць цесцю на шыю, на плечы.

Хвілін праз колькі мужчыны ўвайшлі ў хату і селі за стол. Ганна ўвішна завіхалася каля іх, нават прынесла бутэльку «Маскоўскай», выцерла фартухом і падала старому.



— На вось, прыхавала. Выпіце па чарцы для апетыту.

— Татку можна, а мне не,— сказаў зяць.

— А божухна, аб чым ты, Віцечка? Пакуль да таго руля, то забудзешся, як яна пахла. Табе ж не на працу. Адпачнеш, сходзіш на рэчку. Я ўчора венцяры паставіла. Душа як чула, што ты прыедзеш.

Рыгор напоўніў «стограмоўку», падаў зяцю.

— А сабе? — напомніў той.

— Я, сынку, сваё адпіў.

— Ну, выпі ўжо. Чаго фанабэрышся? — уступілася Ганна.— Іншы раз з-пад зямлі дастанеш і каўтнеш.

Выпілі па чарцы, закусілі. Зяць усміхнуўся.

— Алену запісалі ў таварыства цвярэзнікаў, а цяпер і да мяне дабіраюцца. Насядаюць...

— І ты пішыся, раз начальства хоча,— сказала Ганна.— Думаеш, калі выйшаў закон, то начальства не п'е?.. Пішыся і ты. А захочаш выпіць — ніхто не забароніць. Выпі, каб не бачылі.

— На які чорт тады пісацца? — не стрываў Рыгор.— Дзеля чаго?

— А што рабіць, калі ўсе пішуцца? — не здавалася Ганна.

Зяць задаволена засмяяўся. Ён добра ведаў цешчу, і яму падабалася, што яна заступаецца за яго.

Рыгор зноў напоўніў чаркі, але піць не стаў. Госць адным махам перакуліў сваю, счакаўшы — і цесцеву. Падсілкаваўся. Загаварыў пра дзяцей, скардзіўся, што не хапае часу, што збрыдла ездзіць кожную нядзелю ў калгас на сенакос.

Гледзячы на яго, Рыгор падумаў: «Не, сынку, не часу ў цябе не хапае, а сумлення. Кепска, калі чалавек губляе яго, а яшчэ горш, калі ніколі не меў».

А госць ужо хваліў сваіх новых сяброў, бо тыя дасталі на ягоную машыну шыны. Прызнаўся, што хочуць прызначыць галоўным інжынерам, і ўсё плюскаў сваімі мышынымі вачанятамі, ад чаго Рыгору рабілася балюча, нібы драпалі па старой балячцы.

— Пайду,— заспяшаўся і ўстаў з-за стала.

Зяць таксама падхапіўся.

— Я з вамі.

— Да агарода рукой падаць, а ўдвух здалечыцца,— спыніў яго Рыгор.

— Ты лепш адпачні, трохі сасні,— Ганна прапанавала госцю прайсці ў другі пакой.

Рыгор і Ганна выйшлі на вуліцу.

— Пакуль будзе спаць, збяры гуркі,— напомніў Рыгор.— Вячэру не нясі, сам прыгатую.

— А ты скажы Алесю, што за гэтага паўдня адраблю яму на сене,— папрасіла Ганна.

Рыгор не адказаў, нетаропка падаўся на аселіцу.

◆

Рыгорава жытло нават здалёк вабіла людское вока. Збудаваў, як намаляваў — мандрэй не прыдумаеш.

Летась, калі Рыгора Матушку прызначылі вартаўніком, аграном хацела прыцягнуць на агарод вагончык. Рыгор запратэставаў:

— У вагончыку жыць занадта ганарова. Я, як стары жораў, сам зляплю для сябе гняздо.

І зрабіў. Прывёз з лесу жэрдак, абчасаў, збіў кроквамі, з сена выклаў страху ды сцены, павесіў дзверцы, з трох бакоў уставіў па акенцу, вымасціў ляжанку. Збоч ад будана змайстраваў столік, дзве лаўкі, побач выкапаў невялічкі склеп.

Моцная, прыгожая атрымалася будыніна. Нават жанкі прыходзілі сюды, каб адпачыць.

Нехта з жанок прынёс старэнькі прымус. Рыгор адрамантаваў яго, начысціў да бляску, купіў у горадзе ліхтар на шасці батарэйках і нават ружжо прыдбаў. А на ўскрайку саду, які мяжуе з агародам і сажалкамі, адшукаў забытую людзьмі і богам крынічку. Ачысціў, зладзіў зрубок, дно асвяжыў жвіркам. Ажыла крынічка. Ніхто не праміне, каб не пасмакаваць. Нават сталі называць Рыгорава крынічка.

Падыходзячы да агарода, Рыгор яшчэ здалёк убачыў, што Алесь спіць, паклаўшы галаву на столік.

«Э-э, браце, з цябе вартаўнік, як з мяне касманаўт», — падумаў Рыгор, спыніўся побач. Не стрываў, з усёй сілы жарнуў па стале кульбакаю.

Алесь саскочыў з лаўкі, завойкаў.

— Здоўжылася нешта. Задрамаў, — вінаваціўся ён, плюскаючы, як сава, вачыма, і змахнуў з ілба рукавом кашулі буйныя кроплі поту. — Але ж і жарыць, як у пекле!..

Рыгор бачыў, што Алесь адчувае сябе, як акунь на патэльні. Пра жончына дакляраванне за гэтую мядзведжую паслугу змаўчаў. І нават не падзякаваў — не паварочваўся язык. Моўчкі пацісну мясістую Алесеву руку: лайся, сварыся ды хутка мірыся, бо сусед — самая блізкая радня, узяў у будане вядро і пачэпаў да крыніцы.

Ужо змяркалася, калі на агарод завітаў зяць.

— Ці злавілі рыбы? — пацікавіўся Рыгор, седзячы на зэдліку каля будана.

— Рыбы? — весела перапытаў зяць. — Злавілі. Кілаграмаў пяць. Маці ў нас рыбак во-о-о! — паказаў ён рукою, адтапырыўшы вялікі палец. Можа, пакінуць трохі?

— Пакінеш — дзякуй! А не пакінеш — таксама добра.

Зяць адчыніў багажнік, дастаў з сеткі два таўшчэзныя ліны, падышоў да Рыгора і паклаў на стол.

Рыбіны зашчоўкалі, заскакалі. Зяць перахапіў іх, шмякнуў галовамі аб стол.

— Жы-ву-чыя, за-ра-за!.. Давай юшку зробім, — прапанаваў ён цесцю.

— Можа, і юшку згатуем, калі час не на хвасце, — Рыгор адкрыў лючок схованкі-склепіка, дастаў адтуль кошык з бульбаю.

— Ты, татка, як дачнік, усё пад рукою, — здзівіўся зяць, дастаючы з кішэні сцізорык.

Праз паўгадзіны пасвістваў прымус, у каструльцы булькала юшка, дражнячы пахам. На століку з'явіліся хлеб, шчыпіры цыбулі, сала. Знайшліся міска, драўляная размаляваная лыжка і нават молаты перац у невялічкай бляшанцы.

Юшку чэрпалі па чарзе. Стары хутка наеўся, а Алесь папрасіў дабаўкі, стаў расказваць, як маці выцягвала з вады венцяры з рыбаю.

Не заўважылі, як на зямлю апускалася ноч.

— Што, паедзеш? — запытаўся Рыгор, калі зяць падняўся з лаўкі.



— Трэба ехаць...

— Усім прывітанне ад нас, а гэта ўнучкам на падарунак, — сказаў Рыгор, штосьці падаючы зяцю.

— Зана́чка? — спытаў той, беручы.

— Курыць кінуў.

— Правільна, — пахваліў зяць. — Здароўе даражэй.

— Якое ўжо тут к чорту здароўе? Аб ім трэба было думаць, як малады быў, — прызнаўся цесць, прыбіраючы са століка.

Зяць тым часам падышоў да машыны.

— Татка, я вазьму гуркоў? — пачуў Рыгор.

— Хіба маці не выбрала сваіх?

Алесь не адказаў. Рыгору падумалася, што, магчыма, сапраўды жонка забавілася з тою рыбаю і не паспела выбраць. Але ж не можа таго быць. То ўсё гаравала, што ніхто не едзе па гуркі, а тут...

— Вазьмі! — вырвалася ў Рыгора з грудзей.

Зяць пайшоў на агарод, а Рыгор накіраваўся да крынічкі па ваду, каб памыць посуд: засохне — і нажом не адскрабеш.

Ішоў час. Рыгор прынёс вады, а зяця не відаць. Быццам згінуў. На душы было нядобра. «Крыкнуць, — падумаў Рыгор, — самому сорамна. А крый бог хто пачуе? Тады хоць скрозь зямлю праваліся...»

Сам не ведаючы чаму, падышоў да машыны. Адчыніў дзверцы. На заднім сядзенні горбіліся два салевікі. «Гуркі, — падумаў Рыгор і ледзь не папярхнуўся. — А што ж тады яму трэба? Няўжо мала?»

Ён хацеў зачыніць дзверцы, паклікаць зяця. Павярнуўся — стаіць перад самым носам, трымаючы скрынку з гуркамі.

— Сы-но-ок, навошта? — вырвалася ў Рыгора з грудзей амаль што не з крыкам.

— Трэба, хлопцам за шыны. А ты не бойся, татка, калгас не пабяднее. Вунь якое поле! — пачуў у адказ Рыгор.

— Пры чым тут поле? Што пра мяне людзі скажуць? Я ж за сваё жыццё саломінкі нават не ўкраў...

— І дарма. Другія ж бяруць.

Рыгор узяў зяця за рукаў, ступіў крок, каб пераменіць нагу, і загадаў:

— Выгружай!

Зяць, відаць, разгубіўся, бо маўчаў.

— Ты што, бацька? — нібы здзівіўся пасля.

— Выгружай! — перуном пракаціўся паўторны загад Рыгора. — Бач, паганец, сваіх гуркоў яму мала!.. Я табе пакажу вялікае поле!..

Той кінуў вобзем скрынку.

— Ладна, — сказаў, — я больш к вам не прыеду.

— І не прыязджай, калі ты такі...

Зяць падаўся да машыны. Сеў і хутка рвануў адсюль.

Моршчачыся, Рыгор доўга пазіраў услед машыне, адчуваючы, як усё мацней баліць яго натруджанае сэрца...

© PDF: Kamunikat.org 2016
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016



*Мікола Маляўка*

## ЦІ СЯБЕ ПЕРАЙНАЧЫМ?..

Ты зямлю берагла адвеку,
Ты любіла звяроў і птушак
І спрыяла ты чалавеку,
Беларусь — запаведная пушча.

Сінявокая, добрая, мілая,
Прыручалі цябе і ласкай,
Прыручалі цябе і сілаю
Пад любві карнавальнаю маскай.

Акупацыя зброяй бразгала,
Гаспадарылі люта чужынцы —
І крыжы, і магілы брацкія
Падняліся пры кожным гасцінцы.

Ты прыблудам ліхім не скарылася:
І падполле збірала ў бараку,
І адкрыта, на мове Скарыны,
Партызан падымала ў атаку.

Яны выжылі, песні і казкі,
У няволі, за дротам калючым.
А сягоння мы, безадказныя,
Самі крыўдзім цябе і мучым.

Ад чарнобыльскай радыяцыі,
Звар'яцеўшы, сабака вые,
Як даўней, у дні акупацыі,
Апусцелі вёскі жывыя.

Пладаносіць зямля, а не цешымся,
Ураджаям высокім не рады:
У духмяных яблыках — цэзій,
У разварыстай бульбе — нітраты.

Ад духоўнай меліярацыі
Задыхаецца родная мова,
Гістарычная памяць траціцца —
Радаслоўнага дрэва аснова.

Разумеем і самі, галоўнае,
Пакідаем якую спадчыну,
А маўчым —
Апусціўшы галовы,
Прытвараемся, быццам не бачым.

Ці сябе перайначым,
Адолеем
Вось такіх —
Нямых, невідушчых,
Каб цябе зберагчы, як долю,
Беларусь — запаведная пушча?..

## ТАК БЫЛО

Ад народа ўтойвалі праўду,
А суровая праўда — адна:
У імя́ шчаслівага заўтра
Вялася з народам вайна.

На кладáх і ў архівах тайных
Адкрываем злачынстваў сляды,
Адкрываем, хоць цяжка вяртацца
У сталінскія гады́.

Пракуроры кругом...
За трыбунай —
Адвакатам месца няма.
І трыбуны нагадвалі труны,
Пастаўленыя старчма.

Вытрасалі душу з чалавека,
Праклiналі, нібы сатану,
І прысуду пáдала века
На ўмоўную тую труну.

Так было...
Хоць усіх, хто загінуў,
І хавалі тады не ў труне,
А закопвалі ў брацкіх магілах,
Як на сапраўднай вайне.

## КАІНАВА ПЯЧАЦЬ

Людзей не цаніла эпоха.
І за жыццём у чарзе
На Сталіна, як на бога,
Маліліся каіны ўсе.

Паклёп страчылі спакойна,
З трыбуны крычалі ўзахлёб —
І ён дзяржаўнай рукою
Благаслаўляўся, паклёп.

Спявалі пра мір піянеры,
А іх бацькі і дзяды
Баяліся стуку ў дзверы,
Як самай вялікай бяды.

Віну выбівалі сілай,
І лёгка было суду:
Не ўстануць ахвяры з магілы,
А значыць — канцы ў ваду.

«Забойцы!» — клялі ахвяры.
Пра гэта суддзі маўчаць,
Ды праступае на твары
Каінава пячаць.

У сіле яно, праклятце,
І па сягонняшні дзень —
І цяжка з такой пячаццю
Схавацца ў мінулага цень.

Баяцца каіны праўды.
Згубіўшы душу не адну,
Яны на Сталіна прагнуць
Зваліць і сваю віну.

Маўляў, і караў найболей,
І мілаваў ён, уладар.
А хто ўладару, як богу,
Ахвяры прыносіў у дар?

Ці, можа, былі не рады,
Калі ад бога ў Крамлі
Атрымлівалі пасады,
І званні, і медалі?

Пра тое, за што ўзнагароды,
Яны, вядома, маўчаць,
Ды іх выкрывае заўсёды
Каінава пячаць.

Рэабілітаваны ахвяры,
А ім — апраўдання няма:
І смерць не сатрэ на твары
Ганебнай пячаці-клейма.

## ЧАРНОБЫЛЬСКАЕ ПОЛЕ

Не стануць намалотам
Зярняты збажыны,
А полем мёртвым потым
Узыдуць зноў яны.
Спакойна ўсё нібыта
Ў прыродзе і ў жыцці,
І будуць птушкі жыта,
Як і раней, дзяўбці.
А нас гняце здагадка:
Іх шмат, такіх зярнят,
І кожнае зярнятка —
То ядзерны зарад.
І ўжо не птушкі гэта,
І ўжо баімся іх,
Бо кожная — ракета
На крыльцах трапяткіх.
Як з ядзернай пляцоўкі,
З палетка збажыны
Зярнят боегалоўкі
Нясуць у свет яны,
Нясуць, каб свет захмарыць
Ля чыстых ніў, крыніц,—
Няма для іх радараў,
Няма для іх граніц.
Пад гнётам нашы душы:
Парушан вечны лад
Сярод людзей, і птушак,
І сонечных зярнят.

## ШЧАСЛІВЫ СТРАХ

*Які я шчаслівы, што мама*
*жывая,*
*Да страху шчаслівы.*
Уладзімір Паўлаў

Ты шчасцем дзяліўся з сябрамі.
Не дачу, а край свой маеш
І нас, грыбнікоў, сабраўшы,
Вазіў у Замошша, да мамы.

Магільны грудок аплывае,
Глушэе трава ў агародзе.
А ў снах яшчэ мама жывая,
Цябе выглядае, Валодзя.

Ты з горада рвешся да мамы,
Адтуль, з-пад роднага даху,

Баішся начной тэлеграмы
У сне ты, шчаслівы да страху.

Прачнешся, трывогай працяты,
І раніца шчасце адніме:
Убачыш не матчыну хату —
Магільны грудок на радзіме.

Не вечныя мамы, Валодзя,
Не вечнае шчасце таксама:
Да кожнага з нас прыходзіць
Жалобная тэлеграма.

Ты боль на людзях астудзіш
І смутак прагоніш, як смагу,
Ды ўжо ніколі не будзеш
Такім шчаслівым — да страху.

А свет смяецца, спявае,
Склікае гасцей на бяседу.
Я рады, што мама жывая,
Чакае, калі я прыеду.

Баюся начной тэлеграмы,
Званка начнога баюся.
Паедзем, Валодзя, да мамы,
Я шчасцем з табой падзялюся.

## СЛОВА

Божа мой!
Як клапоцяцца аўтары,
Каб імя не забылася заўтра...

Ну а слова, яно — не вечнае,
Калі ў слове няма адкрыцця,
Калі слова не забяспечана
Залатым запасам жыцця.

Мы не ведаем імені аўтара,
А вялікае «Слова» жыве —
І, хвалюючы нас, у заўтра
Лебядзінаю песняй плыве,
І пяшчотна гучыць,
І сурова...

Галоўнае,
Не імя пакінуць, а Слова.

## ВЫСОКІ ГОСЦЬ

Сустрэла маці з пяшчотай,
А бацька — ляжыць на пагосце:
Не дачакаўся з палёту
Яго, дарагога госця.

Адтуль ён,
З блакітнага неба,
Спусціўся ў зямныя будні —
Бліжэй да надзённага хлеба,
Бліжэй да надзённай бульбы.
Высока ўзносяцца дзеці,
Не бачаць, як маці старая
Вось тут,
На зялёнай планеце,
Жукоў каларадскіх збірае,
Змагаецца з пустазеллем,
Рыдлёўкаю бульбу капае —
На рукі адны і ў нядзелю
Работы чорнай
Хапае...
І ён не заседзіцца дома —
У маці, на роднай планеце:
Ад яблыкаў ранніх аскома,
А думкі —
У космасе недзе.
На маці глядзіць з хваляваннем,
Абводзіць вачыма падворак —
Не знае, ці ў дзень пахавання
Адтуль прыляціць ён,
З-пад зорак.

## ПЛУГ

Роўнае поле, як луг.
Дык чаму, бы ўначы,
Ты спатыкаешся, плуг,
Баразной ідучы?

«Памяць трывожыць мяне
Кожны раз, як удар:
Тут ляжыць на вайне
Сейбіт — мой гаспадар.
І на дне баразны
Ён гарыць, успамін,
Як гарэлі яны —
Жонка яго і сын.
Дымам у памяць сплыл:
Хата, гумно і хлеў.
Тут, на гэтай зямлі,
Я адзін ацалеў...»

Хлеб патрэбен жывым.
І, закончыўшы круг,
Зноў на месцы старым
Спатыкнуўся ён, плуг.

## ЧАКАЮ АДКАЗУ...

Распалася рук вязьмо.
Ты стала далёкаю марай.
І шлю я табе пісьмо —
У сінім канверце хмары.

Разбудзіць кропелек стук,
А ў стуку тым — заклінанне:
Вярніся да вуснаў і рук,
Да сэрца вярніся,
Каханне!..

Закрыўшы вочы, гляджу,
Як ты ў замужняй цямніцы
Чытаеш радкі дажджу
Пры яркім святле бліскавіцы.

Не кропелькі б'юць у акно,
А чыстай слязою сплывае
Адно толькі слова,
Адно:
Ка-ха-ю...
Ка-ха-ю...
Ка-ха-ю...

Адказу чакаю ўвесь час,
Як быццам і праўда з мары
Ён прыйдзе, жаданы адказ,
У сінім канверце хмары.



Пакуль ад'ютант перакладаў ягонае выслоўе, аўтаматчыкі паслужліва шчоўкнулі абцасамі і подбегам кінуліся ў бок барака.

Неўзабаве адтуль пад'ехала пяць вялізных грузавікоў, крытых брызентам. З кожнага кузава вылезла па чатыры аўтаматчыкі.

Пасля таго, як палкоўнік перамовіўся аб нечым з Брэсам, камендант уголас паклікаў:

— Паўль, хадзі сюды!

Паўло неахвотна выйшаў са строю і нехаця рушыў за брамку. Брэс нешта растлумачыў яму і рукою паказаў на крэсла за столікам. Паўло нерашуча заняў вакантнае месца, відаць, разумеючы, што яно прызначалася для кагосьці іншага.

Палкоўнік злосна прашвэркаў два сказы, якія лейтэнант адразу ж пераклаў:

— Раз вы добраахвотна не выходзіце гуртам, прыйдзецца сілком выводзіць па адным. Паліцаі, выцягвайце іх!

Прадчуваючы небяспеку, строй насцярожана скурчыўся і пад ударамі наглядчыцкіх кіёў сутаргава захадзіў хадуном.

Выгараджаная перад школаю тэрыторыя была цеснаватая для палонных, сагнаных з абодвух лагераў. Каб зручней размясціць іх тут, паліцаі з наглядчыкамі вымушаны былі выстраіць калону ў шэсць шарэнгаў. Зашчэмленая паміж будынкам і агароджаю, яна раз-пораз балюча ўздрыгвала, як суцэльная жывая істота, з якой нацкаваныя, нібы сабакі, наглядчыкі жыўцом выгрызалі непадатлівыя ахвяры.

«Сярожа!», «Петрык!», «Андрэйка!» — жаласліва лямантавалі няшчасныя, просячы літасці ў прыганятых. Але найміты ў адказ толькі злосна пакрыквалі: «Маўчы!», «Не трапячыся!», аднаго за адным асуджаных выштурхваючы аўтаматчыкам, якія выстройвалі іх па два дзесяткі і заганялі ў грузавікі пасля таго, як Паўло запісваў нейкія звесткі пра кожнага.

Палонным некалі было сачыць за тым, менавіта каго павалаклі ўжо са строю, таму што кожны быў заняты самім сабою і, насцярожана скурчыўшыся, толькі і думаў, як бы не прыглянуцца раз'юшаным наглядчыкам і не трапіць ім у лапы.

Сіліч спачатку інтуітыўна адчуў, як у яго за спінаю, брыдка лаючыся, валтузіцца нехта з паслугачоў, і толькі потым убачыў, што Задзіра з нейкім паліцаем павалаклі пад рукі Леаніда. Сябра ўпарціўся з усяе сілы, не перастаўляў ног і калодкамі да самай зямлі разворваў зляжалы снег. Міхасю чамусьці здалося, што гэта прымусова вырываюць з калоны не людзей, а зубы — са сківіцы. Яму зрабілася балюча-балюча, як быццам у яго самога замест хворага вырвалі здаровы зуб.

— Пан, я не салдат, — заканючыў перад палкоўнікам высокі сутулы здаравяк, якога два паліцаі ледзь выпхнулі за брамку. — Я — наглядчык з дома псіхічна хворых. Іх расстралялі вашы салдаты, а мяне прывезлі ў лагер.

Палкоўнік не разумеў, што ён лямантуе. Лейтэнант пераклаў словы здаравяка.

— О, дык ты ж — асілак! Табе лёгка будзе выцягваць раненых, — знайшоўся палкоўнік.

Аўтаматчыкі далучылі здаравяка да купкі адлічаных палонных.



Час ад часу ў паветры чуліся глухія ўдары кіёў, якімі як быццам выбівалі шорсткія палавікі ці шчыльныя дываны.

Двое паліцаяў загрудкі вывалаклі са строю Вырвіна, але той як клешч упіўся ў калону. На дапамогу ім кінуўся Задзіра, які наўзмах агрэў кіем перш па адной, а пасля па другой руцэ палоннага.

Калі выштурхнутага Вырвіна за брамкаю падхапілі аўтаматчыкі, ён разгубленым няўцямным позіркам паглядзеў на каменданта і толькі абыякава махнуў рукою.

Апусцелыя месцы ў вышчарбленай калоне імгненна запаўняліся: спрытнейшыя спяшаліся схавацца ўглыб яе, а болей марудлівыя спераду і ззаду адразу ж змыкалі разарваныя шарэнгі, не жадаючы заставацца прыступнымі, бо спадзяваліся, што наглядчыкам цяжэй падступіцца да шчыльнага строю і нязручна вырываць з яго кожную ахвяру паасобку.

— Як ні хітры ўчалавек, а ўсё роўна нічога не выгадаў, — пачуў Сіліч за спінаю Хяндогаў голас. — Не схаваўся ў лесе, а добраахвотна вярнуўся за калючы дрот. Але і тут не далі спакойна адседзецца.

Хлопец убачыў, як справа два паліцаі павалаклі са строю Гладыша. Той, як ні ўпіраўся, але не здолеў супрацьстаяць дужым бамбізам, што выштурхнулі яго праз брамку.

— Гер камендант! Гер шэф! — звярнуўся Гладыш за дапамогай да Брэса, калі аўтаматчыкі падхапілі яго пад пахі.

Але камендант наўмысна адвярнуўся, робячы выгляд, што нічога не чуе і не бачыць.

«Значыць, недарэмна некаторыя падазравалі, што Гладышава жонка за золата выкупіла мужа з лагера. Бо інакш чаго б Гладыш напаследак шукаў заступніцтва ў каменданта?»

— Сволачы! — выдыхнуў у Міхасёў карак Хяндога — і насцярожаны хлопец убачыў, што два паліцаі павалаклі да брамкі Казнадзея.

«Яшчэ добра, што Паўла Брэс пасадзіў за столік. Па знаёмству ён адразу выцягнуў бы мяне са строю, — падумаў хлопец, не трапляючы зуб на зуб ад хвалявання. — Няўжо яны думаюць, што набранае гэтакім чынам войска сапраўды будзе ваяваць на іх баку?»

Ці таму, што раніцаю адлёг мароз і падзьмуў заходні вецер, ці ад празмернага напружання і нервовай узбуджанасці хлопец не адчуваў ніякага холаду, хаця наглядчыкі правалаводзіліся з палоннымі ўжо нямала часу.

Калі чацвёра апошніх аўтаматчыкаў хацелі дадаць да купкі адлічаных яшчэ некалькі палонных, каб дагрузіць астатнюю аўтамашыну, за брамкаю адбылася затрымка.

— Пан, я не ваеннаабавязаны. У мяне белы білет. Я каўбаснік з мясазавода. Мяне ўзялі з земляных работ, дзе мы капалі супрацьтанкавы роў, — збіўчыва лапатаў дробны лядашчы палонны, якога адзін паліцай лёгка выправадзіў за брамку.

— Што ён кажа? — насцярожыўся палкоўнік.

Лейтэнант паслужліва пераклаў.

— Там таксама будзе мяса, — не раздумваючы, выпаліў палкоўнік і паказаў рукою, каб аўтаматчыкі далучалі лядашчага да апошняй купкі.

Нарэшце гвалтоўная мабілізацыя закончылася. Камендант упусціў Паўла за агароджу і зачыніў за ім брамку. Калі фельдфебель узяў у рукі

партфель, папярэдне схаваўшы ў яго самапіску і гросбух, аўтаматчыкі склалі столік з крэслам і залезлі ў кузаў задняй аўтамашыны.

Напэўна, для бяспекі нямецкія чыны занялі ў грузавіках месцы адпаведна званням: у кабіну першага сеў фельдфебель, у кабіну другога — лейтэнант, у кабіну трэцяга — палкоўнік. Адразу ж адзін за адным стрымана завуркаталі рухавікі — і калона аўтамашын рушыла ў дарогу. Следам за ёй камендант крывым цыркулем ног мераў адлегласць ад агароджы да барака. Сягоння ён упершыню не аддаў ніякага загаду раскілзанаму і нявыраўненаму строю.

Не чакаючы каманды разгубленых паліцаяў і наглядчыкаў, змучаныя ў чаканні вырашэння сваёй долі, расслабленыя палонныя самавольна пакідалі калону і валачыліся ў будынак.

На тым месцы, дзе штодзённыя пастраенні па кандзёр шчыльна ўтрамбавалі снег, на якім толькі што адбылася разбойная валтузня, цяпер чарнела перамешанае з зямлёй котлішча, здратаванае сотнямі няўклюдных калодак.

Набухлыя хмары, што нізка навіслі над зямлёю, не ўтрымалі снежнага цяжару і зацерусілі зверху рэдкімі белымі камякамі. Нібы мёртвыя матылькі, яны падалі і падалі на дол, зацярушваючы выбітае, як бубен, котлішча і глыбокія шурпатыя каляіны, выціснутыя коламі цяжкіх грузавікоў...



*Рычард Бялячыц*

## АСНОЎНАЕ

Навек салдат —
над светлай пожняй.
І праз гады,
праз цемру хмар
для нас салдат
вайны апошняй
і камандзір,
і камісар.

І мы —
працяг яго атакі
на агнявыя рубяжы.
нам без прывала,
без адстаўкі
душой атакі
трэба жыць.

## ВОДГУК ЧАРНОБЫЛЯ

Ідзе падлік маўклівых вёсен,
А ў шуме бальшака
Мяне пупышкі ціха просяць,
Каб рук не апускаў.

Пытаюць вочы маладыя
Цераз слату і дым,
Ці у дарозе птушкі тыя,
Што вернуцца сюды?

Спакой вякоў не прыйдзе раптам,
Калі адсюль далей
Параспалохаў рэспіратар
Усмешкі
І дзяцей.

Засыпаны зямлёю, тлее
Дняпроўскі дзень адзін.
А ён ужо не прасвятлее,
Чарнобыльскі ўспамін.

## КАЦІЛАСЯ ПЫТАННЕ

Адданасцю вачэй пытала ты
Пра свет, якому вераш апантана.
Ішла пара, раіліся лісты
І, як усход, кацілася пытанне.
Каб вызнаць па законах дабраты
Няўлоўныя для вока межы,
Калі спярша
Належыш свету ты
І потым свет калі табе належыць?
Мы пераборлівыя станем на красу,
Калі спасцігнем адкрыццё у працы.
З якіх дарог адказы прынясу,
Каб не магла ты
Ў шчасці сумнявацца?

## ВЯРТАННЕ

І пяснее уваччу
Ад родных слоў,
Ды сярод хаты
Не засцілайце стол, каб чуць
Ягоны роздум сукаваты.

Бо правіць Вілія ці Сож,
Наканавана нам часіна —
Пра свет вялікі ведаць больш,
Чым пра куток сваёй радзімы.

Бо азіраюцца назад
І дрэвы аж з-пад аблачыны.

...Як нам прыйсці
І што сказаць,
Каб за гасцей не палічылі?

## ПАМЯЦЬ

Не адзавецца старана,
Свайго імя не помняць дрэвы,
Не ведалі ні Ён і ні Яна,
Што клічуць іх Адам і Ева.

Хоць памяць стоміцца сама,
А душы згорбленыя лечыць.
...Гучыць імя,
Яшчэ імя,
І пачынае дыхаць вечнасць.

## У ЧАКАННІ

А дзень на людзі ўсё высвечвае
Маю трывогу як ясней.
Свет
ад твайго спакою вечнага
Закалыхаецца ўва мне.

Ты навучы мяне цярплівасці
Расстайнай хмураю парой.
...Як да твайго мне неба вырасці,
Што назаўсёды
Нада мной?

## ВОСЕНЬСКІ ГРОМ

Па самай пойме восені
плыву я.
Не хутка выплыць —
жоўты вір скружыў.
На стрэхах і дарогах
усляпую
пастрэльваюць дажджы.

Ды людзі дачакаліся палёгкі.
Душу разгойдае
вяселляў гром.
І шчасця не вытрымліваюць кроквы,
і радасць —
першай сваццяй за сталом.





# *Павел Пруднікаў*

## НЕСПАКОЙ

Не спіцца мне:
трывожаць успаміны,
Трывожыць боль за сённяшнія дні.
Як быццам хтось
пад сэрца кінуў міну
Маёй зямной, знявечанай радні.

Крычы, душа!
Хварэй за ўсё на свеце:
За лёс людзей, за поле, за лясы,
За ўсё,
што ёсць на роднае планеце,
Штодзень у сонца літасці прасі.

Як многа мы і пішам, і гаворым,
Як мала робім для сваёй зямлі!
У горах кніг —
садомы і гаморы.
А што калі зрабілі для сям'і?

Хто з нас падаў руку свайму суседу,
Калі яго цягнула ў каламуць?
І хто яго у роспачы наведаў
І за яго памкнуўся рызыкнуць?

Калі ж усіх нас стрэне прасвятленне,
Заменіць цемру радасная бель
І дасць усходы добрыя насенне,
Мы скажам дзякуй сейбіту —
сабе.

І веру я,
што час такі надыдзе!
Калі ж не верыць,
дык навошта жыць?

Мы правядзём тады
адзіны тыдзень
Выкарчавання чэрствасці,
ілжы!

■

Дажывае тэрмін свой і восень,
Стукаецца снежань у акно.
На траву і дрэвы легла просінь,
За туманам лесу не відно.

Першы след свой палажыла шэрань,
Значыць, недзе едуць маразы.
Пад бліскучай шапкай Вісажэра
Не пачуеш шэпту страказы.

Мы гатовы да зімы суровай,
Рупімся, каб стрэць яе як след.
А вось птушка з голае дубровы,
Як раней, наладзіла канцэрт.

Голас яе дзіўны і натхнёны.
І здаецца, слухае ўвесь свет.
Так сцюдзёнай раніцай штодзённа
Песняй захапляецца паэт.

Ён зайздросціць голасу спявачкі
І спрабуе трапіць ёй у лад.
Толькі не патрапіць за зямлячкай,
Хоць ён і яе старэйшы брат.

■

Ёсць і ўвосень сонечныя дні,
Без дажджу, без ветру і без суму,
Калі дрэў лістота чырваніць,
Нараджае дарагія думы.

Лес тады здаецца маладым,
Не падобны на тужлівы прыцемк.
Дуб стары не страціў пекнаты,
Уяўляе сябе юным прынцам.

Я б хацеў дажыць да скону дзён
Без дажджу, без слоты і без стыні
І каб сцежкі, па якіх ідзём,
Травы раскалыхвалі густыя.

Бласлаўляю сонечную даль
Без дажджоў —
з асенняй пазалотай!
Хай жа знікне смутак у гадах
Разам з крыўдай і жыццёвай слотай!

■

Час нас лечыць, час нас і калечыць,
Што не кожны здольны зразумець.
Знікне ранак, прыйдуць дзень і вечар.
Зблякне раптам сонечная медзь.

Луг цвіце, і дрэвы пладаносяць,
І над грэчкай кружацца раі,
А ў душу заходзіць ужо восень...
І ты зноў —
ні ў пекле, ні ў раі.

Ты здаешся парасткам зялёным,
А на справе —
састарэлы дзед.
Час-цягнік праносіцца шалёна,
Застаецца толькі дымны след!..



*Сцяпан Кухараў*



АПАВЯДАННІ

# ВЕРАБ'ІНАЯ НОЧ

Стаяла прапахлая гаркавасцю задуха. Над пыльнымі гародамі і садкамі вісела густое, нізкае воблака, ацяжэла асядала на засыпаныя жарсцвяным пылам праслы. Ад загумення, дзе даспявалі ў снапах каноплі, увечары цягнула даўкім, удушлівым чадам.

Далёка, аж з-пад самай Чырвонай Гары, раз-пораз успыхвалі зарніцы дрыготкім, барвова-чырвоным полем. Паветра калацілі частыя грымоты, бліскавіцы мільгацелі, азараючы ўсё неба колькі дзён запар. Па вечарах, як толькі і хаты, і садкі, і прысады паглынала вечаровае цемрыва, касцікі зарніц нібы набліжаліся, і за аселіцай звіваліся іх крывавыя клубкі.

Задуха стаяла, абяцаючы дожджык, а дажджу няма. Ды, мабыць, ён і не патрэбен быў цяпер, парою, калі сама што парадкаваць вырашчанае ў полі і на гародах...

Людзі чакалі гэтых незвычайных грымот — яны ведалі, што канчаецца чорная ноч няволі, набліжаецца доўгачаканае вызваленне. Грымела ў адным баку — там, дзе Чырвоная Гара, адкуль павінны прыйсці нашы. Дні гэтыя здаваліся занадта доўгімі. Час цягнуўся марудна, бо грымоты быццам стаялі на адным месцы.

— Тая ж апошняя задушлівая ноч, — пачынае расказваць маці, калі я пацікавіўся, каб прыгадала, як усё тое адбылося, — была трывожная. Перад гэтым ночы былі так жа цёмныя, без зорак. Мы знаді, што ўжо ідуць нашыя. Каторыя людзі думалі, што будзе бой, то загадзя парабілі ў агародах акопчыкі, пазносілі туды ўсе рызманы і сёе-тое з ядомага, а мужчыны, якія былі ў вёсцы, з коньмі і каровамі пашыліся ў балота, у гушчарнік, трэба было як ўратаваць жывёлу.

Усё гучалі выбухі, вечарамі і ўначы вокны ў хатах памінутна загараліся, як ад блізкага пажару. Задуха стаяла, не прадыхаць, а тады цемраччу ўсчалася навальніца. Ну, думаю, рабінавая ноч!..

— Рабінавая ж бывае летам, — асцярожна ўстаўляю я, каб не перапыніць маці, якая ўжо, бачу, жыве тымі ўспамінамі, якія абудзіла памяць. — Рабінавая, калі рабіна цвіце. Самае што як лета настае...

— Ну, няхай не рабінавая, то вераб'іная, — бярэ сабе як на заметку маці і працягвае: — Дык слухай жа... Найперш, як толькі была я сцішыла-

---

Мал. **Л. Кальмаевай.**



ся каля калыскі (малая Ніна спала ў калысцы), у хату забеглі нейкія абшарпаныя бежанцы: тры дзяўчыны і двое хлопцаў. Разгубленыя, нават дужа перапужаныя. Дзяўчаткі енчылі-прасілі: «Цётачка, на гародзе ў вас у снапах каноплі. Прынясі хаця сноп з каноплямі, каб не так моташна было». Дзіва нейкае, думаю, навошта ім тыя каноплі?..

На гародзе, за гумном, сапраўды былі каноплі. Даспявалі, павязаныя, у снапах. Не шкада мне тых канопляў, а дзе ты пойдзеш: такое цемрыва, грымоты, а ў калысцы малое. Большая, Таня, ёй было гадоў, мабыць, чатырнаццаць, таксама енчыць, хныкае — баіцца адна астацца ў хаце. Ды і яны, бежанцы, нейкія незвычайныя... Мабыць, нямецкія падлізнікі. Хлопцы з дзяўчатак гэтых пацвельваюцца, пераміргваюцца між сабою. Я налучыла момант і буду казаць: «Куды вы, дзяўчаты, ідзяце?» А яны разгублена пазіраюць адна на другую: «А мы самі не ведаем...» А хлопцы, тыя як бы яшчэ і храбрацца: «Цётка, можа, ведаеш, хто мог бы нас адвесці да партызан?..» Адзін з іх дадае: «У мяне ёсць хромавыя боты, я аддаў бы...» Я, канечне ж, ім сказала, што ніякіх партызанаў не ведаю. Чамусьці мне падумалася: не партызанаў вы шукаеце, а ўцякаеце ад нашых, бо баіцеся, каб не трапіць сваім у рукі. Відаць, добрыя птушкі, калі бегма, без аглядкі драпаеце ад сваіх...

Уцекачы гэтыя зніклі, ад'ехалі... А наступнай ноччу з вечара пачалося: загрымела так моцна, аж вокны дрыжэлі, і хата як не захадзіла хадуном. Дождж паліў як з вядра. Бліскавіцы жыгаюць, пярун б'е так, што, здаецца, зямля дрыжыць, трасецца... А дождж лье без прашчуку. Чутно, як барабаніць, цурчыць вада па страсе, паверсе дранкі; па вокнах плывуць вадзяныя рагі.

Раптам чую: за вокнамі крыкі, адрывістыя, спалоханыя галасы. І тут жа бах-бах — стрэлы!.. Я акрыла малое ў калысцы. Таня пашылася на печ, стаілася за комінам. Сама я ціха падышла да акна. У сэрцы грукатам аддаюцца струмені і пырскі, што барабаняць па шкле. Бліскавіцы-маланкі паласуюць чорнае неба, усё ў ірваных, як абсмаленых вуголлем, хмарах. Вусцішна, аж мурашкі за плячамі варушацца.

У акно палыхнуў агонь, аж асвяціла хату ўсю. Я адхінулася, прыткнулася да вушака. Стаіўшыся, выглянула: бачу, ужо Рамана-суседа хата ахапілася, гарыць. Я кінулася да калыскі і, не помнячы сябе, затуліла яе сабой.

За акном, на дварэ, чую, ужо гергечуць. Падышла асцярожна да акна, цікую з-за вушака. Бачу — двое ў плашчах-дажджавіках, а можа, і ў шынялях. Прыглядзелася; бачу — адзін свеціць ліхтарыкам, узіраецца ў карту і нешта крычыць да астатніх.

Я адышлася да другога акна і бачу — за гародам ахапіліся, гараць гумны. Полымя, падскокваючы, крывянае, аж страшна, гатовае і на хаты перакінуцца.

Праз якую хвіліну на двор уз'язджае падвода, цэлая немцаў. Адразу — тупат у сенцах, галасы, галёканне...

Ледзь паспела я адбегчыся ад акна, як у хату набурхалася цэлая плойма іх. Як сказаць, поўная хата набілася. Фыркаюць, як коні, атрасаюцца. З іх цуркочыць пісягамі брудная вада — дождж лье, не перашчукаючы. А яны — злосныя, як шалёныя, бразгочуць кацялкамі, зброяй. Некаторыя ўжо скідаюць апратку — бачна, што хочуць атабарыцца, мабыць, на ноч. Я стаілася ля калыскі, ніжэй нацягнула на вочы хустку, а правільней, не хустку, а ўцірку, якая аказалася пад рукамі. Яны мяне як не заўважаюць. І добра пакуль...

На стол умасцілі вялізны буталь нейкага віна. Пачакай, забылася — стол спачатку выцяглі з кута, на сярэдзіну хаты.

Гляджу, ужо на падлозе — колькі кулёў саломы. Сапраўды, чэрці, мабыць, будуць класціся на начлег. Вот, думаю, начлежнікі, каб вам пакласціся ды не ўстаць!..

Урэшце адзін падышоў да калыскі. Стаіць і разгублена зырыць то на калыску, то на мяне. Я апранута была ў доўгі чырвонага дублення стары кажух, на галаве нейкая ўціркa-ручнік, ета лахманіна бадай што засталася адзіная, бо ўсё, што ў хаце асталося з адзежы, мы з Таняй пазносілі на гарод, у акопчык пад яблынямі.

Слухай жа далей.

Яны ўсе, немцы етыя, злосныя, як чэрці. Усе як некуды спяшаюць, а тут яшчэ залева такая — яны ўсе прамоклыя да ніткі, каторыя кляцаюць зубамі, ці змерзлі, ці ад страху.

За акном жа — водбліскі, выбухі, бліскавіца. Раз-пораз грымліва вуркоча гром. Сапраўды вераб'іная ноч — страх мяне працінае, як таго вераб'я ў падстрэшшы...

Немцы адзін за адным падыходзяць да стала, наліваюць у шклянку ці ў кварту з буталя віна таго. Выпіваюць моўчкі і адзін да аднаго ўпокат кладуцца на салому.

У нас жа, помніш, да глухой сцяны быў прыстаўлены самаробны драўляны ложак. Ён ужо быў расхістаўся, амаль што паламаны, проста сказаць, непрыгодны быў ложак. Каторыя хацелі прыладзіцца на ім, але ён тут жа і пачаў раз'язджацца. Я ўзяла ды зняла з жэрдкі і запхнула ў запек калыску, а малое паклала на чарэнь — печ была не гарачая, можа, ці палілі ў ёй з рання. Адзін немец узяў тую калыску і прымасціў яе каля качарэжніку, лёг. А мне ківае, паказвае: «Вэк». Паказвае, каб ішла з хаты. Я, канечне, пайшла б, а дзеці?.. Маглі дзяцей яны пабіць, калі б дзеці азваліся. Я стаілася ў прыпечку, акрылася тым ручніком, каб і твару не было відно...

Адзін немец, такі доўгі, шыракатвары, з вусамі, усё яшчэ сядзеў на ўслончыку, трымаў аберуч шклянку з тым пітвом (а ўсе ляжалі на саломе, мабыць, і спалі ўжо). А той, вусаты, падышоў да мяне, узяў рукою за плечы, сказаў па-руску:

— Матка, яйка!..

— Няма яек, пан...

Потым бачу, што ў яго вочы налітыя злосцю, падняла з печы большую, Таню, паслала ў пуню шукаць тых яек. А немец пашкандыбаў за ёю. Помніш, у нас на вышках было карыта, у ім улетку несліся куры. Там, там памацала, пашукала, але адтуль адно сыпалася сухая, перацёртая салома, рознае шыгалле ды курыныя каўтухі...

Упэўніўшыся, што яек няма, ён паплёўся да стала, дзе той буталь з віном, наліў, апаражніў поўную шлянку і прылёг з краю на саломе.

Доўга, мабыць, не больш як з гадзіну, яны не спалі. Ураз прахапіліся і спехам моўчкі пацягнуліся з хаты.

Тым часам на дварэ нешта засвяцілася, загрымелі колы, у цемрыве замільгалі, як страхапуды, немцы. Новыя гэтак жа тоўпіліся ў сенцах і адразу набурхаліся ў хату. Нейкія абшарпаныя, заляпаныя, хто ў чым, адзін зусім босы, без аніякага абутку.

Было цёмна, як у варыўні, толькі часам успыхвалі сінія, як вужакі, маланкі ды мільгацела зарыва — гумны ўсё яшчэ гарэлі, хаця і дождж не аціхаў.



Яны ўгледзелі тое лежыва; ад злямцаванай і мокрай саломы ішоў, гусцеючы, нейкі даўкі, пракіслы дух...

...Адзін з етых нагроб жмут саломы і паднёс да яго запалку. Палажыў еты жмут у чалеснік, а сам пачаў нешта похапкам есці, нейкую ежу з кацялка ці з банкі.

Тады я ўзяла яшчэ пук раўнейшай саломы і свяціла, пакуль ён еў... Ён тут жа бегма кінуўся за парог, з хаты. Цяпер ужо дзверы ў хаце былі расчынены напята. Як учадзелая, сядзела я на лаўцы ля печы, ні жывая, ні мёртвая. На дварэ ўсё гергеталі; раз-пораз ірвалі сэрца выбухі, грымелі грымоты...

...Зайшоў яшчэ адзін — такі даўжэзны, шырокія плечы, у прамоклым, смярдзючым шынялі. З яго цякла вада, як з гусака, які толькі што выбраўся з вады; яна проста цурчэла з яго... Пад пахай у яго быў бохан наскага, не казённага хлеба, канечне, недзе падхапіў, можа, і ў якой нашай хаце. І сцягно-кумпяк вэнджаны. Вялікі такі вокарак, як падняць аднаму чалавеку. Ён сеў на лаву, адкроіў лусту ад таго кумпяка, вэнджаніна так запахла, што аж пра яду падумалася, дармо што страх за плячамі. Еты, кажу, адваліў такую ж лусту ад бохана, пачаў усё запіваць тым віном, што яшчэ было ў бутале. Наеўся, а тады той кумпяк як шпурне ў мыцельнік, дзе стаяла шайка з памыямі.

Тады зноў за буталь, нацадзіў той вадкасці, уліў у горла. Я стаяла пры печы, трымаючыся за почапку калыскі. Ён нечакана ступіў да мяне, рукой, як абцугамі, сціснуў плячо:

— Сколько табе лет? — пытаецца па-руску. А я так спужалася, як бы не сваім голасам крыкнула, моцна, на ўвесь голас:

— Што-о-о?!

— Лет табе сколько, спрашиваю!..

Выгляд у етага быў злосны, страшны, а голас хрыплы. Я неяк ачнулася і кажу:

— Семдзесят...

— Но, понятно...

Бразгаючы зброяй, ён пацялепкаўся за дзверы. А ў дзвярах ужо новы — салдат перахлябісты, танклявы, зарослы барадой. Як пераступіў парог, так адразу закрычаў:

— Мех мне надо. Есть мех?.. Давай!..

А ў хаце ані анучкі якой, ані караўкі. Адны голыя сцены ды абразы на покуце, у багаўні. Усё ж, што якое асталося, павязана ў вузлы і пакідана ў гародзе, пахавана ў барознах.

— Як бачыш, пан, нічога няма... Няма меха, — пачала я адгаворвацца, а ён грымеў:

— Ілжэш, баба. Мех, мешок мне нужен... Мне коня абкрыць, — не адступаўся ён, тады рвануўся, хапіўся за аўтамат, які вісеў у яго на грудзях:

— Шукай мех!..

Еты так жа падышоў да стала, кульнуў са шклянкі віна таго, што ў бутале. Тыя ж, што прынеслі еты буталь, ужо, мабыць, шлопаліся па вуліцы, перліся па лужынах і калюгах, напоўненых бруднай дажджавой вадой.

Водсветы пажараў ад агню, якім палілі ў нашым канцы хаты, ад гумнаў на канапляніках трымцелі ў вокнах, дым, едкі, удушлівы, пранікаў і праз вокны і цягнуў з расчыненых дзвярэй — нельга было трываць не тое што дзецям, а і самой.

На печы азвалася, заплакала большая — Таня, і я выправіла зноў яе, ужо на гарод, у акопчык, — пашукаць якога-небудзь мяшка ці посцілкі. Па-

куль яна там поркалася, шукала, ён, немчура, стаяў ля вушака... Бразгацеў зброяй і кацялкам, што быў прычэплены да дзягі, якою аперазаны быў па мокрым, заляпаным гразёю і глінай шынялі.

Таня прынесла хатуль — я агледзела ета, што яна схапіла там, у акопчыку, то аказалася жаночая палатняная сарочка: рукавы яе звязаны, а ў сарочцы зерне — проса, якое перад тым мы абмалацілі. Дзяўчо схапіла тое, што ёй натрапіла на вока.

Немец высыпаў тое проса на падлогу, яно рассыпалася і па той саломе, дзе было лежбішча, і па ўсёй падлозе. Разгарнуў гэтую бабскую з суровага палатна сарочку, грэбліва паморшчыўся і адступіў да парога. Ужо быў памкнуўся ісці, але яму на вочы патрапіў той кумпяк, кінуты ранейшым немцам да памыйніцы. Гэты прагна схапіў кумпяк, згроб сплюшчаны бохан, не даедзены тым, хто прынёс яго, загарнуў усё ета ў тую брудную сарочку і шамятнуў да дзвярэй. На хвілю затрымаўся, нейк незразумела паківаў галавой і знік у цёмным праёме. Не сказаў ні слова, але ў яго паставе, у паглядзе чуліся і грэблівасць, і злосць, і сорам — усё тое змяшалася ў адно, якое можна было б выказаць словам прыніжэнне. Падалося, етым сваім кіўком ён як бы гаварыў: «Во, бачыш, якія мы ваякі, даваяваліся!..»

А на вуліцы цемрыва рвецца і ўскалыхваецца бліскавіцамі і водсветамі пажараў, дождж лье неміласэрна, але хаты ў канцы, падпаленыя тымі, што ішлі паперадзе, яшчэ ўсё гарэлі — праз шыбы цягнула гарам і дымам, аж дыхаць стала немагчыма.

Той жа часінай у акно моцна забарабанілі — чую знаёмы голас суседкі Лукер'і:

— Уляна, выходзь, гарым!..

Я схапіла абраз — Міколу-годніка — і выскачыла на двор. На вуліцы ўжо стаялі суседзі — таксама з абразамі, акрытымі мокрымі ручнікамі. Перапалоханыя, мы дрыжалі, як асінавыя лісты...

Етак мы і стаялі, бароначы ад агню нашыя хаты. Нам думалася, што нас уратуюць абразы. А яны, немцы, ішлі сабе, плюхаючыся ў брудных лужынах, пасаблялі коням-біцюгам, якія цягнулі гарматы і розную вайсковую паклажу-амуніцыю.

Абознікі дзіка крычалі і лаяліся, як бы самі перапалоханыя да смерці. Мабыць, дождж, маланкі і гром узмацнілі і без таго жудасць, якая іх апанавала. Яны спалохана галёкалі, падганялі коней крыкамі, раз'юшана сцябалі па баках і спінах лейцамі і пугамі; самі напіналіся, памагаючы коням, бо колы грузлі ў гразкіх калюгах з дажджавой вадою. З неба ўсё так жа лілося...

Дзіўна, але нас яны як бы і не заўважалі. Прамоклыя і акалелыя, мы стаялі з тымі абразамі ў анямелых, зацёклых руках і дрыжалі, калаціліся, каб хаця і нашыя хаты не аблілі газай, як зрабілі з Раманавай хатай, якая ўжо дагарала, і толькі чорныя галавешкі едка дыміліся і шыпелі. Канечне, мы тады не ведалі, што паперадзе ішлі факельшчыкі і палілі хаты, каб па відным пайшло іх войска.

Мы ўсё стаялі пад дажджом як утрапёныя. Ад абоза раптоўна аддзяліўся нейкі малы, нягеглы салдат, расхрыстаны, без шапкі і босы. Шлёпаючы азызлымі ступакамі, ён похапкам сарваў у Лукер'і з абраза ручнік і бегма, азіраючыся, як ваўчанё, паплюхаўся наўздагон за перагружаным паклажаю абозам. Мы, стоячы тут, адчулі, як акупанты ганебна ўцякалі з вёскі.

...Пад ранне, на золку, людзі ўбачылі сваіх воінаў-вызваліцеляў. Ад радасці і мужчыны, і жанчыны плакалі, як дзеці...



# ПАД МАЙСКІМ ДАЖДЖОМ

...Да аўтобусаў, не зважаючы на дождж, спяшаліся мамы і таты. З чамаданчыкамі, валізкамі, рукзакамі. Пастаўшы ў чаргу, яны похапкам развітваліся са сваімі чадамі — хлопчыкамі і дзяўчынкамі малодшага школьнага ўзросту. Дзеці ўвогуле спакойна, але шумліва і весела знікалі ў салонах аўтобусаў. Хутка займалі свае месцы, і цяпер толькі іх галоўкі ў ваўняных шапачках, берэціках і хусцінках віднеліся з-за беласнежных чахлоў, якімі былі акрыты высокія спінкі скураных сядзенняў.

Дзеці, якіх адпраўлялі адсюль, з глухога раённага пасёлка, у далёкую дарогу, да мора, паводзілі сябе даволі стрымана, нават бестурботна. Мамы, хто ўкрыты парасонам, а хто і так, падставіўшы галаву веснавому дажджу, блізка стаялі ля аўтобусаў, пазіраючы на вокны, нешта гаварылі, махаючы рукамі. Яны ніяк не маглі з імі развітацца... Дзяцей, школьнікаў малодшых класаў, вывозілі на лета ў больш чыстыя і бяспечныя мясціны,



бо летась амаль такой жа вясновай парой тут пакінула свой нябачны след чарнобыльская бяда.

Аўтобусы прымалі ўсё новых маленькіх пасажыраў, якія яшчэ прыбывалі, мабыць, з дальніх вёсак. А дождж усё ліў, то сціхаючы, то зноў набіраў моцы, і на заплямленым, пярэстым асфальце скакалі, як не навыперадкі, рудаватыя пухіры-бурбалкі. Выдавала, што дождж не збіраўся сцішацца, не тое каб спыніць сваю работу. Востра пахла бэзам, цяпер змешаным з бензінавым дымам — маторы аўтобусаў працавалі на малых абаротах.

Дзеці, што раней уселіся, і тыя, што толькі прыйшлі, мабыць, забыліся, што іх пільнуюць тут пад дажджом іх мамы і таты. Многіх не відно зусім, а іншыя толькі часам паказваліся ў вокнах і знікалі. А мамы стаялі прыціхлыя, як утрапёныя, мабыць, баючыся выдаць сваю трывогу і сваё мацярынскае хваляванне. Ім, вядома, не стаялася. Яны час ад часу шукалі кожная свайго вачамі і ўсё махалі ім, не зважаючы на дажджавыя пырскі, якія засцілі павільгатнелыя вочы. А дзеці, мабыць, ужо заняліся сваімі клопатамі — пацішу сваволілі ў прасторным салоне.

Адзін з «Ікарусаў» чмыхнуў бэзава-смуродным дымам, паволі вырульваў з плошчы на цэнтральную вуліцу пасёлка, і ўсе, хто стаяў, пачалі дружна і заўзята махаць на развітанне. Канечне, яны не заўважылі, што за аўтобусам пільна і неадступна сачыў на плошчы хлапчук гадоў шасці ці сямі ў пацяжэлай будзёнаўцы з чырвонай зоркай, прамоклай васількова колеру куртачцы, якая яму была замалая, і з яе выторкваліся тонкія, бурачковага колеру рукі. Ён цішком стаіўся пад цыбатым клёнікам, які адзінока прытуліўся тут, у кутку плошчы, і таксама, як і гэты хлапчук, смела і адчайна мокнуў пад праліўным дажджом.

Дзве жанчыны, схаваўшыся пад адным квяцістым парасонам, мабыць, каб крыху сябе супакоіць, гаварылі. Больш правільна — гаварыла адна, байчэйшая, а другая засяроджана слухала і ў тон апавядальніцы згодна ківала змакрэлай бялява-кудзелістай галавой.

Тая, байчэйшая, што трымала парасон, казала:

— Во дзяцей, што тыдзень назад адправілі ў Варонеж, вельмі ж урачыста сустрэлі, проста як родных. З кветкамі. З музыкай. Добра размясцілі. Усё там: і харч, і ўмовы жыцця як найлепшыя... Яны гэтага і дома не мелі. Так што, мая ты Сонечка, не турбуйся. Усё будзе як найлепей!..

— А мой дык плача, — абазвалася засмучаная Сонечка. — Цэлую ноч не спаў. Не хачу, кажа, ехаць. Буду цябе, мама, слухацца... Але не пасылай мяне з дому... Не хачу, і ўсё тут!..

Другі аўтобус, набраўшы патрэбную рату маленькіх пасажыраў, абдаў тых, хто стаяў бліжэй, пахам бензіну, змешаным з водарам бэзу, які густа плаваў у дажджавой купелі, і жанчыны паволі пакрочылі з плошчы. Яны, вядома, не бачылі таго хлапчука, што стаіўся быў пад адзінокім клёнікам у кутку, а ён іх бачыў і нават чуў, пра што яны гаварылі. Адна з іх — Сонечка — яго маці. У тым аўтобусе паехаў і яго сябрук з камунгасаўскай двухпавярховай камяніцы, што вокнамі выходзіць на гэтую плошчу. Ён, мабыць, убачыў, што жанчыны пайшлі, стуліўшыся, кумельгам шмыгнуў міма мокрых кустоў бэзу і знік за штыкетнікам, што агароджваў зараслі бэзу і кучаравыя каштаны і ліпкі ад плошчы. Тут яшчэ тоўпіліся людзі; мужчына ў карычневым гарнітуры з паперамі ў руцэ ладкаваў у дарогу апошні «Ікарус».

Пастаяўшы колькі часу, прытуліўшыся да купчастага каштана, які ўсё яшчэ наталяўся свежасцю дажджавых кропель, перабежкамі, ад дрэўца да дрэўца, што зялёнымі парасонамі хавалі прахожых, я заспяшаўся ў раённую гасцініцу. Яна, састарэлая і ўрослая ў дол, была тут жа, за гэтай доўгай двухпавярховай камяніцай пры плошчы. Там знік той хлапчук, што спадцішка назіраў за адпраўкай аўтобусаў з дзецьмі.

Дождж з частымі перапынкамі ўсё сыпаў, але ўжо як нехаця, спакваля, наводзячы самоту і тугу... Я памятаю, што ўранкі па радыё прагноз быў несуцяшальны, абяцаючы нават грымоты і навальніцу. Час падбіраўся да поўдня, але было пакуль ціха, адно што дождж лопаў і нудотна шапацеў у маладым лісці каштана, які сваімі галінамі, як лапамі, блізка даставаў шыбіну майго акна на вуліцу. Праз гэтае акно, заценёнае зверху крэмава-бледнай фіранкай, была бачна панельная сцяна новага выведзенага пад трэці паверх будынка, праламаная агароджа ля яго і кавалак дарогі, расквашанай грузавікамі-панелявозамі, да гэтай новай будоўлі. (Як выявілася, насупраць старой, урослай у зямлю гасцініцы на пятнаццаць ложкаў і ўзводзілі трохпавярховы гмах раённага вузла сувязі. Для гасцініцы, у якой тут ёсць патрэба куды большая, пакуль не мелася сродкаў.)

Дарога была ўшчэнт разбіта коламі грузавікоў. Па ёй прарэзаліся дзве глыбокія, да жвірыстага грунту, каляіны-калюгі, на якіх цяпер скакалі жаўтлявыя пухіры-бурбалкі... Па дошках зламанай агароджы час ад часу прабіраліся бачком, каб не лучыць у калюгу, людзі. Прамільгне, павярушыцца адзінокая постаць, прыкрытая парасонам або кавалкам плёнкі. Дождж, як бачна, не ўнімаецца. Ісці тут было амаль немагчыма, бо зямля ўвачавідкі размакала, наліваючыся, як рошчына. Замінала пераход яшчэ даволі ўнушальная горка бітай цэглы і гліняных пустакоў-блокаў, якія навалам ляжалі ў праломе дашчатай агароджы. Іншыя з прахожых, як ні цялялі прайсці гразюку, але ім гэта не заўсёды ўдавалася, і смялейшыя ці скакалі па гэтай цэгле, ці вымушаны былі ссоўвацца да каляіны, але і тут мясцінамі ўжо было поўна рудой дажджавой вады. Як у глінішчы ці незагачанай грэблі.

Пара была блізкая да поўдня. Мабыць, паказалася сонца. Але неба было пахмурнае, нізкае. Дождж, як раззлаваўшыся на тутэйшы пасёлак, шчыраваў. Лілося, як з рэшата. У калюгах плюхалася вада; усё так жа скакалі, прытанцоўваючы, бурбалкі, здавалася, было чутно, як яны лопаліся, падсвечаныя серабрыстым святлом сонца. Яно было недзе за сценамі гэтай працвілай і правільгатнелай будыніны, якая мела назву раённай гасцініцы... У клёнах і каштанах, што былі недалёка, ля паваленай агароджы распанаваў роўны спакойны шэпт. Клёны і каштаны як бы шапталіся між сабою, падстаўляючы свае кучаравыя вяршыні-парасоны дажджавой купеліне.

Мне нічога не заставалася, як чакаць, калі сціхне дождж і неба трохі праясніцца. Я самотна пазіраў у замярэжанае шэрае акно і думаў пра таго хлапчука ў васільковай куртачцы і прамоклай будзёнаўцы, які стоена назіраў за «Ікарусам», куды садзіліся ягоныя таварышы. Чаму ён не з імі? Што прымусіла яго так пільна, але схавана назіраць за адпраўкай, ды яшчэ ў такую слату?..

І раптам... Мне як прыснілася, хаця я не замгнуў вачэй і быў увесь час напагатове, бо меўся ехаць у калгас. На вуліцы, якраз насупраць майго акна, з'явіўся той хлопчык. З дзіцячым скрыгатлівым веласіпедзікам на двух гумавых колах. Тая ж васільковая, амаль уся бліскуча-мокрая куртачка, будзёнаўка, па якой сцябаў увішны дождж, на нагах паношаныя карычневыя гумовікі, заляпаныя гразёю...

Хлопчык вёў веласіпедзік, трымаючыся за руль, цаляючы, каб колы траплялі ў запоўненую вадою каляіну, а сам стараўся патрапіць збоч. Па-

раўняўшыся з акном, ён сядае і едзе па калюзе. Калюга цеснаватая і месцамі глыбока ў вадзе. Хлопчыку няма як ехаць — ён злазіць, дзелавіта цягне веласіпедзік па калюзе. Праехаўшы крыху па забруджанай і залітай вадою калюзе, ён дзелавіта вяртаецца. Зноў злазіць, засяроджана і неяк апантана плюхае ў сваіх, мабыць, ужо дзіравых боціках, дзелавіта вядзе веласіпедзік, як забаўляючыся з асабліва дарагой яму цацкай. Я падумаў: хлопчык, мабыць, папрасіў у каго гэты велік і не можа нацешыцца — яму і дождж гэты, які во лье несціхана, не перашкода...

Мне карціць выйсці, пазнаёміцца з гэтым незвычайным веласіпедыстам, але я чамусьці стрымліваю сябе. Ды і дождж прыпусціў, як бы ахаладжваючы мае намеры.

Чаму ў такой халепе хлопчык так высільваецца? Мая цікавасць да яго занятку нарастала з маланкавай хуткасцю. Што ж ён усё-такі так разгуляўся? Можа, ён выпрабоўваў свой велік? Можа, хоча заглушыць сваё расстане?.. Дождж жа не сціхае, і рудыя пухіры-бурбалкі скачуць з ашалелай увішнасцю. Веласіпедыст жа на гэта — ніякай увагі; ён усяго гэтага як не заўважае. Ужо ўвесь змакрэў, мабыць, уся ягоная апратка прамокла да ніткі. А на твары зухаватасць, змешаная з нейкай прыхаванай утрапёнасцю. Гэта было бачна нават і тут, праз акно, якое ўжо з таго боку пакрылася бруднавата-рудымі пісягамі...

Я не вытрымаў і яшчэ з няпэўным адчуваннем засяпшаў на ганак. Ціха паклікаў хлопчыка. Ён як не чуў: валаводзіўся са сваім велікам, не заўважаючы, што ўжо ў боцікі набралася халаднаватай бруднай вады. Я паклікаў грамчэй:

— Ідзі сюды, хлопчык!..

Хлопчык прыпыніўся, спадылба зірнуў на незнаёмага яму дзядзьку, паправіў будзёнаўку, з якой сцякалі буйныя кроплі дажджу, абмахнуў твар азяблай, пачырванелай рукой. Ён апасліва азірнуўся, пачаў цягнуць велік перад сабой.

— Ідзі сюды, хлопчык. Не бойся!.. Тут, на ганку, не лье... Перачакаеш дождж!..

Хлопчык спыніўся. Недаверліва агледаў незнаёмца. Не выказаў ніякага жадання ісці на знаёмства.

— Чаму ты не ідзеш?.. Баішся?.. — і я пайшоў, пераскокваючы брудныя і ўраз набеглыя лужыны, а хлопчык пачаў з велікам аддаляцца — у яго вачах поўнілася трывога. Я паскорыў крок. Цішком уходзячы ад мяне, хлопчык як не апраўдваўся:

— Валерка не прыйшоў... Валерка... паехаў!..

— Хто такі Валерка? — стараючыся быць як мага ветлівым, спытаўся ў хлопчыка, набліжаючыся, але так, каб ён не спудзіўся. — Валерка — твой брацік?..

— Не-е, — больш прыязна адказаў хлопчык, але ўсё ж трымаўся мяжы адчужэння. Ён нешта як бы і прамаўляў, але нічога пэўнага я ад яго не ўведаў. Адно я зразумеў з таго, што ён мармытаў: «Я не хацеў...» І цяпер больш пэўна ўведаў: гэта той хлопчык, што, мабыць, схаваўся ці ўцёк у апошні час ад мамы, якая яго прывяла на плошчу.

Ён, ускочыўшы на велік, скіраваўся ў дворык, што быў відаць з вуліцы.

Дождж не ўлагоджваўся, больш таго, ён мацнеў, і ўзахлёб шчыравалі пухіры-бурбалкі, то рыжыя, то больш светлыя, калі з-за абвіслых ку-



стоў бэзу і каштанаў, што як бы вартавалі ўваход у дворык, з'явіўся малы. Я хутка, але не спяшаючыся пайшоў следам, стуліўся пад бліжэйшым пышнаверхім дрэўцам.

Не зважаючы на мяне, хлопчык катаўся на веласіпедзіку, хаця ўжо прамок да ніткі. З яго пацямнелай будзёнаўкі цяклі рудыя дажджавыя рагі. Я паклікаў хлопчыка да сябе, але ён з нязменнай апаслівасцю пакасавурыўся і ісці да мяне, як бачна, не меў аніякага жадання. Усё ж ад мяне не аддаляўся. Спыніў велік. Усё недаверліва пазіраў спадылба, цікаўнымі, бліскучымі вачанятамі. Страх недаверу як бы трохі сплываў, рассейваючыся, як кроплі рудога дажджу.

— Ты вучышся?.. Я якім класе?..

— Вучуся. Першы клас скончыў...

— Як цябе завуць?..

Хлопчык памарудзіў, пырснуў бліскуча-цёмнымі вачанятамі. Тады больш смела, з праверкай на давер:

— Ахрэмка... А нашто вам?..

— Ды нічога, — сумеўся я. — Цікава... добрае імя... А прозвішча тваё?..

— Прозвішча? — перапытаў хлопчык, гледзячы ва ўпор мне ў твар пранізліва: — Прыбыль маё прозвішча. Такое ў нас тутака рэдкае. Маці казала, што мой бацька — выгнанец, валацуга...

— А бацька хіба з вамі не жыве?..

— З'ехаў ад нас, — панурыўся Ахрэмка, але падышоў да мяне бліжэй, дзе пад каштанам не так ліўся ўсё яшчэ густы дождж. — Бацькі свайго не помню. Рос у дзеда... Ахрэма... І мне дзедава імя далі... А бацька?.. Маці казала: «Бацька — бадзяга, сабакам сена косіць...»

— Нельга так пра бацьку, — адказаў я, паспачуваўшы лёсу гэтага хлопчыка. Я хацеў сказаць пра тое, што чуў ад тых жанчын, якія размаўлялі на плошчы. Але Ахрэмка мяне апярэдзіў. Ён, забыўшыся пра велік, які мокнуў на дажджы, прызнаўся:

— Гэта мая мама была там. Цэлую ноч я не спаў — усё прасіў, каб мяне не адпраўляла. Тады згадзіўся. І як толькі пачалі садзіцца ў аўтобус, я цішком збег. Маці падумала, што і я сеў, а я схаваўся тут, у кустах...

— Гэта ты выглядаў з-за таго плота, што на рагу, каля калонкі?..

— Я, — самотна ўсміхнуўся ўпершыню за час нашага знаёмства Ахрэмка і да мяне, пранізліва зірнуўшы ў вочы: — А вы таксама з тых, што адпраўляюць дзяцей на лета з пасёлка?..

— Не, — шчыра адказаў я. — Але ты дарэмна не паехаў з усімі, Ахрэмка. — Хіба там дрэнна?.. Хто з рабят не хацеў бы пабываць ля мора, у піянерскім лагеры, у санаторыі?..

— Ведаю, што не дрэнна. — Ахрэмка падкаціў велік бліжэй, на сухое пад пышначубым каштанам. — Але ў мяне дзядуля хворы. Я да яго ў Сасновіцы паеду. Ды яшчэ ў мяне прозвішча такое: у школе з мяне смяюцца: «Прыбыль, Прыбыль, адкуль такі прыбыў?.. Ці з лесу, ці з гаю, ці з глухога краю?..»

Я недарэчна ўсміхнуўся, але Ахрэмка як не спахмурнеў. Я адчуў, што тая нітачка, якая працягнулася між намі, можа абарвацца. І сапраўды, Ахрэмка заспяшаўся, не зважаючы, што дождж, мабыць, толькі на нейкі час даў сабе перадышку, і вакол усё плюскацела: з дрэў і кустоў, што буялі позняй вясновай квеценню, сцякалі буйныя і частыя рудыя кроплі, вы-

званьваючы нейкую аднастайную звонкую мелодыю. На дворыку было вільготна і гразка. Ахрэмка, даўшы мне «да свідання», сеў на велік, націснуў на педалі гразкім, слізкім боцікам. Я паспеў яшчэ спытаць, дзе працуе яго мама. Ахрэмка крыкнуў у прасвятлелае ад сціхлага дажджу наваколле: «На аўтобуснай працуе... Мая мама — добрая!..»

...Дождж усё ж пачаў аціхаць. Хаця ўсё яшчэ бойка вызвоньвалі рудыя звінячыя кроплі. Востра ў паветры пахла вясновай зямлёю, квітнеючым бэзам, пасвяжэлым на градах зяленівам. Марудліва неба высілася, наліваючыся сакавітасцю-сінечай; неўзабаве дождж, як стамлёны араты на ўлонні загона, змогся... А на прасвятлелым і цёплым вясновым небе легла квяцістым поясам, мабыць, першая з вясны радуга, ахапіўшы ўвесь пасёлак. З яго старымі і новымі дамамі, будынкамі, сядзібамі, у якіх пасля прайшоўшага дажджу расла, шырылася адзіная радасць — жыццё...

І ў гэтай шырокай светлыні цёпла, сонечна расцвітала Ахрэмкава радасць.




# Публіцыстыка





# ГЛЫТОК АТРУТЫ

Наўрад ці знойдзецца чалавек, які адкрыта прызнаўся б, што ён свядома атручвае сваіх дзяцей, блізкіх ды, урэшце, і самога сябе. Хутчэй наадварот. Хто ж не хоча дыхаць чыстым паветрам, есці натуральныя, без канцэрагенных рэчываў, бульбу і мяса, піць крышталёвую ваду?

Выходзіць, што кожны з нас паасобку дзвюма рукамі галасуе за чысціню навакольнага асяроддзя. А вось калі ўзяць усё грамадства... Ды не, і ўсе разам мы, здаецца, толькі і дбаем пра экалогію. Глядзіце, колькі ўвагі надавалася гэтым пытанням у апошні час на Пленумах ЦК КПСС, на XIX Усесаюзнай партканферэнцыі. Прынята Пастанова ЦК партыі і Савета Міністраў краіны «Аб карэннай перабудове справы аховы прыроды». Арганізаваны Дзяржкамітэт, які заклікалы выратаваць нашы прыродныя рэсурсы. Ды і мясцовыя органы, што называецца, не дрэмлюць у шапку. Нядаўна, напрыклад, адбылася сесія Мінскага абласнога Савета народных дэпутатаў, прысвечаная пытанням экалогіі. Вострая, прынцыповая размова ішла на ёй.

Адным словам, грамадой мы таксама — «за». За чысціню нашых рэк і азёр, лясоў і паветра, палёў і прадуктаў харчавання. Вось і атрымліваецца парадаксальная сітуацыя. Усе — «за», праціўнікаў няма, а тым часам быццам нябачны і няўлоўны дыверсант беспакараным чорным ценем раскінуў крылы над нашым штодзённым побытам. Урэшце, часцей за ўсё мы робім выгляд, быццам нічога страшнага не адбываецца, не трэба панікаваць, для гэтага няма ніякіх падстаў.

Панікаваць, вядома, не да твару. Аднак становіцца ніякавата, калі даведаешся, што амаль трэцяя частка правераных агародніных кансерваў утрымліваюць экстрэмальныя ўзроўні пестыцыдаў. Або вось яшчэ. У кожным пятым кілаграме каўбасы, якая правяралася,— пяць гранічна дапушчальных узроўняў пестыцыдаў. Магчыма, каго-небудзь гэтыя прыклады не ўразілі, тады паспрабуем перавесці размову ў больш зразумелую форму. Падлічана, што, калі адразу з'есці адзінаццаць «зімовых» гуркоў, што вырошчваліся ў цяпліцах, доза гербіцыдаў будзе смяротная для чалавека. Ну, як пажадаць вам пасля гэтага прыемнага апетыту? І яшчэ адно пытанне. Добра, не будзем есці адразу па адзінаццаць, але хто ведае, што адбываецца ў нашым арганізме, калі мы прапануем яму ўсяго паўгурка? Не ведаеце? На жаль, мы таксама.

Рэальнае жыццё дае падставы сцвярджаць, што ўсе мы — у рознай, вядома, ступені — сталі ахвярамі экалагічнай неадукаванасці, недасведчанасці. А вынік гэтага — адсутнасць належнага кантролю за станам навакольнага асяроддзя. Урэшце, тут адно з другім звязана. Проста кажучы, адсутнасць кантролю пазбаўляе нас інфармацыі, а адсутнасць інфармацыі дае магчымасць рабіць выгляд, што няма ніякіх праблем з пестыцыдамі або гербіцыдамі. Вось і атрымліваецца, што толькі ў Мінскай вобласці больш як 150 гаспадарак не маюць наогул ніякіх прыбораў кантролю якасці прадукцыі. Не кажучы пра тое, што мы, пакупнікі, не ведаем, што набываем і спажываем.

Экалагічная неадукаванасць, на наш погляд, з'яўляецца часта прычынай таго, што захады, якія робяцца грамадствам, дзяржавай для аздараўлення навакольля, нярэдка нясуць у сабе адценне няўпэўненасці, фармалізму або нават прымітывізму. Ад такіх захадаў было б наіўным чакаць належнага эфекту.

Вось, напрыклад, разгледзім артыкул 218 Крымінальнага кодэксу, у якім ідзе гаворка аб тым, што забруджванне вады, зямлі і паветра, якое «нанесла або можа нанесці шкоду здароўю людзей, народнай гаспадарцы, раслыннаму і жывёльнаму свету», можа быць пакарана папраўчымі работамі на тэрмін да аднаго года або штрафам да 300 рублёў. Частка другая гэтага артыкула ўзмацняе адказнасць, калі наносіцца не проста шкода, а значная шкода.

Няма сумнення ў неабходнасці «экалагічнага» (назавём яго так) артыкула. Аднак ці можна сцвярджаць, што ён адпавядае сённяшняй сітуацыі з аховай навакольнага асяроддзя, што ён грунтоўна і ўсебакова прадугледжвае жыццёвыя рэаліі?

Дзеля справядлівасці скажам, што, калі наносіцца шкода народнай гаспадарцы, жывёльнаму ці раслыннаму свету, практычна ва ўсіх выпадках узбуджаюцца крымінальныя справы, вінаватыя прыцягваюцца да адказнасці, прымаюцца меры да спагнання штрафаў. Удакладнім: як правіла, тады, калі забруджванне мае разавы характар, ці, лепш сказаць, характар надзвычайнага здарэння.

Але вось прыклад з нашай паўсядзённасці. Сёння кожны на сабе адчувае, як цяжка дыхаць у вялікім горадзе. Анекдот пра дзецюка, які выехаў на ўлонне прыроды і вымушаны быў прыпасці да выхлапной трубы, каб не захлынуцца чыстым паветрам, стаў амаль што рэальнасцю. Адным словам, вядома кожнаму, што мы дыхаем паветрам, якое наўрад ці будзе спрыяць здароўю. Значыць, гутарка ідзе пра дзеянні, якія, згодна з названым артыкулам Крымінальнага кодэксу, могуць «нанесці шкоду здароўю людзей». Значыць, трэба ўзбуджаць крымінальную справу? Тэарэтычна — так. А на практыцы... за гэта наўрад ці возьмуцца нават прафесіяналы з групы Гдляна. Бо, па-першае, амаль немагчыма знайсці вінаватага. Заводы? Але ж аўтобусы таксама даюць дыму. Ды і прыватныя аўтамабілі падкідваюць. Акрамя таго, заводам пэўна нехта ж дазваляе «кідаць» на горад тоны немаведама якой дрэні. А той, хто дазваляе, хаця павінен, наадварот, кантраляваць, адразу ж створыць спецыяльную камісію, якая можа даказаць у адзін момант, што наша паветра самае гаючае. Вы скажаце, у перыяд публічнасці такое немагчыма? Мёд бы піць вашымі вуснамі...

«Ад'едзем» на нейкі час з горада і накіруемся ў бок нарачанскага краю, каб пацвердзіць, што тэзіс пра «спецыяльныя» камісіі — не плод нашай фантазіі, а жыццёвая рэальнасць.

Восем гадоў прайшло з таго часу, як Савет Міністраў рэспублікі прыняў пастанову, у якой прадугледжаны мерапрыемствы па ахове водных і зямельных рэсурсаў басейна возера Нарач. Было б няпраўдай сказаць, што нічога не зроблена. Аднак зусім відавочна і тое, што нават першачарговыя мерапрыемствы не выкананы. Як вынік — якасць вады ў азёрах Нарачанскай групы па санітарна-бактэрыялагічных паказчыках не паляпшаецца. Спрыяюць гэтаму і «спецыяльныя» камісіі. І вось якім чынам.

Гаспадаркі водаахоўнай зоны па-ранейшаму забруджваюць возера, парушаюць правілы захавання пестыцыдаў, прымянення мінеральных угнаенняў. Больш таго, пасля прыняцця пастановы ў глебу ўнесена ў два разы больш тукаў, чым да гэтага, хаця названы дакумент патрабуе строгага абмежавання прымянення мінеральных угнаенняў. Ну, прама спаборнічаюць між сабой гаспадаркі — хто падкіне больш атруты возеру.

А тым часам Дзяржаграпрам рэспублікі прымае ў жніўні 1988 года часовыя рэкамендацыі па выкарыстанню мінеральных угнаенняў у гаспадарках водаахоўнай зоны. Пад дакументам, як і належыць, подпісы вучоных БелНДІ глебазнаўства і аграхіміі. Чытаеш гэтыя рэкамендацыі і дзіву даешся. Сказана, напрыклад, што ў водаахоўнай зоне неабходна выкарыстоўваць капсуляваныя ўгнаенні. Але часова, да пачатку іх прамысловай вытворчасці (каму вядома, калі тое будзе?), можна прымяняць карбамід. Лепш, кажуць вучоныя, уносіць арганіку. Але калі няма магчымасці — можна і сульфат амонію. Адным словам, як у той прыказцы: нельга, але калі вельмі хочацца, то можна. Як тут не ўспомніць навуковыя заключэнні, якія даваліся ў свой час у сувязі з будаўніцтвам цэлюлозна-папяровага камбіната на Байкале або адносна праекта пераадкі рэк?

Ёсць тут і яшчэ адзін бок справы. Няма ніякай гарантыі, што нават гэтыя, мякка кажучы, паблажлівыя рэкамендацыі будуць выконвацца. Вучоныя, напрыклад, патрабуюць наогул выключыць з аграрнага асартыменту аміячную ваду. Прадстаўнік Мядзельскага раёна, выступаючы на сесіі абласнога Савета, рапартаваў: «З гэтага года раён у цэлым не будзе прымяняць вадкіх азотных угнаенняў». Аднак літаральна праз некалькі хвілін, нібы забыўшыся пра сказанае раней, ён папракнуў аблаграпрам у амбіцыёзнасці і адсутнасці дзелавога і навуковага падыходу: у раёна, бачыце, забралі аміячную ваду. Што гэта — славесныя гульні ці зноў жа разлік на экалагічную неадукаванасць, на тое, што дэпутаты не ведаюць: адносіцца аміячная вада да азотных угнаенняў ці не?

Калі ўжо загаварылі пра Нарач, то нельга абысці і яшчэ адзін момант. Прыродаахоўныя мерапрыемствы прадугледжвалі вынас з зоны строгага рэжыму шэраг па-будоў розных рэспубліканскіх устаноў. Аднак з цягам часу, дзякуючы адпаведным намаганням зацікаўленых асоб, многія з гаспадароў летніх домікаў і іншых збудаванняў прыдбалі своеасаблівую ахоўную грамату — «у парадку выключэння». «Выключэннямі» сталі пабудовы турысцка-экскурсійнага аб'яднання «Нарач», інстытута «Белдзяржпраект», інстытута народнай гаспадаркі, аблспажыўсаюза... Не вартымі «выключэння» ў першую чаргу аказаліся... дзеці. Піянерлагер «Нарач», дзе штогод адпачывалі сотні школьнікаў, быў знесены практычна ў першую чаргу.

Аднак вернемся ў наш шматпакутны горад і працягнем размову пра адказнасць за забруджванне навакольнага асяроддзя. З паветрам мы нібыта разабраліся. Возьмем сітуацыю больш канкрэтную. З тымі ж «зімовымі» гуркамі, напрыклад. Не будзем есці адзінаццаць, але дапусцім, што, з'еўшы іх нейкую колькасць, вы адчулі сябе дрэнна. На каго загадаеце скардзіцца? На гандаль? Але яго прадстаўнікі пачнуць даводзіць, што ў іх няма прыбораў для кантролю. На старшыню калгаса, дзе вырашчаны атрутныя гуркі? А ён наогул скажа, што не прымушаў вас іх есці. Цяплічніцы?.. Яны наогул не ведалі, што займаліся справай, блізкай да злачынства. Не, наўрад ці можна знайсці тут вінаватага.

Выклікаюць сумненні і меры пакарання, якія прапануюцца ў названым артыкуле Крымінальнага кодэксу. Не, мы зусім не прагнем смяротнай кары або пажыццёвага пазбаўлення волі тых, хто забруджвае або дазваляе забруджваць паветра, ваду, зямлю. Аднак нам незразумела, на чым грунтуецца памер штрафу ў трыста рублёў. Вось, скажам, летась у Мінскай вобласці толькі прыродаахоўнымі органамі за парушэнні законаў аб ахове прыроды былі аштрафаваны грамадзяне на суму 70 тысяч рублёў. Але хто вызначыў сапраўдныя страты, якія панесла асяроддзе? У большасці выпадкаў такія ацэнкі не праводзяцца, а калі і праводзяцца, то на вока.

Такая паблажлівасць нараджае пачуццё беспакаранасці, якое набывае характар эпідэміі. Сёння амаль што на кожным кроку парушаецца пастанова Савета Міністраў краіны, якая забараняе выключаць з пускавых комплексаў памяшканні і збудаванні, што прызначаны для эфектыўнай ачысткі, абясшкоджання і затрымання шкодных выкідаў у атмасферу, ваду і глебу.

Заслаўскае вадасховішча, дзе летам адпачываюць многія мінчане, атручана сцёкамі жывёлагадоўчага комплексу саўгаса «Вішнёўка». Па праекту тут былі прадугледжаны ачышчальныя збудаванні. Аднак праект застаўся на паперы, комплекс уступіў у строй без іх. Хто панёс ці панясе за гэта адказнасць? І якую?

Вілейскае вадасховішча забяспечвае вадой амаль 200 тысяч жыхароў Мінска. У водаахоўнай зоне яго па-ранейшаму ўносяцца ў глебу ядахімікаты, прымяняюцца мінеральныя ўгнаенні. Вадасховішча забруджваецца сцёкамі ад ферм саўгаса «Вязынь», калгаса «Бальшавік», Ільяскага саўгаса-тэхнікума.

Самую сур'ёзную трывогу выклікае лёс малых рэк і ручаін, многія з якіх губляюць не толькі чароўную празрыстасць і паўнаводнасць, але нават застаюцца без назваў. Толькі ў Мінскай вобласці з чатырох тысяч малых рэк захаваліся назвы крыху больш трохсот. Але і іх берагі сталі своеасаблівым плацдармам для экалагічных авантурыстаў — тут будуюцца фермы, гнаясховішчы, розныя майстэрні, склады ядахімікатаў і мінеральных угнаенняў.

Вось толькі некаторыя адрасы пачварнага наступу на прыроду. Раку Бярэзіну ў Барысаве атручвае сцёкамі фанера-запалкавы камбінат. Рэкі Мужанку і Сху ў гэтым раёне забруджваюць шэраг гаспадарак. Раку Валожынку — фермы калгаса «17 верасня», ільнозавод, Баранаўку — калгас імя Гастэлы, Літанку — калгас імя Суворава, Іслач — калгас «Камсамолец», Снопку і Ушу — Сноўскі крухмальны завод, Лагазянку — саўгас «Лагаза», Крэшчанку — калгас імя Будзённага...

А як апраўдаюцца перад нашчадкамі аўтары «мудрага» праекта выпрамлення вы-

-токаў Нёмана ў Уздзенскім раёне ці тыя, хто праклаў ачышчальны калектар паўз яго ў Стаўбцоўскім раёне?.

Прыклады можна працягваць. Асобным кіраўнікам настолькі спадабалася ліберальнасць законаў, што яны спрабуюць нахабна ігнараваць іх. Летась абласной інспекцыяй па ахове прыроды за выкід у рэчку Сху забруджаных сцёкаў з фермаў быў аштрафаваны на сто рублёў старшыня калгаса «Маяк камунізму» Барысаўскага раёна В. М. Новік. Ва ўстаноўлены законам тэрмін старшыня штраф не заплаціў і нават забараніў галоўнаму бухгалтару выконваць пастанову. Але нават калі заплаціў бы, то зноў жа зададзімся пытаннем: адкуль узялася лічба «100»? Хто і як яе абгрунтаваў? Ды ніхто і ніяк.

Вось тут мы і падыходзім да таго, што ў справе аховы прыроды неабходна не толькі экалагічная дасведчанасць, але і разумныя, абгрунтаваныя законы. Не трэба жорсткіх фізічных мер, не трэба турмы (хаця, можа, і няблага было б у парадку прафілактыкі прымусіць з'есці штук дзевяць гуркоў таго, хто іх нам прапануе). Законы змогуць быць эфектыўныя, калі будуць грунтавацца на простым прынцыпе, які даўно ўзяты на ўзбраенне развітымі краінамі. Сутнасць яго: забруджвальнік плоціць. І не проста абстрактна вызначаныя штрафы. Не. Хочаш выкінуць адыходы — твая справа, але плаці такую суму, за якую можна ачысціць твае выкіды. І, вядома, не з дзяржаўнай кішэні, а з уласнай.

На практыцы гэта выглядала б прыкладна так. Вось, скажам, Мінгарвыканком выдзеліў стаянку для 200 аўтамабіляў для канторы па механізаванай уборцы вуліц сталіцы. Змагаючыся за санітарыю горада, гэтыя машыны бязлітасна забруджваюць раку Свіслач — стаянка знаходзіцца на адлегласці 35—40 метраў ад берага. У раку скідваюцца нафтапрадукты, смецце. Тэхнічны стан пляцоўкі зусім не адпавядае патрабаванням прыродаахоўнага заканадаўства. Як адрэагавалі на гэта праваахоўныя органы ў сённяшняй сітуацыі? Прыцягнулі да адказнасці вінаватых — аштрафавалі. Аднак, па-першае, удар, нанесены прыродзе, бязмерна большы за сумы штрафаў. А падругое — стаянка і сёння забруджвае Свіслач.

А вось калі б з першага дня і нават загадзя быў падлічаны кошт ачышчальных збудаванняў ды гэтая сума была ўзята з кішэні тых, хто выдзяляў месца для стаянкі, і тых, хто яе эксплуатуе, то экалагічны эфект быў бы сапраўды эфектам. Наўрад ці ў такім выпадку і кіраўнікі гаспадарак рызыкавалі б забруджваць вадаёмы сцёкамі з ферм або ядахімікатамі ці вырошчваць нітратную бульбу. Урэшце, пры такім падыходзе яны проста сталі б банкрутамі з такой бульбай — ні адзін спажывец яе не ўзяў бы.

І, вядома, прынцып «забруджвальнік плоціць» немагчыма ажыццявіць без шырокай публічнасці. Менавіта яна здольна прымусіць людзей, якія прымаюць рашэнні, павышаць сваю экалагічную пісьменнасць. Экалагізацыя свядомасці сёння патрэбна грамадству не менш, чым гуманізацыя і дэмакратызацыя. Аднак атрымліваецца, што мы пра гэта толькі гаворым. Калі ж даходзіць да канкрэтнай справы... Сёння лічыцца, што сакрэтнай экалагічнай інфармацыі няма. Аднак ці даступная яна кожнаму члену грамадства? Рытарычнае пытанне. Зайдзіце ў бліжэйшы магазін і паспрабуйце праверыць якасць прадуктаў, якія набываеце. У лепшым выпадку з вас проста пасмяюцца, у горшым — і «псіхбрыгаду» могуць выклікаць. А што ж тады казаць пра іншыя экалагічныя звесткі? Так ці інакш сістэмы, якая дазваляла б даводзіць усе звесткі па стану навакольнага асяроддзя да людзей, да грамадскасці, у нас пакуль няма. Той, хто выказвае цікавасць, вымушаны вышукваць інфармацыю па крупінках, амаль падпольна. Іншыя ж абмяжоўваюць сваю экалагічную дасведчанасць толькі застольнымі жартамі: «Глядзі, у бульбе нітраты ажно патрэскваюць...»

Што ж, пачуццё гумару — не горшае з чалавечых пачуццяў. Але важна, каб яно не ператваралася ў беспадстаўны аптымізм, у гэткую бесшабашнасць: маўляў, нас не запужаць ні рэнтгенамі, ні пестыцыдамі. Мы часта робім глупства з-за няведання. Вось чаму сёння, як ніколі, трэба ведаць, што мы ядзім і п'ём, чым дыхаем і наогул — у якім стане наша матухна-зямля. Веды прадыктуюць рашэнне.

Экалагічная дасведчанасць не абмяжоўваецца толькі інфармацыяй аб колькасці выкідаў атрутных рэчываў у атмасферу ці сцёкаў у раку. Экалогія нярэдка ўплывае і на сацыяльныя праблемы, прычым самым нечаканым чынам. Вядомы вучоны, член-карэспандэнт АН СССР А. Яблакаў прыводзіць такі прыклад.

Праводзіўся дослед на пацуках. Ім давалі ў адной ёмістасці чыстую ваду, а ў другой — разбаўлены алкаголь. Спачатку пацукі выбіралі ваду. Аднак калі паветра, у якім знаходзіліся пацукі, напоўнілі вуглякіслым газам (прыкладна ў такіх суадносінах, як на вуліцах вялікага горада), многія пацягнуліся да алкаголю... З людзьмі такіх доследаў не праводзяць. І ўсё ж тут ёсць падставы задумацца над тым, што існуе нейкая залежнасць паміж паветрам, якім мы дыхаем, і тым, што п'ём...

Або вось узяць такую справу, як паляванне. Не, ніхто не супраць такога віду адпачынку. Але ж сёння толькі ў Мінскай вобласці жывёльны свет знаходзіцца пад прыцэлам амаль 20 тысяч ружжаў. Уявіце сабе некалькі пяхотных дывізій, якія гойсаюць па лясах, вынішчаючы звяроў і птушак. І дадайце сюды браканьерства. Так што і тут, напэўна, было б варта падумаць — ці разумна трымаць такую колькасць паляўнічых, якая, дарэчы, расце з году ў год.

А пакуль што... пакуль што, куды ні павярніся, сустрэнешся з экалагічным авантурызмам, які не здольны задумацца пра дзень заўтрашні. У выніку мы падманваем не толькі саміх сябе, але і абкрадваем тых, хто прыйдзе на нашу грэшную зямлю пасля нас.

**Сямён СКАРУЛІС,**
**старшы саветнік юстыцыі**
**Анатоль ЯРАСЬ,**
**журналіст**

Фота **В. Ждановіча**

*Да 50-годдзя з дня нараджэння Варлена Бечыка*



# Высокай красе адданы

І прад высокаю красою,
Увесь зачараваны ёй,
Скланіўся я душой маёй,
Натхнёнай, радаснай такою,
А ў сэрцы хораша было.
Там запалілася цяпло.

Гэтыя словы Максіма Багдановіча Варлен Бечык узяў за эпіграф да аднаго раздзела сваёй апошняй кнігі «Прад высокаю красою...» (1984). І эпіграф, і назва кнігі зусім не выпадковыя. Яны ўнутрана вельмі блізкія крытыку, асабліва адпавядаюць ягонай творчай пазіцыі. Ды і чалавечай сутнасці. Высокай красою была надзелена для Бечыка мастацкая літаратура, найперш — паэзія. І перад усім — родная беларуская паэзія. Паэзіі ён быў адданы асабліва, жыў паэзіяй. Пастаянна запісваў цэлыя вершы, строфы, асобныя радкі, якія яму спадабаліся. Адразу неяк завучваў іх на памяць. Любіў і ўмеў чытаць. Чытаў своеасабліва, зусім не артыстычна. Але адчуваў, вылучаў і перадаваў слухачам самую сутнасць, самую паэтаву адметнасць. У свеце паэзіі, у стыхіі паэтычнага слова, якая была для яго надзвычай блізкая, пачуваў ён сябе вельмі свабодна, арганічна. Разам з тым і ўнутрана засяроджана, у вышэйшай ступені адказна. Як чалавек, як крытык.

«Патрэбна крытыка высокіх крытэрыяў (гэта адно) і крытыка высокіх ідэалаў (дакладней, каб не было стылявой блытаніны): крытыка з высокімі ідэаламі, з шырынёй не толькі літаратурна-эстэтычнай сферы, але пранікнення ў жыццёвае і ахопу жыццёвага», — так запісаў Варлен Бечык у адной са сваіх «Запісных кніжак», запісаў 3 студзеня 1979 года.

«Запісныя кніжкі» ён вёў з пачатку 1959 г. і аж да самай смерці. Вёў увесь час, пастаянна насіў з сабою. Сёння згадваецца: зойдзеш, бывала, да яго ў кабінет (гэта ў час працы ў выдавецтве «Мастацкая літаратура») — сядзіць і нешта хуценька запісвае ў невялікага фармату запісную кніжачку. Па першай неўсвядомленай рэакцыі бачыш, што не ў час, відаць, зайшоў. Але ўсё гэта можна было заўважыць толькі на момант. Адразу ж усмешка, шчыра-прыязныя словы, гатоўнасць вырашаць патрэбныя справы. Здаралася такое найчасцей у час абедзеннага перапынку. Зараз, калі «Запісныя кніжкі» надрукаваны (далёка, праўда, не ў поўным аб'ёме), відаць, у якой ступені патрэба весці запісы была для яго неабходная і арганічная. У любых умовах, у любой сітуацыі.



Чытаючы сёння «Запісныя кніжкі», зробленыя, вядома ж, асабіста для сябе, перачытваючы ягоныя кнігі, артыкулы і рэцэнзіі, згадваючы выступленні ў Саюзе пісьменнікаў і ў Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы, добра бачыш і разумееш, у якой ступені (вядома ж, самай высокай) крытыка, дакладней, крытычная дзейнасць, была для Варлена Бечыка нармальным ладам жыцця, арганічным станам душы. Ладам жыцця і станам душы, падпарадкаваным значнай этычнай і эстэтычнай мэце. Патрабаванні да сябе як да крытыка ў Бечыка былі самыя высокія.

Звернемся да «Запісных кніжак».

17 лютага 1969 года запісвае: «У мяне ёсць душа, якая адгукаецца на кожны такт прыгажосці і праўды, але няма, здаецца, дастатковых унутраных багаццяў і ведаў для шырокай, гнуткай і рознабаковай канцэпцыі...»

1 верасня 1977 года праграмна сцвярджаецца: «Трэба пісаць важнае, неабходнае, шчырае, высокае, трывалае, светлае, чыстае...»

У запісе за 27 снежня 1978 года крытычная пазіцыя тэарэтычна паглыбляецца і ўгрунтоўваецца: «Важна, вядома, думаць вялікую думу аб жыцці і выказваць яе ў першазнойдзенай велічы, але не менш важна — быць сапраўдным, трывалым, мужным. Што нельга дараваць сабе — бесхарактарнасць. Справа не ў лагоднасці».

Хочацца звярнуць увагу на апошні запіс, на апошнія радкі ў ім. Яны, як мне здаецца, не толькі пра крытыку наогул; найперш яны адрасаваны аўтарам самому сабе. Варлен Бечык надзелены быў шырокай і чулай душою, добрым, спагадлівым сэрцам, быў чалавек лагодны і памяркоўны. І ён дзесьці ўвесь час свядома непакоіўся, нават нібы баяўся, каб ягоная чалавечая добрасць і лагоднасць не стала крытычнай (ды і чалавечай) бесхарактарнасцю, якая роўная беспрынцыповасці.

Непакой суб'ектыўна зразумелы. Але здарыцца такое не магло. Не магло не толькі таму, што Бечык гэтага не хацеў. Ён проста не мог гэтага зрабіць. Не мог, бо ягоныя маральныя прынцыпы: крыштальная сумленнасць і праўдзівасць, ягоная творчая пазіцыя, эстэтычныя крытэрыі — не дазвалялі яму так зрабіць. І як чалавеку, і як крытыку.

Згадваецца сумесная праца ў Інстытуце літаратуры. Абмеркаванне завершаных тэм і раздзелаў. Што гаварыць, для В. Бечыка не было пытанняў. Ён адразу схопліваў і моцныя, і слабыя бакі любой працы. Вельмі часта ён мог пра іх сказаць яшчэ да чытання, бо добра ведаў чалавека (аўтара), бо чытаў усё, што той дагэтуль напісаў. Чытаў усё, што пісалі нашы крытыкі наогул, — уважліва, прыдзірліва. Любіў асабліва крытыку эсэістычную — адкрыта-эмацыянальную, зацікаўленую жыццём і чалавекам.

Што ж да абмеркавання літаратуразнаўчых прац, то для яго самым складаным, а часам і пакутлівым было — як гаварыць. І не ў тым сэнсе, каб данесці сваю думку, каб яе правільна зразумелі: Бечык умеў гаварыць глыбока, дакладна і нераўнадушна. Але гаварыў ён не толькі аўтару, але і чалавеку. Чалавеку (і аўтару), які толькі ўступаў на творчую дарогу, рабіў на ёй першыя крокі. І як важна было заўважыць адметнасць гэтых крокаў, звярнуць увагу. І Бечык гэта рабіў у першую чаргу, імкнуўся знайсці нешта сваё, хоць і не проста было гэта зрабіць. Але ж выказваў і крытычныя заўвагі — тактоўна, з агаворкамі, як пажаданні. Ды і не заўсёды тут усё было проста і лёгка. Вельмі часта Бечык быў незадаволены сваімі выступленнямі, перажываў, пакутліва моршчыўся. Тыя ж, пра каго ён гаварыў, чыя праца абмяркоўвалася, ніколі не былі пакрыўджаныя ці нават незадаволеныя. З імі гаварылі сур'ёзна, гэта абнадзейвала, натхняла. Колькі яшчэ даводзілася яму пасля афіцыйнага абмеркавання гутарыць з тым ці іншым навукоўцам! І цвёрда перакананы, што такія таварыскія гутаркі для многіх сталі ўрокамі высокага служэння літаратуры, сапраўды прафесійных адносін да мастацкага слова.

Асабліва такія гутаркі прыйшлося бачыць і чуць у выдавецтве, дзе ў галоўнай рэдакцыі Бечык вёў паэзію. Колькі паэтаў — пачаткоўцаў, маладых і ўжо даволі вопытных — заходзілі да яго, каб па-

гутарыць, так, пагутарыць, а не выслухаць заўвагі пра свой чарговы рукапіс. Гутаркі гэтыя былі працяглыя, тактоўна-ўдумлівыя, поўныя павагі да творцы і, разам з тым, паслядоўна прынцыповыя. Адны выходзілі ўзрушана-натхнёныя, іншыя паглыблена-задуменныя, а той-сёй і не без злосці. Праўда, апошніх было вельмі і вельмі мала. Але былі. Бечык не мог іх зразумець, страшэнна перажываў, вінавата неяк цёр рукою вочы, пазіраў быццам вінавата-разгублена. Асабліва тады, калі хто ў ягонай прынцыповай пазіцыі імкнуўся вынайсці пазалітаратурныя матывы. Хоць штосьці падобнае ў яго выключалася абсалютна. З гэтым, напэўна, пагодзіцца кожны, хто хоць трохі ведаў гэтага сумленнейшага чалавека і пісьменніка.

Перад кожнай сур'ёзнай гутаркай ён раіўся з таварышамі, зачытваў вершы, строфы, радкі, часам рукапіс чытаў паўторна. Хоць унутрана падрыхтаваны да ўспрыняцця і ацэнкі мастацкага твора быў надзвычай высока.

У Бечыка-крытыка было выключна развіта пачуццё праўдзівасці. Любы фальш у літаратуры, у творы адчуваў адразу. Бо літаратура ў часы застойныя навучылася падаваць праўду з такой колькасцю «але», што яна ў канчатковым выніку губляла сваю сутнасць, так гэтую праўду прыгладжваць, прычэсваць, што і пазнаць яе нельга было.

«Прапаведзі сумлення і шчырасці ў нас—у літаратуры, крытыцы—часта не хапае іменна сумлення і шчырасці. Яны як быццам і ёсць, але побач—маленькія хітрасці, дробныя падтасоўкі, і вось ужо—няшчырая шчырасць, шчырая няшчырасць» («Запісныя кніжкі», 1 верасня 1979 г.).

Амаль на дзесяць гадоў раней, 4 верасня 1970 года, Бечык запісваў—даваў сабе наказ: «Не маніць і ў прынцыпах не хістацца!»

Крытык востра адчуваў небяспеку для літаратуры паўпраўды, «шчырай няшчырасці», бо разлічаны яны заўсёды на падман, разлічаны не на рэальнасць (няхай і эстэтычную), а на гульню, гульню ў паддаўкі з рэчаіснасцю. Такая паўпраўда і няшчырая шчырасць або шчырая няшчырасць намнога горш адкрытай няпраўды і няшчырасці.

Калі паспрабаваць вызначыць галоўныя апорныя катэгорыі, на якіх грунтуецца ўся сістэма эстэтычных каардынат крытыка, то, безумоўна, найперш давядзецца гаварыць пра шчырасць і праўдзівасць. Чытаючы крытычныя кнігі «Свет жывы і блізкі» (1974), «Беларуская савецкая лірыка» (1979, разам з М. Ярошам), «Шлях да акіяна» (1981), «Прад высокаю красою...» (1984), шматлікія артыкулы і рэцэнзіі, лёгка заўважаеш, што не толькі ацэнка паэтаў, іхняй творчасці, паасобных твораў падпарадкавана менавіта ідэі праўдзівасці і шчырасці. Ідэя гэтая складае асноўны пафас і творчасці самога В. Бечыка. Ды не толькі творчасці, але і ягоных жыццёвых паводзін.

Праўдзівасць—гэта жыццёвасць.

7 сакавіка 1983 года Бечык запісвае: «Напісаць калі-небудзь артыкул «Жыццёвасць». Некалі Блок пісаў: «Нигде не жизненна литература так, как у нас в России». Паэты пайшлі ў вытанчанасць, абразкі, эцюды, імпрэсіі—па-за абставінамі, дачыненнямі, рэаліямі жыцця. Няма кантактаў са штодзённасцю. Прыхільнікі Алеся Разанава (вечар у Доме мастацтваў) паляць свечку, гавораць пра моц і свята інтэлекту (няхай), крычаць: «Слава Разанаву!» (гэта недарэчна); але ж не рабіць усю паэзію інтэлектуальным шаманствам—хадзіце па зямлі, бачце жывых людзей, чуйце пахі і гукі, не забывайце пра хлеб, станок, карову і авечку...»

Можа здацца, што Бечык зусім не прымае паэзію Разанава. Але гэта не так. Ён толькі супраць усялякай эгаістычнай гульні з паэзіяй і ў паэзіі. Гэтага не даруваў нікому. Не адзін раз даводзілася чуць ягоныя спрэчкі пра паэзію Я. Еўтушэнкі і А. Вазнясенскага. Да іх у яго не было апалагетычных адносін. Шмат бачыў ён у іхняй паэзіі самалюбавання, рэкламнасці, клопату пра форму.

Вось адзін запіс у «Запісных кніжках»: «Прорабы духа» А. Вазнясенскага. Чытаць, вядома, цікава. Аднак занятасць сабой, самарэклама, снабізм» (21 студзеня 1985 г.).

Гэтага Бечык не даруваў нікому. Адсюль і ягоны выпад супраць Разанава. Не супраць ягонай паэзіі. Бо паэзію гэтага таленавітага паэта крытык цаніў даволі высока. У паслясловіі да, магчыма, найбольш складанай кнігі А. Разанава «Шлях—360» пісаў: «Драматычная, актыўна жыццесцвярджальная паэзія Алеся Разанава па-свойму пранікае ў свет сучасніка. І лепшыя творы паэта ўваходзяць у душу, становяцца сапраўднай—чалавечнай і змястоўнай—паэзіяй».

Пераважная большасць цытат, як відаць, узята з «Запісных кніжак». І цытаты гэтыя з'яўляюцца яшчэ адным сведчаннем (няхай сабе і не галоўным) вернасці крытыка прынцыпам праўдзівасці і шчырасці. Думкі, запісаныя для сябе, у артыкулах сталі галоўнымі, асноватворнымі крытычнымі ідэямі.

У адным з апошніх артыкулаў «У чаканні галоўнага (Слова ў дыскусіі пра сучасную паэзію)» Варлен Бечык паглыбляе думку пра жыццёвасць, паняцце жыццёвасці звязвае з маральнасцю, а маральнасць, у сваю чаргу, з мастацкасцю. Піша ўсхвалявана: «А занятасць сабою, мітусня, зніжэнне крытэрыяў, адсутнасць самакантролю прыводзяць да адчувальных маральных страт. У паэзіі амаральна «чырыкаць», бяздумна пырхаць ад галінкі да галінкі, ад ручайка да ручайка. Амаральна не бачыць галоўнага. Амаральна шукаць лёгкіх шляхоў. Амаральна не чуць людскога гора, быць самаўлюбёным, няўважлівым». Далей думка працягваецца: «Мне заўсёды здавалася, што маральнае пачуццё павінна быць бездакорным у паэта, пісьменніка. Ні драбінкі фальшу, ні адцення няпраўды! Яшчэ не сказаў, а ўжо адчуў: нельга! не так!»

І гэта не проста гучныя словы, голая дэкларацыя. Крытык іх слушнасць даводзіць шматлікімі прыкладамі з сучаснай нашай паэзіі, наогул літаратуры. А з якой неабвержнай сілай пацвярджаюць гэта «Запісныя кніжкі», так багата насычаныя паэтычнымі тэкстамі!

Бездакорным маральным пачуццём у вышэйшай ступені быў надзелены і сам крытык.

Адным з самых істотных момантаў пры аналізе творчасці таго ці іншага пісьменніка для Бечыка было выяўленне яе жыццёвасці. Ён умеў адчуць (як бы нават інтуітыўна), вызначыць той творчы настрой, з якім пісаўся твор, выявіць яго жыццёвыя вытокі, зразумець жыццёвыя стымулы. І тады ў кожнай паэтычнай з'яве абавязкова акрэсліваецца становучае, тое, што народжана часам і служыць жыццю, чалавеку, «вядзе ў жыццёвае бязмежжа».

Пра каго б ні пісаў крытык: ці то пра нашых народных паэтаў А. Куляшова, П. Броўку, М. Танка, ці то пра тых, чыё паэтычнае слова гартавалася ў полымі Вялікай Айчыннай вайны, ці то пра сваіх аднагодкаў, дзяцей ваеннага ліхалецця, ці то пра тых, хто толькі прыходзіў у літаратуру ў апошнія гады жыцця крытыка,—усюды ён шукаў рэальныя вытокі і матывы творчасці, іх вызначальную сілу ў фармаванні паэтычнай адметнасці, індывідуальна-непаўторнае мастацкае ўвасабленне праўды часу і жыцця.

«Ёсць для ўсіх нас, хто жыве на любай беларускай зямлі, адна асаблівая дарагая—святая і балючая дарога. Не толькі для нас, але і для многіх людзей з усяго свету стала яна незабыўнай і важнай. Гэта дарога на Хатынь, да яе нягучных і так моцна чутных званоў, да абпаленага куточка Беларусі, дзе навечна прапісаны шматмільённы боль і стогн, дзе няспынна нясе сваю бяссонную службу памяць пра пакуты і подзвіг нашага народа ў Вялікай Айчыннай.

Калі б ні ехаў гэтай дарогаю, абвострана адчуваеш навакольную красу: як хораша тут, як прыгожа! Здаецца, толькі для радасці і шчасця на вякі існуюць гэтыя пагоркі і палі, лясы і ўзлескі, пакручастыя дарогі і затравелыя сцежкі. Але ж ведаеш: гэта зямля ў час апошняй вайны зведала найвялікшыя нягоды і гора...»

Так пачынаецца артыкул пра Ніла Гілевіча. Акрэслены вытокі ягонай паэтычнай творчасці—паэта, пафас творчасці якога народжаны ўражаннямі дзён гераічна- і трагічна-векапомных. «Тэма народнай памяці, узмоцненая асабістымі ўспамінамі, разгортваецца як надзвычай вялікая і важная тэма, якая прычыняецца да ўсяго, чым жыве паэт, аб'ядноўвае многія яго пачуцці і духоўныя пошукі».

Па сутнасці, такі ж самы падыход мы бачым і пры аналізе і ацэнцы аповесці І. Пташнікава «Тартак». Артыкул названы «Збалелая памяць». Пачынаецца з даведкі з БелСЭ пра страты Беларусі ў ваенныя жахлівыя гады, з размовы пра нарыс (толькі што апублікаваны ў часопісе «Маладосць») Алеся Адамовіча, Янкі Брыля, Уладзіміра Калесніка «Памяць» (частка будучай кнігі «Я з вогненнай вёскі...»). Крытык як бы вывяраў вартасць мастацкага твора фактамі рэальнага жыцця, і твор гэтую праверку вытрымліваў. Больш таго, набываў асаблівую, не ўласцівую, можа, нават факту рэальнаму, эмацыянальна-духапад'ёмную сілу.

В. Бечык зазначае: «Можна смела сцвярджаць, што аповесць «Тартак» з'яўляецца тым красамоўным прыкладам узаемаадносін літаратуры з жыццёвай праўдай, які пераконвае нас у жыццядзейнай сіле і вялікай духапад'ёмнасці мастацкага слова, яго здольнасці разгортваць факты сапраўднага жыцця ў неабсяжны свет, які жыве потым у душы з такой адчувальнай сілай, як і самі факты».

Шукаючы, вызначаючы вытокі пэўнай мастацкай з'явы, ніколі, дарэчы, пры гэтым не забываючы, што з'ява гэтая менавіта мастацкая, Бечык неяк заўсёды імкнуўся аб'ектыўную рэальную аснову падключыць да свайго асабістага жыццёвага і духоўнага вопыту, набытага ў жыццёвых нягодах, часта — пакутах.

Ягоная творчасць з'яўляецца красамоўным сведчаннем таго, што пісьменнік дасягае найбольш адчувальных поспехаў тады, калі факты, з'явы аб'ектыўнай рэчаіснасці, пра якія ён піша, якія ўзнаўляе, аплоднены асабістым, суб'ектыўным духоўным і душэўным вопытам аўтара, спраецыраваны на гэты вопыт. Менавіта ў арганічнасці, натуральнасці такога ўзаемапранікнення бачыў ён вызначальную якасць сапраўднай літаратуры. Пасля прачытання аповесці В. Астаф'ева «Пастух і пастушка» запісвае (11.IV.1980 г.): «Гэтая, зноў мільганўушая думка: калі чытаеш сапраўдны твор, яднаюцца два розныя адчуванні — быццам усё гэта ты даўно ведаў і адчуваў, яно было ў табе, і быццам ты толькі цяпер, зараз усё гэта адчуў, зразумеў і па-сапраўднаму перажыў. І тое, што ты гэта ведаў і разумеў, — толькі цяпер і зразумеў, зведаў».

Бечык не баяўся гаварыць пра творчасць паэта, пра кнігу вершаў ці нават пра адзін верш як пра сваё асабістае. Гэтую вось асабістасць у паэтычным узнаўленні бясконцага свету заўсёды імкнуўся знайсці і знаходзіў, калі пісаў пра з'явы паэтычныя. Высока цаніў яе як адну з вышэйшых адзнак літаратуры, асабліва слова паэтычнага.

У свой час вялікі Леў Мікалаевіч Талстой у трактаце «Што такое мастацтва?» вызначаў: «Мастацтва ёсць дзейнасць чалавечая, якая заключаецца ў тым, што адзін чалавек свядома вядомымі знешнімі знакамі перадае іншым пачуцці, зведаныя ім, а іншыя людзі заражаюцца гэтымі пачуццямі і перажываюць іх» (Толстой Л. Н. О литературе. М., 1955, с. 92). Ці не тое ж разуменне сутнасці мастацтва?!

У Бечыка яно не запазычанае. Яно сваё, выпрацавана работай розуму і душы. Пацверджана ягонай творчасцю крытыка, ягонай творчасцю чытача, ягоным чалавечым лёсам. Перачытваючы артыкулы крытыка, перажываючы «Запісныя кніжкі» (інакш іх чытаць нельга), па сутнасці, у прынцыпе адносін і да рэчаіснасці, і да літаратуры, у тоне і стылі маўлення, у ступені праўдзівасці і шчырасці мы не бачым адрознення: з сабою гаварыў ён таксама адказна, як з іншымі; з чытачом быў такі ж адкрыты і шчыры, як і з самім сабою. У творах пазнейшых узровень эмацыянальнай напоўненасці, ступень шчырасці ўзмацняецца. І тут зусім не стыхійнасць, а свядомая, прадуманая мэта, для аўтара разам з тым арганічная, натуральная.

Вось Варлен Бечык піша пра пакаленне сённяшніх пяцідзесяцігадовых: «Памяць пра вайну дала маладым паэтам моцны штуршок для паглыбленага паказу жыцця. А творча сталелі яны, прымаючы ўдзел у вялікіх справах свайго часу». І далей: «Адчуванне патрабаванняў часу, выяўленне духоўнага зместу сучаснасці набыло ў іх творах свае рысы народнасці і гістарызму, свае суадпаведнасці жыццёвага і паэтычнага. Незвычайная чуласць да сацыяльна-светапоглядных пачаткаў, да прынцыпаў, ідэй, заканамернасцей жыцця атрымлівае ў іх асаблівае эмацыянальнае выяўленне, праецыруецца на ўласны лёс, на народную памяць і на грамадскі вопыт».

Варлен Бечык належаў да гэтага пакалення — па ўзросце, па творчым лёсе, па духоўным вопыце.

Нарадзіўся 25 чэрвеня 1939 года. Вайна, знявечанае ёю дзяцінства. Школа ў пасляваенныя гады, універсітэт, настаўнічанне, літаратурная праца. За скупымі радкамі энцыклапедычнай даведкі выключна драматычны чалавечы лёс.

У 1984 годзе 9 снежня, менш чым за год да такой заўчаснай недарэчнай смерці, у нейкім адчаі, як бы спрачаючыся з нейкім невядомым (мне, напрыклад) апанентам, Варлен Бечык запісвае:

«І што мой смутак? Смутак чалавека, які не ведаў сапраўднага гора?

**Прабачце.** Я галадаў і мёрз, я не меў дзяцінства, я дзічэў у адзіноце 43-га—44-га года, я быў інвалідам другой групы, я не буду мець уласных дзяцей і наўрад ці прыйдзе хто на маю магілу.

У некаторых людзей — не параўнаеш з маім. Але ці можаце вы сказаць, што я ўжо зусім не ведаю гора! Каб сцвярджаць гэта, вам трэба зведаць хоць трохі больш.

Брытва лёсу некалькі разоў была каля самага майго горла».

Сказана з болем, з крыўдай. Але ж усё, пра што сказана, было.

У асабістым нялёгкім жыццёвым лёсе Бечыка як многа бачыцца таго, што выцерпела ў жыццёвых нягодах усё пакаленне.

Вось піша крытык пра Я. Сіпакова: «Маленькі хлапчук бачыў, як апошні раз яго бацька «аглядаў хату, нібы назаўсёды хацеў запомніць яе», запомніў, як пазней услед за бацькам «паліцаі з п'янымі песнямі павезлі маці туды, адкуль яна ўжо ніколі-ніколі не ўбачыла такой жаданай дарогі дадому, па якой бы яна, здаецца, бегла, бегла і бегла...» Потым былі голад, нішчымніца, пасляваенная галеча і дачасны дарослы клопат».

А гэта пра А. Вярцінскага: «Для станаўлення таленту, фарміравання светапогляду Анатоля Вярцінскага выключнае значэнне мела Вялікая Айчынная вайна, з якою супала дзяцінства паэта. Бацька Ілья Арцёмавіч быў на фронце, а маці Аляксандра Рыгораўна з дзецьмі — у роднай вёсцы Дзямешкава ў Лепельскім раёне, на акупаванай ворагам тэрыторыі. Для гераічнай, шматпакутнай Віцебшчыны, дзе партызанскі рух набыў вялікі размах і таму асабліва лютавалі карнікі, дзе ў час вайны загінуў кожны трэці жыхар... вайна стала штодзённай барацьбою і пакутамі, якія не абыходзілі нікога і якія не забудуць усе, хто астаўся жывым.

Дзеці вайны зведалі ўсе яе жахі, зведалі на поўную меру. Гэта пакінула незабыўны след і шмат што вызначыла ў творчасці Анатоля Вярцінскага, паэтаў яго пакалення».

«Свая» вайна дала магчымасць Бечыку ўбачыць, асабіста адчуць вайну, што абрынулася на ўсё гэта пакаленне, вайну, якая так балюча-драматычна, так непасрэдна адкрыта выявілася ў яго творчасці, вызначыла, па сутнасці, характар гэтай творчасці. Творчасці пакалення і асобных яго прадстаўнікоў.

Напэўна, адсюль, ад асабістай памяці, і тая асаблівая ўвага ў крытыка да творчасці пісьменнікаў свайго пакалення. С. Гаўрусёў і Н. Гілевіч, І. Пташнікаў і Р. Барадулін, А. Вярцінскі і Я. Сіпакоў, А. Кудравец і В. Каваленка, В. Зуёнак і М. Капыловіч... Пра кожнага з іх піша В. Бечык з павышанай увагай, з глыбокім унутраным разуменнем і асаблівай тактоўнасцю і ашчаднасцю.



Увогуле творчасць тых, хто ваяваў, ваяваў і загінуў, чый лёс, жыццёвы і творчы, і сёння нясе ў сабе боль тагачасных страт, пакутаў і перажыванняў, абвостранае пачуццё праўды і сумленнасці, найглыбейшую веру ў духоўныя магчымасці чалавека, — іх творчасць неяк пасаблівому была блізкая В. Бечыку, душэўна зразумелая, адносіны да яе былі надзвычайна паважлівыя. Дастаткова прачытаць артыкулы пра П. Панчанку ці А. Пысіна, В. Быкава ці Е. Лось, каб убачыць і пераканацца, што гэта сапраўды так. Пафас творчасці гэтых пісьменнікаў, увесь комплекс матываў і ідэй звязваецца менавіта з ваеннай біяграфі-

яй. У паэзіі гадоў Вялікай Айчыннай вайны крытыка глыбока кранала праўда пачуццяў, адсутнасць усялякай дробнай мітусні, мітусні асабістай, шчырая прастата, значнасць думак.

Пра А. Пысіна, паэта сціпла-глыбокага і праўдзівага, ён пісаў: «Адзін з самых моцных і пастаянных матываў паэта — матыў вернасці свайму абавязку перад тымі, хто загінуў. Але калі гаварыць пра гэты матыў, давядзецца пашыраць кола гаворкі. Жальба, скруха, гаркота паэта адольваюцца ўсведамленнем нямарнасці баявых спраў таварышаў, байцоў, жаданнем адваяваць сяброў у нябыту, сцвердзіць іх месца сярод жывых, уключыць іх у той жыццёвы кругазварот, дзе маюць мову «вешчыя травы і светлыя дрэвы». Таму запаветы паўшых таварышаў аб'ядноўваюцца з народнымі і матчынымі запаветамі ў адну духоўную спадчыну; у свядомасці яны побач і разам — і працаўнікі-сейбіты, і салдаты, і маці, бо наша жыццё — вынік іх агульнай справы».

Вось так заўсёды крытык умее ўбачыць агульназначны змест творчасці паэта, знайсці і акрэсліць яго жыццёвыя і аўтабіяграфічныя вытокі, зрабіць выхад з аналізу ў жыццё, сучаснае для яго. Ніякі вопыт чалавечы, ніякі вопыт народны не з'яўляецца марны. Памяць народная, асабліва калі яна такога драматычнага зместу, як памяць вайны, застаецца ў народа назаўсёды — як памяць жывая, як памяць духоўна-мастацкая.

Шчымліва-балючымі і разам светлымі, неяк асабіста прачулымі словамі завяршаецца артыкул пра паэзію Е. Лось: «Расла без бацькі. Не было сваёй хаты. Загінуў на вайне брат. Зведала зблізу ўсе ваенныя, блакадныя жахі. Вучылася і знайшла прызванне. Шмат брала на сябе. Вось і здарылася бяда...

Засталіся вершы. І хочацца ўявіць, як прачытае іх новы чытач — і з нашай журбою, але і са сваёй радасцю: як хораша! Думаецца, так і будзе — многа, многа разоў».

Трэба моцна верыць у непераходнасць і непераможнасць жыцця, верыць у вялікую жыццятворную, ачышчальную сілу мастацкага слова, каб пісаць гэта так упэўнена і так усё ж светла.

З вялікай ашчаднасцю і здзіўленнем пісаў В. Бечык пра творчасць паэтаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У іхняй творчасці яго проста ўражвала шчырасць і непадробнасць чалавечых перажыванняў, чысціня высокіх памкненняў, непасрэдная адпаведнасць высокага паэтычнага слова суровай, драматычнай праўдзе чалавечага жыцця. Менавіта ў гэтай паэзіі бачыў крытык непадробнае пісьменнікава служэнне народу і свайму часу, канкрэтную жывую, гістарычную і ёй сучасную, рэальную аснову, якая адзіная робіць любы твор патрэбным жыццю і чалавеку. І не так ужо і важна было ў дадзеным выпадку, што той ці іншы твор таго ці іншага паэта не дабіраў дзесьці ў мастацкіх адносінах, не вылучаўся стылёва-паэтычнай вытанчанасцю, рытміка-інтанацыйнай вынаходлівасцю. Паэтычнай мовай гаварыла жыццё, гаварыла праўда. Жыццё высокага драматычнага напаўнення, праўда жорсткая і бескампрамісная.

Прыпамінаецца, В. Бечык не дужа каб з радасцю ўзяўся за выкананне тэмы, прысвечанай паэзіі Вялікай Айчыннай вайны. А менавіта гэтая тэма была яму ў свой час даручана ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы. І гэта зразумела, бо да таго часу як крытык, як літаратар жыў ён толькі сучаснасцю. У сучаснай беларускай, а таксама рускай, украінскай паэзіі адчуваў ён сябе свабодна, упэўнена — як рыба ў вадзе: то была ягоная стыхія. Праз нейкі час ён ужо, пераконваючы сябе і іншых, даводзіў, што вытокі сучасных набыткаў нашай паэзіі, а таксама прозы, асабліва прозы ваеннай, напэўна ж, трэба шукаць не толькі ў тым часе, але і ў той літаратуры, найперш у паэзіі. Паэзія тагачасная несла ў сабе эмацыянальную праўду драматычных падзей і высокіх узлётаў чалавечага духу.

Пазней, унікнуўшы глыбока ў паэзію тых векапомных і шматпакутных дзён, глыбока ўведаўшы няпростыя жыццёвыя лёсы тых, хто і пяром, і штыком заваёўваў перамогу, крытык убачыў паэзію высокай эмацыянальнай праўды і шчырасці, паэзію глыбокага драматычнага і гераічнага зместу.

Увогуле больш за ўсё і вышэй за ўсё Варлен Бечык цаніў у літаратуры наогул, у паэзіі асабліва, праўду. А праўда літаратуры — гэта праўда жыцця, па-мастацку глыбока і ярка, праўдзіва ўзноўленая. Яна ў рэальнай жыццёвасці пафасу, шчырасці аўтаравага голасу, арганічнасці выказвання, натуральнасці гучання паэтычнага слова.



Усенародны ўздым часоў Вялікай Айчыннай вайны, невымернае народнае гора не дазвалялі пісаць пра штосьці дробязнае, малазначнае, уздымалі вялікія духоўныя сілы народа і чалавека, вымагалі паэтычнага маўлення адкрытага і шчырага. Такое ўбачыў крытык у тагачаснай паэзіі наогул, у творчасці кожнага паэта ў прыватнасці.

Ва ўступе да кнігі «Песні змагання» В. Бечык піcаў: «У «пару вялікага выпрабавання, смутку, упартасці, непахіснасці і непакорнасці» (Кузьма Чорны) высока ўзнялося паэтычнае слова, выключнай валодала сілай, бязмерна многа ўзяло ад народа і як ніколі многа яму дало, стала прыналежным да самага галоўнага і неабходным для ўсіх і кожнага.

Роднае, святое, незабыўнае, балючае...»

Крыху далей: «Мы ведаем: яно было сапраўдным, праўдзівым і шчырым, суадпаведным суроваму і гераічнаму часу. Было патрыятычна страсным і змабілізаваным. У ім пранізліва адчувалася асаблівая каштоўнасць усяго дарагога і роднага, за што ішло змаганне. Яно клікала да бітвы і вяло ў бой, убірала ў сябе і гераічны парыў, і плач, і стогн, і боль, грэла ўспамінамі і давала надзею, мацавала мужнасць, выказвала запаветныя пачуцці і думкі».

Вершы, змешчаныя ў гэтай кнізе, укладальнікам якой быў Бечык, пераканаўча пацвярджаюць гэта.

Напярэдадні 40-годдзя Перамогі ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» складаўся, абмяркоўваўся план юбілейных выданняў, вызначаўся іх характар, прынцыпы складання. І вось тут Варлен Бечык праявіў асаблівую, я б сказаў, сыноўскую зацікаўленасць. Наогул трэба сказаць, што ў яго не было фармальных адносін да любой справы, да любога задання ці даручэння. Усё рабіў ён з поўнай адказнасцю, прафесійна, сумленна. Але тут было іншае — вышэйшая адказнасць, душэўны абавязак.

Па ініцыятыве Бечыка выдавецтва пачало выпускаць серыю кніг пісьменнікаў, што загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у партызанскіх атрадах ці падполлі. Кнігі гэтыя павінны былі ўключаць у сябе мастацкія творы, лісты, успаміны. Сёння чытач змог атрымаць ужо ў гэтай серыі кнігі Х. Шынклера, М. Сурначова, Г. Шведзіка. Наперадзе новыя кнігі пісьменнікаў-змагароў.

Звычайна, калі мы хочам пахваліць нейкі мастацкі твор, то гаворым, што ў ім відаць уся творчасць пісьменніка. І не толькі: у ім чуецца дыханне народнага жыцця.

Менавіта такой паэзіяй для В. Бечыка была паэзія Вялікай Айчыннай вайны. Такою ён яе прадставіў і ў зборніку «Песні змагання», куды ўключаны вершы сарака аднаго беларускага паэта — удзельніка падзей тых векапомных дзён.

Прыкладам асабліва яркім, бясспрэчна пераканальным сапраўднай паэзіі для крытыка была паэзія А. Твардоўскага. Творчасць слыннага паэта, ягоная грамадзянская пазіцыя апошніх гадоў жыцця і дзейнасці заўсёды выклікалі гонар і захапленне. Праўда паэзіі Твардоўскага, яе глыбіня, натуральнасць і зразумеласць былі самым важным аргументам у спрэчках, што не раз горача вяліся вакол пытання прызначэння паэзіі, прызначэння мастацтва наогул.

Бывала, хто-небудзь з апанентаў пачынае ўпэўнена даказваць ідэйна-змястоўную неабходнасць ускладненай формы, напрыклад, у таго ж А. Вазнясенскага. Бечык слухаў, маўчаў. Потым пытаў: «А Твардоўскі? А ў Твардоўскага што, менш значныя ідэі, змест не глыбокі?»

І цытаваў верш ці страфу.

А мог ён бясконца цытаваць на памяць самых розных паэтаў — вершы, строфы, радкі.

Зразумела, нельга ні ў якой ступені думаць, быццам Бечыка-крытыка цікавіла толькі паэзія простая, шчыра-адкрытая і зразумелая. Зусім не. Дастаткова прачытаць ягоныя артыкулы, ягоныя «Запісныя кніжкі», каб пераканацца, што ў полі ягонай творчай цікавасці знаходзілася ўся паэзія, паэзія наогул. І не толькі, зразумела, беларуская. Але асабліва шчырай асабістай любоўю і ўвагай карысталася паэзія, пазначаная высокай прастатой, глыбокай шчырасцю і праўдзівасцю. Хаця мастацкі пошук, эксперымент ніколі не адмаўляўся. Было ўсведамленне, вынашанае асабіста, выверанае жыццём, пацверджанае гісторыяй і часам, што раку нацыянальнай паэзіі жывяць крыніцы, якія выцякаюць з глыбіняў маці-зямлі, што такая паэзія, як і сцюдзёная крынічная вада, патрэбна ўсім і кожнаму.

Таму, відаць, ніколькі нас не павінна здзіўляць асаблівая Бечыкава любоў, па-

стаянная ўвага да паэзіі Аркадзя Куляшова, а таксама — асабліва ў апошнія гады — да па-грамадзянску мужнай і страснай паэтычнай творчасці Пімена Панчанкі. Як вядома, у 1981 годзе В. Бечык выдаў кнігу пра паэзію А. Куляшова «Шлях да акіяна». Падрыхтаваў вялікі том вершаў і паэм паэта для «Библиотеки поэта» (Вялікай серыі), напісаў уступны артыкул, каментарыі. Зрабіў усё гэта на самым высокім літаратурна-тэксталагічным узроўні. Да апошніх дзён жыў марай напісаць кнігу пра П. Панчанку, шмат зрабіў для гэтага.

У артыкуле «Урокі Куляшова» прызнаваўся: «Пісаць пра паэзію Аркадзя Куляшова заўсёды было мне лёгка і радасна. Вядома, я адчуваў пры гэтым і вялікую адказнасць і цяжкасць задачы. Але ўсё роўна — станавілася неяк пасаблівaму светла і панаваў святочны настрой. Хацелася гаварыць незвычайна, нават урачыста. Акрыляла адчуванне вялікіх прастораў, духоўнай і мастацкай велічы куляшоўскай паэзіі».

Аналізуючы паэзію П. Панчанкі, захапляючыся ёю, сцвярджаў, што паэт гэты заўсёды адчувае сябе сярод людзей, у гушчы іх штодзённага жыцця і звычайных спраў. Пачуцці паэта не адрываюцца ад таго, чым штодня жывуць людзі. Лірычная асоба выяўляецца ў ролі суседа, бацькі, дзеда, сына, вернага друга, радавога — «проста» чалавека, які знаецца з іншымі людзьмі будзённа, проста, па-свойску.

Скажам яшчэ раз: Варлен Бечык жыў паэзіяй, паэзія жыла ў ім. Увесь мацярык паэзіі, найперш паэзіі сучаснай. Той паэзіі, жыццёвасць якой — непасрэднасць рэальных вытокаў і ўздзеяння на рэчаіснасць — была асабліва адчувальная. Ён любіў, умеў выступаць перад чытачамі — рознай адукаванасці, рознай эстэтычнай, душэўнай падрыхтаванасці, розных густаў. Шмат чытаў вершаў. Сачыў за рэакцыяй, душой слухаў аўдыторыю. Выяўраў свой густ, сваё адчуванне і разуменне паэта, верша. Па-першае, ён чытаў верш, успрыняты душэўна, эмацыянальна. Па-другое, чытаў верш, паэтычную задуму якога і яе мастацкае ўвасабленне ён добра зразумеў, зразумеў не як ідэю, не тэзісна, а як мастацкі паэтычны вобраз. Бечык крытычна ставіўся да ўсякіх навацый, пошуку, эксперыменту. Бачыў у іх не набытак духоўны, паэтычны, а шлях да яго, спосаб дасягнення. Форма цікавала як найбольш мэтазгоднае, эмацыянальна яркае, духоўна напоўненае ўвасабленне ідэі адчування, думкі-перажывання.

У сваёй першай крытычнай кнізе «Свет жывы і блізкі» ў артыкуле пра А. Куляшова Бечык пісаў: «Вынашанае слова паэта, выконваючы складаныя функцыі лірыка-філасофскага абагульнення, не страчвае выразнасці канкрэтнага і непасрэднага чалавечага перажывання. Яно чуйна і праўдзіва рэзаніруе на штуршкі і перабоі паэтавага пачуцця, якое выпраменьваецца з душы то з пафасным напружаннем, то з імправізацыйнай лёгкасцю і з заўсёднай унутранай засяроджанасцю. Таму, нягледзячы на вялікую ролю інтэлектуальнага пачатку ў куляшоўскай паэзіі, яго рацыяналістычны груз не паслабляе пачуццёвага ўздзеяння твораў. Яны перажыты ўсёй істотай, усім вопытам і вынесены з душы «напаверх» так, быццам самі выніклі з нейкай жыццёва-прасторавай сітуацыі і знайшлі сябе, склаўшыся ў самы мэтазгодны і паэтычна-паслядоўны, жывы і арганічна цэласны выклад яе...»

У другой кнізе крытыкі «Прад высокаю красою...» у артыкуле пра П. Панчанку крытык, не могучы стрымаць захаплення, гаворыць-усклікае: «Але ж якая ўсюды гарманічна-суладная зместу форма! Акцэнтаваны кожнае настраёвае адценне, усе павароты думкі, усплёскі пачуцця. Кожнае слова гаворыць, усё — ад рытму да сінтаксісу — звязана сваімі нюансамі з перажываннем».

Такое арганічна-цэласнае, глыбокае бачанне і адчуванне паэта, ягонай творчасці наогул уласціва артыкулам крытыка. Ён дакладна адчуваў і перадаваў стан паэзіі, яе рух, рух паэтычнай думкі і паэтычнага слова.

Пра каго б ні пісаў В. Бечык: Я. Купалу ці М. Багдановіча, А. Куляшова ці П. Панчанку, А. Дудара ці У. Хадыку, пра паэтаў ваеннага пакалення ці сённяшніх пяцідзесяціпяцігадовых, маладзейшых А. Сербантовіча ці А. Разанава, — ён заўсёды дакладна вызначаў месца кожнага ў нацыянальнай паэтычнай плыні, выяўляў рэальныя вытокі — грамадскія і асабістыя — паэтычнай адметнасці, паказваў жыццёвую патрэбу паэзіі кожнага.

Звычайна, калі мы хочам пахваліць нейкі мастацкі твор, то гаворым, што ў ім адчуваецца, відаць увесь пісьменнік. Не толькі: у ім чуецца дыханне народнага жыцця, твая, чытацкая, асабістая далучанасць да гэтага жыцця.





**А. Яскевіч, В. Бечык, Я. Янішчыц, Р. Семашкевіч.** 1971 г.

А як жа ў крытыцы? Ды, напэўна, таксама. Апроч таго, што аб'ектам крытычнага даследавання і асэнсавання найперш з'яўляецца рэчаіснасць, узноўленая ў мастацкім слове, — літаратура. А ўжо гэтая рэчаіснасць — мастацкая — выяўляецца непасрэдна жыццём. Дык вось і ў крытычным творы, сапраўдным крытычным творы, заўсёды адчуваецца і бачыцца і творчасць пісьменніка, і літаратура пэўнага напрамку, жанру, нарэшце, пэўнага часу, бачыцца і час гэты.

Чытаючы артыкулы абагульняльнага тыпу «У чаканні галоўнага», «Толькі без «сю-сю»...», «Ці адстае паэзія», «Сакавіцкія пісьмы», «Набыццё вышыні» і іншыя, па-добраму зайздросціш, здзіўляешся і багаццю ўключанага паэтычнага матэрыялу, і ўменню праз гэты матэрыял (паэтычныя з'явы і факты), дзякуючы яму высока гаварыць пра жыццё і пра чалавека, захапляешся той душэўнай адкрытасцю і шчырасцю, што надае паэтычнаму слову свабоду і арганічнасць. Бечыкавы артыкулы заўсёды нясуць багатую інфармацыю, яны напоўнены глыбокімі актуальнымі і значнымі жыццёвымі і эстэтычнымі праблемамі, моцна насычаны шчырым чалавечым хваляваннем, адкрытай радасцю, стрыманым болем. Манера пісьма ягоная свабодная ад усялякага схематызму і зададзенасці, эмацыянальна адкрытая і шчырая. Разам з тым заўсёды ўнутрана падпарадкавана пэўнай ідэі-страсці. Ягоныя артыкулы канцэптуальныя кожны паасобку. Разам

жа выяўляюць даволі цэласную ў сваіх асноватворных эстэтычных і этычных ідэях сістэму. Цэласную не ў сэнсе завершанасці, усебаковай выверанасці і аргументаванасці, а ў сэнсе адзінства, нязменнай вернасці асноватворным ідэйна-эстэтычным крытэрыям. Крытэрыям, якія народжаны, паглыблены і акрэслены самім жыццём крытыка, аплоднены многімі лепшымі здабыткамі нацыянальнай і ўсёй савецкай крытычнай і літаратурна-мастацкай практыкі, рэалізаваны і замацаваны ўсёй творчасцю крытыка. Крытэрыі гэтыя—праўдзівасць, шчырасць, маральнасць, народнасць, чалавечнасць...

І вось тое, што ўсе артыкулы—вялікія і малыя (пра рэцэнзіі, як штосьці менш значнае, крытычны жанр менш змястоўны, гаварыць не даводзіцца)—успрымаюцца як старонкі адной усхваляванай, эстэтычна выверанай кнігі, з'яўляецца самым важкім доказам таго, у якой ступені крытычная творчасць была для Варлена Бечыка натуральным станам жыццядзейнасці. Такія артыкулы, як, напрыклад, «Таварыш, народ, Радзіма», «Правам салдата і сейбіта», «Збалелая памяць», «З душы адкрытай», прысвечаныя канкрэтным творам адпаведна Васіля Быкава, Аляксея Пысіна, Івана Пташнікава, Еўдакіі Лось, носяць ярка выяўлены манаграфічны характар. Кніга, твор разглядаюцца, аналізуюцца не самі па сабе, не ідэйна і эстэтычна замкнёна і абмежавана, а як вынік усёй папярэдняй творчасці пісьменніка, як выяўленне яе характару і сутнасці і, магчыма, галоўнае—яе жыццёвай своеасаблівасці. Прычым не бачыцца тут ніякай канцэптуальнай зададзенасці, нідзе не праступаюць абрысы першапачатковай ідэйнай задумы. Перад намі—жывая, свабодная размова пра пісьменніка, пра літаратуру, пра народ. Размова чалавека, глыбока адданага мастацкаму слову, чалавека, які ў свеце літаратуры заўсёды быў свой—свой па таленту, прызванню, сумленню.

Серафім АНДРАЮК

Фота **У. Крука** і з архіва **В. Бечыка.**





*У свеце мастацтва*

# ДВА ПАРТРЭТЫ Ў КІНАПАВІЛЬЁНЕ

У апошнія гады ў кінематографе загаварылі аб «беларускай школе» аператарскага майстэрства. Гэту «школу» звязваюць з імёнамі дзвюх жанчын-кінааператараў студыі «Беларусьфільм» Таццяны Логінавай і Анастассі Суханавай, работы якіх у фільмах беларускіх майстроў экрана былі адзначаны Дзяржаўнымі прэміямі СССР і Ленінскага камсамола Беларусі.

Таццяна Логінава і Анастасся Суханава сярод жанчын упершыню ў гісторыі беларускага кіно сталі аператарамі-пастаноўшчыкамі мастацкіх фільмаў і не толькі зацвердзіліся як самабытныя мастакі з яркай, толькі ім адным уласцівай індывідуальнасцю, але і заснавалі, як сцвярджаюць даследчыкі кінапрацэсаў, кіназнаўцы і кінакрытыкі, нацыянальную беларускую школу аператарскага майстэрства з яе паэтычным бачаннем жыцця.

Раней лічылі, што кінааператар—прафесія не жаночая. Многія кінематаграфісты перакананы ў гэтым і сёння. Статыстыка таксама быццам бы на іх баку. Падлічана, што з дзесяці дзяўчат з інстытута кінематаграфіі, якія аваладалі прафесіяй аператара, самастойна здымае... адна. Наогул у краіне асоб, якія самастойна здымаюць мастацкія фільмы, гэта значыць аператараў-пастаноўшчыкаў, чалавек дванаццаць, ну, можа, пятнаццаць. Да гэтай жаночай кінагвардыі належаць і гераіні нашага нарыса.

Творчы шлях Таццяны Логінавай і Анастассі Суханавай, як у многіх савецкіх аператараў, пачаўся ў інстытуце кінематаграфіі, дзе іх настаўнікамі былі такія вядомыя майстры экрана, як Аляксандр Гальперын, Маргарыта Піліхіна і Міхаіл Кірылаў. Потым—стажыроўка і работа на кінастудыях «Масфільм» і імя М. Горкага спачатку асістэнтамі і другімі аператарамі. Працяглыя кантакты, творчая садружнасць са славутымі майстрамі кіно, назіранні за методыкай і манерай іх работы далі магчымасць ім вывучыць розныя бакі і накірункі аператарскага мастацтва. Але талент аператара вызначаецца не толькі веданнем комплексу мастацкіх прыёмаў, не толькі ўменнем іх пісьменна ажыццявіць, а нечым больш важным і складаным.

Любы чалавек, які прайшоў поўны курс спецыяльных навук (у ВГІКу, напрыклад) і атрымаў навыкі ў галіне кам-

пазіцыі, асвятлення і іншых элементаў аператарскай прафесіі, зможа граматна скампанаваць кадр, узнавіць любы эфект асвятлення, святлом стварыць адчуванне глыбіні прасторы або абрысаваць аб'ём прадмета на плёнцы. Аднак гэта не значыць, што л ю б ы аператар—сапраўдны мастак. Мастаком-майстрам лічыцца той аператар-пастаноўшчык, чыя работа арганічная матэрыялу фільма, драматургіі, рэжысуры, акцёрскаму ўвасабленню. Але калі ў аснове карціны няма драматургіі, калі няма вобразаў, характараў, зразумелае і ўхвальнае жаданне аператара сваімі сродкамі ўдыхнуць жыццё ў фільм, усяляк актывізуючы выяўленчы рад. І які б таленавіты ні быў аператар, якое б звышсучаснае майстэрства ён ні дэманстраваў, вынік заўсёды будзе адзін і той жа— фільма як цэласнага мастацкага арганізма не атрымаецца. Так не адбыліся некаторыя стужкі Тацццяны Логінавай і Анастассі Суханавай, віртуозна і вынаходліва знятыя, але халодныя і надуманыя па сваёй драматургіі і рэжысуры. Зразумела, што такія карціны не прынеслі радасці гледачам і лаўраў іх стваральнікам. Радасць і лаўры славы прынеслі аператарам-жанчынам тыя стужкі, у якіх была праўда жыцця, памножаная на майстэрства іх стваральнікаў.

У мяне часта пытаюцца: чым адрозніваецца беларуская школа аператарскага майстэрства, скажам, ад ленінградскай школы Андрэя Масквіна або маскоўскай школы Сяргея Урусеўскага? У такіх выпадках я раю параўнаць работы майстроў усіх гэтых школ на экране, і тады дакладна стане бачна, што стужкам Тацццяны Логінавай і Анастассі Суханавай уласцівы некаторая жаноцкасць і паэтычны пункт гледжання на падзеі, што адбываюцца ў карціне. Гэта асабліва прыкметна ў творах Тацццяны Логінавай, чыё аператарскае майстэрства мае спецыфічныя асаблівасці. Ва ўсіх фільмах, знятых ёю, нягледзячы на прынцыповае адрозненне выяўленчай трактоўкі драматургічных фактур, нязменна прысутнічае паэтычная атмасфера, уласцівая менавіта ёй, якая ідзе ад яе ўяўлення навакольнага свету. Асяроддзе, вобразы, рэчы, прырода ў Тацццяны Логінавай прасякнуты жыццялюбствам, аптымізмам, трохі сумным лірызмам. У розных фільмах мы, гледачы, бачым высокае ўменне глыбока прачытаць рэжысёрскую задуму, падпарадкаваць сабе сваю прафесію, камеру ідэі фільма, выбраўшы адпаведны выяўленчы лад і захаваўшы пры гэтым асабісты стыль, свой погляд на свет. Мне асабіста здаецца, што іменна ў гэтым заключаецца аператарскае мастацтва Тацццяны Логінавай, мастацтва сапраўднага майстра, чые пошукі ніколі не замыкаюцца ў сферы «чыстага» мастацтва, «чыстага» майстэрства, а заўсёды вызначаюцца зместам, ідэйным, грамадскім сэнсам жыццёвага матэрыялу.

У Анастассі Суханавай мастацтва аператара—гэта перш за ўсё светапогляд. А як вядома, над фарміраваннем светапогляду трэба няспынна працаваць. Яна з першых студэнцкіх гадоў у працы. Пасля інстытута кінематаграфіі, як і большасць аператараў-выпускнікоў, была асістэнтам на буйных студыях краіны. Тут у працэсе працы складаецца той асаблівы стыль, які звярнуў увагу кінематаграфістаў на таленавітую асістэнтку, якая ўжо ўмела бездакорна валодаць светлавой палітрай, лаканізмам, кампазіцыйнай завершанасцю кожнага кадра. Сёння Анастассія Аляксандраўна ўспамінае аб тых днях:

— У мяне была настолькі вялікая цікавасць да ўсяго, што адбываецца вакол мяне на студыі, я настолькі прагна ўсё ўпітвала ў сябе, аналізавала работу сваіх шэфаў і калег, што гэта адыграла вялікую ролю ў фарміраванні майго асабістага творчага светапогляду.

Т. Логінава і А. Суханава майстрамі-аператарамі сталі не адразу. Не адразу даверылі ім самастойныя пастаноўкі. Іх радніць тое, што абедзве яны атрымалі пуцёўку ў Вялікае кіно як пастаноўшчыкі на студыі «Беларусьфільм», што яны ішлі да майстэрства, назапашваючы прафесіяналізм хутка, хоць іх вядомасць як аператараў-мастакоў не ўзнікла раптам, адразу. Радніць іх яшчэ і тое, што іх першым самастойным фільмам стаў кінаальманах «У профіль і анфас», пастаўлены маладымі кінематаграфістамі-дэбютантамі па матывах апавяданняў Васіля Шукшына на студыі «Беларусьфільм». Альманах складаўся з трох навел. Першую—«Ваўкі»—здымала Анастасся Суханава, трэцюю—«Берагі»—Тацццяна Логінава. Гэты фільм з усёй відавочнасцю прадэманстраваў, што ў атрад савецкіх аператараў уліліся своеасаблівыя майстры, якія здольны вырашаць любыя творчыя задачы. Сёння нашы жанчыны-аператары ў авангардзе гэтага слаўнага атрада. Іх імёны ведае ўвесь кінемата-


Кінааператар Тацццяна Логінава.

графічны свет. Іх творы вывучаюць студэнты ВГІКа. Самі ж майстры заўсёды ў дарозе, якая пачалася ў пачатку 70-х гадоў і якой няма канца.

Дарога, выбраная Таццянай Логінавай, была цяжкая і няроўная. Цікавасць да кіно ў яе развілася рана. Гэтаму садзейнічала тое, што яе маці была прафесійным фатографам і з ранніх гадоў прывіла дачцы любоў да мастацтва фатаграфіі. Школьніцай Таня засвоіла азы святлапісу, навучылася валодаць фота-, а потым і кінакамерай, праяўляць плёнку і друкаваць здымкі. Васьмікласніцай займалася ў аматарскай кінастудыі пры станцыі юных тэхнікаў у горадзе Арджанікідзе. Спачатку гэта было толькі захапленне. Калі ж надышла пара падумаць аб прафесіі, то для Логінавай гэтае пытанне здавалася залішнім — буду аператарам! Яе адгаворвалі — не жаночая гэта справа, раілі: паступай у Аэрафлот, там убачыш свет, перасцерагалі — састарэеш адвечным асістэнтам...

Шлях, на які ступіла Таццяна Логінава, цярністы. Яна толькі з трэцяга заходу трапіла ва ВГІК. Потым гады вучобы, якія праляцелі вельмі хутка. Надышоў час абароны дыплома. У Абрамцаве Таццяна здымае свой першы, хай толькі яшчэ дыпломны дваццацімінутны фільм. Ён быў прызнаны лепшай вучнёўскай работай курса, а журы штогадовага фестывалю ВГІКа прысудзіла ёй дыплом першай ступені. Але аб гэтым яна даведалася толькі ў Мінску, калі ўжо была аператарам студыі «Беларусьфільм».

Сёння мы сядзім з Таццянай Дзмітрыеўнай Логінавай у невялікай кіназале. На экране яе раннія работы: «Там, далёка за ракой», знятая па заказу тэлебачання, кароткаметражная стужка «Антыквары» і зноў тэлевізійная карціна «Надзейны чалавек», музычная стужка «Ясь і Яніна».

— Складана было на здымачнай пляцоўцы, — успамінае Таццяна Дзмітрыеўна. — План, тэрміны, метраж... Гэта ствярала нервознасць, адбівалася на якасці фільмаў. Да таго ж шэрасць драматургічнага матэрыялу і рэжысуры. Наогул амаль усе мае першыя работы былі дрэнна прыняты гледачом.

У пачатку свайго творчага шляху Логінава не магла знайсці сябе ў мастацкай кінематаграфіі. І яна ідзе ў дакументальнае кіно.

— Хроніка прыцягвала мяне даўно. Хацелася больш даведацца аб краі, дзе жыву і працую, даведацца, як жыве сёння беларускі народ. Кінахроніка дала мне гэтую магчымасць. З кінакамерай я аб'ездзіла ўсю рэспубліку, здымаючы сюжэты для кіначасопісаў. Аднойчы, калі прыехала з доўгай камандзіроўкі, да мяне падышоў рэжысёр Валерый Рубінчык і спытаў, ці не хачу я вярнуцца на тэлебачанне. І прапанаваў мне перазняць фінал яго тэлефільма «Выстрал». Я згадзілася. З таго часу мяне звязвае з гэтым рэжысёрам даўняе творчае сяброўства. Хутка мы прыступілі да здымак карціны «Вянок санетаў», якая з'явілася для мяне этапнай і прынесла шмат радасцей і засмучэнняў таксама. Справа ў тым, што на гэту карціну я была прызначана галоўным аператарам.

Тут мы паспрабуем зазірнуць у творчую лабараторыю Таццяны Логінавай і прасачыць, як нараджалася ў яе тое ці іншае стылістычнае рашэнне. Вось што яна сама расказвае аб сваёй працы:

— З першых інстытуцкіх дзён я знаходзілася пад вялікім уражаннем ад італьянскага неарэалізму з яго імкненнем адлюстроўваць праўду жыцця. Пасляваенныя разбурэнні, жыццё невялікага беларускага гарадка, спаленыя вёскі, зямлянкі, руіны — усё гэта трэба было перадаць на экране. Таму большую частку здымак мы праводзілі на натуры. Складанасць заключалася ў тым, што ў Беларусі ўжо (а здымалі карціну ў 1974 годзе) не засталося прыкмет ваеннага і пасляваеннага часу. Давялося ехаць у Калінінград, дзе яшчэ ўцалелі неразабраныя руіны. Здымалі ў дэкарацыях, пабудаваных пад адкрытым небам, што давала нам магчымасць аб'яднаць дзеянні на вуліцы з падзеямі, што адбываліся ў памяшканні.

Вельмі важна адзначыць яшчэ адну рысу творчасці Таццяны Логінавай — яе дакладнае адчуванне матэрыялу, эпохі, вобразаў, побыту, літаратурнай першакрыніцы. Гэта асабліва прыкметна ў карціне «Дзікае паляванне караля Стаха», знятай ёю ўслед за «Вянком санетаў». З экрана ў залу льецца нетаропкае, спакойнае апавяданне. Звычайныя будні, прывычнае, трохі манатоннае жыццё невялікага маёнтка перададзены дакладна і перакана ўча праз прыкметы часу. Аператар здымае карціну ў асноўным на агульных і сярэдніх планах і нават там, дзе важна паказаць унутраны стан герояў, у яе пераважаюць агульныя планы, якія і нараджаюць адчуванне імправізацыі, а з ёй — і адчуванне верагоднасці.





**Кінааператар Анастасся Суханава.**

Калі глядзіш карціны Таццяны Логінавай, кідаецца ў вочы яшчэ адна асаблівасць яе творчага почырку — аператар пазбягае здымаць шырокавугольным і даўгафокусным аб'ектывамі, бо яны маюць уласцівасць скажаць прывычныя воку маштабы прадметаў унутры кадра, завастраць або, наадварот, размываць аптычны рысунак адлюстравання, змяняць тэмп унутрыкадравага руху. Таму ў яе карцінах, пачынаючы ад «Вянка санетаў» і да апошняй — «Знак бяды», няма дынамічных праездаў і праходаў. Рух камеры выкарыстоўваецца не часта, але калі яна рухаецца, то плаўна, амаль што непрыкметна.

Таццяна Логінава часта здымае фільмы за межамі рэспублікі. За працу ва Узбекістане, дзе яна зняла вялікі пастановачна складаны фільм «Юнацтва генія», беларускаму аператару прысуджана Дзяржаўная прэмія СССР. Але, як гаворыцца, у гасцях добра, а дома лепш. Яна спяшаецца ў Мінск. Яе чакае цікавая работа — экранізацыя аповесці Васіля Быкава «Знак бяды». Тут, як і ў папярэдніх стужках, дакладна відаць асаблівая схільнасць да глыбіннага мізансцэніравання з танальнай або графічнай

акцэнціроўкай пярэдняга плана. Аднак у гэтай карціне ёсць ужо і новае, чаго не было ў папярэдніх фільмах. У стылістыцы «Знака бяды» месцамі прарываецца прыхільнасць да экспрэсіяністычных эфектаў, такіх, як спальванне хутара Сцепаніды або збіццё паліцаямі Петрака. Тут кожны кадр — спрасаваная думка, перададзеная аператарам іншы раз плакатна, без хітрыкаў, рэльефна і заўсёды адназначна.

У творчым лёсе Анастассі Суханавай вялікую ролю адыграў ужо памянёны альманах «У профіль і анфас». Яе аператарскае майстэрства было прыкмечана класікам савецкага кіно Сяргеем Апалінар'евічам Герасімавым, які пісаў: «Анастасся Суханава толькі па прафесіі аператар, а ў душы яна мастак. Яна глядзіць на свет не бясстраснымі вачыма і бачыць у ім непаўторныя імгненні, адчувае трапяткую паэзію быцця».

Пасля свайго больш чым удалага дэбюту ў беларускім кіно амаль кожная яе работа становіцца значнай з'явай аператарскага майстэрства. У яе сёння звыш дзесяці мастацкіх і тэлевізійных карцін. Сярод іх «Амністыя» па аднайменнай п'есе М. Матукоўскага, шматсерыйны фільм «Час выбраў нас» — аб слаўным Ленінскім камсамоле Беларусі, «Цётка Маруся», «Вялікія прыгоды». Для ўсіх гэтых работ характэрна адно — аператар не ведае творчых рэцэптаў і не карыстаецца імі. Усе гэтыя фільмы розныя і, здаецца, зняты рознымі майстрамі, хаця і вырашаны яны ў адным выяўленчым ключы, зроблены строга ў адным стылі.

«Зорным часам» для Анастассі Суханавай былі здымкі чатырохсерыйнага тэлефільма па раману Тургенева «Бацькі і дзеці», пастаўленага сумесна з мужам, аператарам Уладзімірам Спарышковым. Калі сёння глядзіш гэтую цудоўную кінакарціну на кінаэкране, то ў кожным кадры быццам бы прачытваеш тургенеўскія радкі. Тут усё «залацiста зелянела», «шырока і лёгка хвалявалася і блішчэла пад ціхім дыханнем ветрыку». Тут «і дробная раса, і блішчыць срэбрам на павуцінні, і вільготная зямля, якая яшчэ захоўвае, здавалася, ружовы след золку». Аператары ўслед за Тургеневым вядуць гледачоў у прывольныя лугі і цяністыя гаі, быццам бы ўзноўленыя сакавітай палітрай старых пейзажыстаў, да белых калон рамантычнага асабняка ў канцы прыгожай алеі. Увесь фільм, зняты па законах такой прыгажосці, разгортваецца з нетаропкай велічнасцю. Празрыстыя, няяркія фарбы кадраў, выпісаныя быццам бы акварэллю, гучаць у фільме элегічным напамінкам далёкай, даўно адшумелай культуры.

Такога паэтычнага дваранскага маёнтка XIX стагоддзя да фільма «Бацькі і дзеці» глядач яшчэ не бачыў. Тут аператары зірнулі на тургенеўскі маёнтак з паэтычнага пункту погляду. Манера Анастассі Суханавай здымаць доўгімі планамі статычныя кампазіцыі, павольна і працягла панараміраваць стварае настрой нетаропкасці, жаданне роздуму. Гледзячы на гэтыя замаруджаныя кадры, бачыш, якія багатыя магчымасці хавае ў сабе паэтычнае, або, як яго яшчэ называюць, асацыятыўнае, кіно, якое, на жаль, у апошні час прыкметна згасае.

Карціна «Бацькі і дзеці» стала дасягненнем у шэрагу экранізацый і яшчэ раз па-новаму зацвердзіла класічную выразнасць як аснову кінематаграфічнай формы. У гэтым праявілася ўменне аператараў пранікнуць у душэўны свет герояў рамана. Анастасся Суханава і яе сааўтар прадэманстравалі, што сённяшняму кінематографу з яго каляровай плёнкай, багатай оптыкай па плячы рашаць самыя складаныя творчыя задачы, перадаваць на экране тое, што ў літаратуры называецца ўнутраным маналогам.

Тут да месца сказаць аб такім складаным жанры ў выяўленчым мастацтве, як партрэт. У фільме гэта звычайна буйны план. Для яго стварэння ёсць вялікі арсенал тэхнічных сродкаў: святло (жорсткае — здзеклівае, мяккае — згладжваючае), оптыка (можна і «сплюшчыць» твар, і падкрэсліць любую яго частку), ёсць фільтры і шмат іншых прыстасаванняў. Але аператарам на працягу ўсяго фільма часта даводзіцца вырашаць адну задачу: наколькі буйна здымаць тое, што адбываецца.

Пра тыя не такія ўжо далёкія дні здымкаў Анастасся Суханава ўспамінае:

— Пошукі выяўленчага рашэння тургенеўскага фільма праходзілі цяжка. Я ўзяла сабе за правіла — у карціне не павінна быць дробязей. Усё, што ў кадры, — важна і неабходна. І пасля здымак я ніколі не заставалася раўнадушнай. Потым, на праглядзе, седзячы ў зале, аналізавала, ці так знята, ці рытмічна рухаецца камера, ці не перанасычаны кадр дэталямі. Гэты аналіз, гэты суд над сабой вядзецца тады, калі матэрыял толькі выходзіць з праявачнай машыны. І гэта важна. Прааналізаваўшы ж усё ўбачанае на экране, можна многае перазняць, выправіць, дапоўніць. Я карыстаюся гэтай магчымасцю, але, на жаль, яна не заўсёды бывае...



Анатоль Франс, чалавек вельмі строгай думкі, неяк заўважыў, што ў мастацтве існуюць дзве галоўныя небяспечнасці. Першая — майстар, які не з'яўляецца мастаком, і другая — мастак, які не з'яўляецца майстрам. Гэту думку французскага пісьменніка любяць паўтараць прафесары ВГІКа, унушаючы сваім студэнтам з першага курса, што мастацтва кіно павінна спалучаць у сабе як эстэтыку, так і рамяство. Святло, каларыстычная гама, ракурс, пункт здымання, панарама, агульны або буйны план — усё павінна быць падпарадкавана мастацкай ідэі аператара-пастаноўшчыка, ідэі, якую глядач мог бы чытаць з экрана. Гэту «аксіёму мастацтва» на ўсё жыццё зразумелі жанчыны-аператары Таццяна Логінава і Анастасся Суханава. Гэту «аксіёму мастацтва» яны нясуць сваім вучням, гэта значыць абітурыентам ВГІКа, з якімі па даручэнню Саюза кінематаграфістаў БССР на студыі «Беларусьфільм» вядуць заняткі.

**Яўген КРУПЕНЯ**

*Штрыхі да партрэта*

# НА БЫСТРЫНІ ЖЫЦЦЯ



Між высокіх абрывістых берагоў плыве па палескіх прасторах рака Пціч. Навокал бяскрайнія лугі, густа ўсыпаныя пушыстым снегам зімой, пакрытыя густымі травамі ўлетку. Да ракі пятляюць аксамітныя сцежкі. Як любіў улетку прабегчы па гэтых сцежках басанож дапытлівы, жвавы хлопчык Валерый! У спякотныя дні ён падоўгу бавіўся на рацэ — купаўся, лавіў рыбу. Рыбалка і зараз з'яўляецца ягоным хобі. Але асабліва падабалася Валерыю Пціч вясной, калі талыя воды выходзілі з берагоў і, затапіўшы рэдкія левабярэжныя лазнякі, зіхацелі амаль да самага гарызонта. На правым беразе паводка даходзіла падчас ледзь не да самых агародаў гарадскога пасёлка Глуск. І Валерый, выйшаўшы з хаты, з захапленнем глядзеў на гэта бязмежнае мора. Маці Валерыя, настаўніца пачатковых класаў, змалку прывучыла яго да кніг. Кнігі абудзілі ў дзіцячай свядомасці рамантычныя парыванні, і малому Валерыю здавалася: меў бы ён зараз вялікі карабель, паплыў бы далёка, далёка, да нязведаных берагоў, да заморскіх краёў. Не думалася тады Валерыю, што пройдзе пэўны час і яму давядзецца ехаць па мангольскіх стэпах, стаяць на беразе Адрыятычнага мора, бачыць Вавілон, хадзіць па вуліцах Лондана і Багдада. Але гэта пасля. А пакуль — вучоба ў Глускай сярэдняй школе, вечарамі заняткі ў музычнай школе.

Кампазітарскія здольнасці ў Валерыя Іванова праявіліся рана. Яшчэ ў школе ён пачаў пісаць песні, першая з іх называлася «Нас чакае шчасце наперадзе». Аднакласнікам песня спадабалася, і доўгі час яна гучала на школьных канцэртах.

У час вучобы ў Гродзенскім музычным вучылішчы Валерый стварае інструментальныя мініяцюры для флейты, для скрыпкі.



У 1968 годзе прыехаў у Мінск і паказаў свае музычныя творы народнаму артысту БССР А. В. Багатырову. Анатоль Васільевіч заўважыў талент юнака і параіў яму пайсці на падрыхтоўчыя курсы пры Белдзяржкансерваторыі. Вучыцца пашанцавала ў выдатнага педагога і кампазітара П. П. Падкавырава.

У 1970 годзе паступіў у кансерваторыю. Яго настаўнікамі былі А. В. Багатыроў, У. У. Алоўнікаў, М. І. Аладаў, І. М. Лучанок, Д. Б. Смольскі. Вучоба ў вядомых кампазітараў, знаёмства з тэатральным і музычным жыццём Мінска актывізавала творчыя памкненні Валерыя Іванова. Ён стварае фантазію на тэмы песень Ю. Семянякі, санату для флейты, фартэпіяна, хор «Гураля хата» на словы М. Танка, «Настрой» — музыка для флейты, струнных і ўдарных інструментаў. Гэтыя творы былі прыхільна сустрэты аматарамі музыкі. З поспехам былі прыняты новыя інструментальныя творы, песні «Пахне чабор» на верш П. Броўкі, «Будзьце абавязку верныя» (словы Р. Гамзатава) і дыпломная работа «Сімфонія», якая праз нейкі час выконвалася ў Белдзяржфілармоніі.

З 1975 года па 1977 год Валерый Іваноў працуе выкладчыкам у Маладзечанскім музычным вучылішчы, вядзе тэарэтычныя дысцыпліны і таксама не спыняе творчай дзейнасці.

У 1977 годзе Валерый Іваноў прыняты ў Саюз кампазітараў СССР.

Кампазітар стварае вакальны цыкл для меццa-сапрана і фартэпіяна, фрэску-карціну «Зямля бацькоў», канцэртную п'есу для аркестра цымбал «Спеў дуброў», сімфанічную паэму «Прысвячэнне старому гораду» і вакальна-сімфанічную паэму «Элегія аб чацвёртай бярозе» (сл. М. Танка).

У 1978 годзе таленавіты кампазітар за творчыя поспехі ўдастоены звання лаўрэата прэміі Ленінскага камсамола Беларусі. Гэта адзнака натхніла Валерыя Іванова на новыя здзяйсненні. Ён стварае шэраг музычных твораў. Вось іх далёка не поўны пералік.

Песні: «Камсамольскія камісары» (сл. В. Зуёнка), «Сляды юнацтва» (сл. Г. Бураўкіна), «Тапаліны звон» (сл. П. Панчанкі), «Асенняя песня» (сл. У. Някляева); музыка для спектакляў: «Тры таўстуны» і «Таямнічы Гіпапатам» (тэатр лялек), «Невядомы Нязнайка» (Тэатр юнага гледача); музыка для тэле- і кінафільмаў: «Жменя сонечных праменняў» і «Суседзі» («Беларусьфільм»), «Андрэй і злы чарадзей» (тэлефільм для дзяцей), «Справа для сапраўдных мужчын», «Ціхія троечнікі» (мастацкія фільмы). Песня з апошняга фільма набыла шырокую папулярнасць.

Інструментальныя творы для аркестра народных інструментаў імя І. І. Жыновіча «Палескае свята» і «Настрой» (памяці М. Багдановіча), паэма для аркестра «Сымон-музыка», фрэска-карціна «Салдацкае поле» — да саракагоддзя Перамогі і уверцюра для сімфанічнага аркестра «Вясна Перамогі».

У 1985 годзе за песню «Маладыя бацькі» (сл. І. Кажэшавай) Валерый Іваноў стаў лаўрэатам конкурсу песень, прысвечанага саракагоддзю Перамогі.

Добрая творчая дружба ў кампазітара ўсталявалася з музычнымі калектывамі Беларусі і з многімі выканаўцамі, асабліва з вакальна-інструментальнымі ансамблямі «Верасы» і «Сябры», з народнымі артыстамі БССР В. Вуячычам, Я. Еўдакімавым, заслужанай артысткай БССР Т. Раеўскай.

Валерый Іваноў зараз у росквіце творчых сіл. Праца ў Белдзяржкансерваторыі, стварэнне інструментальных п'ес і песень, сустрэчы з працоўнымі рэспублікі — вось яго паўсядзённыя клопаты, яго занятак. Натхненне яму дае наша савецкая рэчаіснасць, гераічная гісторыя нашага народа. Яго, як і ў дзяцінстве, вабяць неабсяжныя далягляды, нязведаныя дарогі. Але самым дарагім і жаданым з'яўляецца незабыўны куток дзяцінства — гарадскі пасёлак Глуск. На беразе Пцічы прайшлі яго дзіцячыя гады, а калі стаў кампазітарам, тут нарадзіліся задумы многіх музычных твораў. Фрэска-карціна «Зямля бацькоў» — гэта ўрачысты гімн Беларусі. Калі слухаеш яго, перад вачыма праплывае Беларускае Палессе — такое, якім яно было да Чарнобыля: з прыгожымі гаямі беластволых бяроз на шырокіх заліўных лугах, з меднастволымі вечназялёнымі лясамі ўздоўж асфальтавых стужак дарог. Слухаючы канцэртную п'есу для аркестра цымбал «Спеў дуброў», успамінаеш тое ж ранейшае Палессе. Такія творы змог напісаць толькі кампазітар, шчыра ўлюбёны ў свой край, у свой народ. Паездкі Валерыя Іванова за межы рэспублікі яшчэ больш узмацнілі гэту палымяную любоў да Радзімы.

Жнівень 1980 года. Міжнародны музычны фестываль у югаслаўскім горадзе Гражняны. Валерый быў там разам з беларускім кампазітарам, лаўрэатам прэміі ЛКСМБ Уладзімірам Буднікам. Выступленні ў прыморскіх гарадах Югаславіі, сустрэчы з замежнымі кампазітарамі і артыстамі пашырылі кругагляд Валерыя Іванова. Югаславы, якія самі мужна змагаліся ў гады мінулай вайны супраць фашысцкага нашэсця, захапляюцца гераізмам



Ю. Семянянка, В. Іваноў, Л. Шлег.



З сынам.

беларускіх партызан. Кампазітар нарадзіўся ў 1948 годзе, вайны не бачыў. Такія звесткі пашыраюць яго веданне гераічнага мінулага нашага краю, ажыўляюць творчую фантазію. У выніку — новыя музычныя творы аб подзвігах савецкіх партызан і воінаў Савецкай Арміі, як, напрыклад, песні «Радзіма» і «Лёс салдата» (сл. У. Някляева).

Жнівень 1982 года. Міжнародны музычны фестываль у Эдзінбургу. Запомніліся паездкі па Англіі і Шатландыі, сустрэчы з членамі Таварыства англа-савецкай дружбы, з пісьменнікам Джэймсам Олдрыджам. Незабыўнае ўражанне пакінула лонданская карцінная галерэя. У Лондане ўзнікла думка стварыць музычную п'есу «Рытм горада».

Кастрычнік 1983 года. Музычны фестываль «Залатая восень» у Манголіі. Там былі і кампазітары з ГДР, Польшчы, Румыніі, Чэхаславакіі, Балгарыі, Венгрыі. Сумесныя канцэрты з кампазітарамі сацыялістычных краін узбагацілі музычны дыяпазон Валерыя. Асабліва ўразіла яго народная і прафесійная музыка Манголіі.

— Усё гэта,— гаворыць кампазітар,— робіць станоўчы ўплыў на творчасць, і з большай беражлівасцю пачынаеш адносіцца да сваёй роднай культуры, да беларускай музыкі. Пачынаеш яскрава разумець, што і наша музыка сваімі адметнымі рысамі можа зачараваць самага патрабавальнага слухача... З усіх замежных паездак,— гаворыць далей Валерый Іваноў,— найбольш вылучаецца паездка ў Ірак. Ездзіў я туды восенню 1984 года з народным артыстам СССР Калыем Малдабасанавым, вядомым кіргізскім кампазітарам, аўтарам балета «Матчына поле». Мы мелі ў Багдадзе цікавую сустрэчу з выдатным іракскім музыкантам Мунірам Башырам. Ён іграе на народным іракскім інструменце уд. Мунір Башыр быў вялікім сябрам вядомага азербайджанскага кампазітара Героя Сацыялістычнай Працы Фікрэта Амірава, які напісаў музыку балета «Тысяча і адна ноч». Мунір Башыр казаў, што гэта ён навёў на думку Фікрэта Амірава стварыць такую музыку па матывах усходняга фальклору. Навечна застанецца ў маёй памяці,— працягвае кампазітар,— сустрэча з іракскім мастаком Мухамедам Арыфам, які вучыўся ў Маскве, у інстытуце імя Сурыкава. Мухамед Арыф прыняў нас, як родных братоў, з пашанай успамінаў вучобу ў Савецкім Саюзе, захапляўся нашым народам. Пасля такіх сустрэч вастрэй адчуваеш пачуццё абавязку перад сваім народам, перад сваёй Радзімай, перад краем, дзе ты нарадзіўся і вырас. Таму ў маёй творчасці пераважнае месца займае грамадзянская тэма ў розных музычных жанрах.

Мы выходзім з Валерыем з ягонай кватэры. Праз нейкі час спыняемся каля помніка-абеліска партызанам і гераічным воінам Савецкай Арміі. Кампазітар у маўклівай задумлівасці глядзіць на помнік. Я развітваюся з Валерыем Івановым, упэўнены, што неўзабаве загучаць яго новыя музычныя творы аб ратных і працоўных подзвігах савецкіх людзей, пра веліч нашай Радзімы.

Алесь СТАВЕР

Фота У. Крука.



# Папытай у кнігарні

**«ФРАНЦЫСК СКАРЫНА».** У 1990 годзе ўсе культурныя людзі нашай планеты будуць святкаваць 500 гадавіну з дня нараджэння выдатнага дзеяча беларускай культуры, заснавальніка беларускага і ўсходнеславянскага кнігадрукавання, слыннага асветніка і гуманіста, славутага сына беларускай зямлі Францыска Скарыны з Полацка.

Гэтай знанай даце і прысвечана другая на Беларусі персанальная энцыклапедыя (першая была Купалаўская, яна выйшла крыху раней), дзе асвятляюцца асноўныя моманты жыцця і дзейнасці беларускага першадрукара і асветніка. Гэты унікальны энцыклапедычны даведнік з'яўляецца своеасаблівым падрахункам скарыназнаўства ў нашай краіне. Як гаворыцца ў невялікім па аб'ёме ўступе «Да чытача», «шэраг артыкулаў прысвечаны гістарычным дзеячам і геаграфічным месцам, якія неаднаразова сустракаюцца ў тэкстах скарынінскіх прадмоў і пасляслоўяў. Частку матэрыялаў даведніка складаюць абагульняльныя артыкулы пра кнігавыдавецкую, асветніцкую, літаратурную і навуковую дзейнасць Ф. Скарыны, у якіх разглядаюцца яго філасофска-этычныя, дзяржаўна-прававыя, эстэтычныя погляды, патрыятызм... У кнізе таксама сабрана інфармацыя пра сваякоў і знаёмых Ф. Скарыны, пра дзяржаўных, палітычных і грамадскіх дзеячаў, вучоных 16 ст., з якімі ён сустракаўся або мог сустракацца. Уключаны артыкулы пра мясціны, дзе ён жыў, вучыўся, працаваў або пабываў».

У даведніку змешчана 728 артыкулаў. Апрача гэтага ў энцыклапедыі друкуюцца факсімільныя адбіткі ўсіх прадмоў і пасляслоўяў Ф. Скарыны, а таксама ўзнаўляецца іх адаптаваны тэкст. Падаецца інфармацыя пра наяўнасць выданняў першадрукара ў кнігазборах краіны і за мяжой. У энцыклапедыі вельмі шмат ілюстрацыйнага матэрыялу—фотаздымкі кніг, гербаў, пячатак, рэпрадукцыі старажытных гравюр, карцін сучасных мастакоў, выявы скульптур, даўнямінулых замкаў.

Змешчана прадмова Уладзіміра Калесніка, які ставіць Францыска Скарыну побач з такімі выдатнымі людзьмі Адраджэння, як Леанарда да Вінчы, Рафаэль, Эразм Ратэрдамскі, Томас Мор і іншыя.

Выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, Мінск, 1988 г.

**«АНТАЛОГІЯ ГРУЗІНСКАЙ ПАЭЗІІ».** Грузію здавён называюць краінай паэтаў. У вышэйназванай анталогіі—выдатным падарунку беларускім чытачам—адлюстраваны плённы тысячагадовы шлях развіцця грузінскай паэзіі.

Анталогія выйшла ў двух тамах.

Першы том прысвечаны старажытнай паэзіі. У ім змешчаны творы паэтаў IX—XVIII стагоддзяў—царыцы Барэны, Давіда Будаўніка, Шата Руставелі, Тэймураза I, Вахтанга IV, Дзмітрыя Саакадзе, Давіда Гурамішвілі і іншых.

У другім томе чытачы маюць прыемную магчымасць пазнаёміцца з творчасцюНіколаза Бараташвілі, Ільі Чаўчавадзе, Акакія Цэрэтэлі, Важа Пшавелы, Галакціёна Табідзе, Паола Яшвілі, Сімана Чыкавані, Іраклія Абашыдзе, Хута Берулавы, Прыдона Халвашы, Арчыла Сулакауры, Тамаза Чыладзе, Хута Гагуа, Мамукі Цыклауры, Тэда Бакішвілі і іншых.

На беларускую мову грузінскую паэзію перакладала вельмі шырокае кола вядомых паэтаў і перакладчыкаў нашай рэспублікі, сярод якіх М. Танк, М. Лужанін, А. Русецкі, В. Вітка, А. Звонак, Я. Семяжон, С. Грахоўскі, В. Сёмуха, А. Вярцінскі, П. Макаль, Р. Барадулін, Г. Бураўкін, Я. Сіпакоў, В. Тарас, В. Зуёнак, А. Грачанікаў, М. Стральцоў. К. Цвірка, Ю. Свірка, У. Паўлаў, А. Клышка, А. Разанаў, В. Жуковіч, Л. Дайнека, Я. Міклашэўскі, У. Някляеў, А. Сідарэвіч і іншыя. У перакладах узялі ўдзел таксама і маладыя паэты—У. Сіўчыкаў, А. Мінкін і А. Глобус.

Прадмову да двухтомніка напісаў член-карэспандэнт АН Грузінскай ССР Саргіс Цаішвілі.

Рэдактар анталогіі Алесь Разанаў. Біяграфічныя даведкі Уладзіміра Сіўчыкава.

Укладанне, падрадковыя пераклады і заўвагі падрыхтаваны Галоўнай рэдакцыйнай калегіяй па мастацкім перакладзе і літаратурных узаемасувязях пры Саюзе пісьменнікаў Грузіі.

Выданне праілюстравана фотаздымкамі старажытнай грузінскай архітэктуры.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1989 г.

**«ДЗЕНЬ ПАЭЗІІ-88».** Болей за 120 паэтаў, розных па ўзросце і па творчых накірунках, сабраў штогоднік у сваім традыцыйным раздзеле «Новыя вершы». Творы, змешчаныя тут, вострыя, злабадзённыя, яны ўзнімаюць тэмы, якія яшчэ нядаўна былі недатыкальныя, гавораць аб праблемах, пра якія раней амаль не пісалі.

Вельмі шырокі і разнастайны ў «Дні паэзіі» раздзел «З літаратурнай спадчыны». У зборніку друкуецца амаль цэлая кніга Алеся Гаруна—каля двух дзесяткаў новых вершаў, якія не ўвайшлі ў «Матчын дар», а таксама драматычная казка для дзіцячага тэатра «Хлопчык у лесе», якую з поспехам могуць ставіць на сваіх школьных сцэнах вучні беларускіх школ. У гэтым жа раздзеле чытач знойдзе вялікую падборку не надрукаваных раней вершаў Ларысы Геніюш, антыкультаўскія вершы Алеся Бачылы, вершы Аляксея Пысіна і Рыгора Семашкевіча, Публікацыі зрабілі У. Казбярук, Д. Бічэль-Загнетава, Я. Бачыла, Е. Пысіна і Хв. Жычка.

У раздзеле «Пра паэтаў і паэзію» змешчана анкета «Дня паэзіі», на якую адказваюць кінарэжысёр Міхаіл Пташук, кампазітар Людміла Шлег, доктар геолага-мінералагічных навук Эрнст Ляўкоў, выкладчык біяхіміі Гродзенскага медінстытута Юрый Кісялеўскі. Да 75-годдзя Аркадзя Куляшова змешчаны артыкул В. Куляшовай «Капаю рэчышча ўласнай ракі». Сучаснай паэзіі прысвечаны палемічныя нататкі Сяргея Дубаўца «Схема».

Разнастайны раздзел і «Па дарозе на Парнас». Тут друкуюцца шаржы і эпіграмы Савося Авося, Паўла Марціновіча, Нічыпара Шэранькага і Георгія Юрчанкі.

У штогодніку шмат фотаздымкаў.

Выданне святочна аформіў мастак Мікола Селяшчук.

Укладальнік зборніка—Васіль Жуковіч.

Галоўны рэдактар—Янка Сіпакоў.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1988 г.

**«МЫ—БЕЛАРУСЫ».** Здаецца, у гэтым прадстаўнічым выданні прынялі ўдзел усе паэты Беларусі. Кніга прысвечана сямідзесяцігоддзю Беларускай ССР, і ў ёй сабраны вершы, песні, балады, прысвечаныя роднаму краю, беларускаму народу, яго шчырай любові да Бацькаўшчыны і павазе да ўсіх народаў свету.

У гэтай своеасаблівай анталогіі тры раздзелы—«Венапомныя дні», «О Беларусь, лясная ружа», «Мы з тых беларусаў». Укладанне зборніка зрабіў Яўген Міклашэўскі. Аформіў выданне мастак Уладзімір Сытчанка.

Выданне падарункавае, разлічана на шырокае кола чытачоў.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1988 г.

**«ЖАВАРАНАК У ЗЕНІЦЕ».** Ён не пражыў і трыццаці гадоў. Ён выдаў усяго тры кніжкі паэзіі—«Азбука», «Міннае поле» і «Пярсцёнак». Апошняя з прадмоваю Аляксея Пысіна выйшла ўжо тады, калі паэта не стала.

Але тэмпераментная, глыбокая паэзія Анатоля Сербантовіча пакінула прыкметны след у беларускай літаратуры.

У кнігу выбраных вершаў А. Сербантовіча ўключана ўсё лепшае з выдадзеных ім кніг, а таксама друкуецца шмат новых, невядомых чытачу твораў, якія складаюць амаль палову зборніка.

Укладанне кнігі Сяргея Кавалёва. Ён жа напісаў прадмову да зборніка «Глыток жыцця».

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1989 г.

**«І РАДАСЦЬ І БОЛЬ».** Чытач ужо, зразумела, заўважыў у вершах апошніх гадоў Сяргея Грахоўскага абвостраную публіцыстычнасць, смелае, балючае выкрыццё таго змрочнага перыяду сталінскіх рэпрэсій, ахвярай якога быў і сам паэт. Апошнюю кнігу яго склалі менавіта такія творы. У іх—лёс абражанага, зняважанага падазронасцю чалавека, які ўсё ж верыць у дабро і справядлівасць.

У зборніку змешчана таксама і паэма «Балючая памяць». Яна зноў жа расказвае пра перажытае ў гады рэпрэсій, пра зламаныя лёсы, людскія трагедыі ў горкай памяці канцэнтрацыйных лагерах.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1988 г.

**«ДЫМ РОДНЫХ КАМІНОЎ».** Творы чатырох маладых аўтараў склалі гэты зборнік прозы, які выйшаў у серыі «Першая кніга празаіка». У ім друкуюцца апавяданні Іны Казловай і Валянціны Хамчук, а таксама аповесці Аляксандра Станюты і Міколы Лук'янава—«Заходні мост», «І цемра адступіла».

Аповесці і апавяданні—пра наш час, пра сучасныя праблемы і клопаты, пра моладзь.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1988 г.

**«ТАЯМНІЦА ПТУШЫНАГА ГНЯЗДА».** Аповесць «Галасам разлукі» і дванаццаць апавяданняў надрукавана ў новай кнізе Уладзіслава Рубанава. Усе творы прысвечаны жыццю моладзі, яе надзеям і спадзяванням.

«У апавяданнях,—як сцвярджае кароткая анатацыя,—асуджаюцца такія заганныя з'явы сярод пэўнай часткі моладзі, як легкадумныя разводы, наркаманія, п'янства, мяшчанскі эгаізм».

Кніга рэкамендуецца вучням старэйшага школьнага ўзросту.

Выдавецтва «Юнацтва», Мінск, 1989 г.

**«КЛЯНУСЯ ПРЫПЯЦЦЮ»**—томік выбранай паэзіі Уладзіміра Верамейчыка. У яго ўвайшло ўсё самае лепшае, створанае паэтам не за адно дзесяцігоддзе творчай працы, якую даводзілася спалучаць з настаўніцкімі, дырэктарскімі клопатамі—У. Верамейчык доўгі час працуе дырэктарам Ведрыцкай сярэдняй школы, што на Гомельшчыне.

Чытач знойдзе ў гэтай кнізе вершы з усіх папярэдніх кніг паэта—«Прыпяць», «Яснасць», «Люблю».

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1988 г.

**«ЗАРА-ЗАРАНКА, ЗАРА-ВЯЧЭРНІЦА».** Кніга паэзіі Яўгена Мікалашэўскага складаецца з пяці раздзелаў—«Пад непазбежным знакам перамен», «Мне прыемны ўспамін пра цябе», «Свята ўраджаю», «Час дзьмухаўцоў» і «Перамена настрою». У іх роздум паэта над жыццём, над сэнсам чалавечага існавання, над спасціжэннем дабра і зла, любові і нянавісці.

Думаецца, зверне на сябе ўвагу чытача і любоўная лірыка паэта, аб'яднаная ў цыклы «Альбом дзесяцікласніцы», «Каханне ў мяне было», «Сустрэчы і захапленні», «Жанчына і мужчына», «Ты—мой радасны спеў».

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1989 г.

**«СЫН НЕБАСХІЛУ»** — новая кніга вершаў Юркі Голуба. У ёй — усё тое, чым жыў паэт і што хвалявала яго ў апошнія гады. Чытач, які пасябраваў з паэтам, не будзе расчараваны і гэтаю кнігаю: Юрка Голуб застаўся верны сабе, сваім творчым прынцыпам.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1989 г.

**«КААРДЫНАТЫ ПОШУКУ».** Падзагаловак да новай кнігі крытыкі доктара філалагічных навук Міхася Мушынскага як найлепш раскрывае тэму і мэту выдання: «Беларуская крытыка: набыткі, перспектывы». У кнізе змешчаны артыкулы, як сцвярджае сам літаратуразнаўца ў прадмове «Ад аўтара», «якія друкаваліся ў перыядычных выданнях, і некаторыя выступленні, прысвечаныя надзённым праблемам літаратурна-грамадскага жыцця».

Кніга складаецца з трох раздзелаў: «У полі зроку — сучаснасць», «Сучаснасць і крыху гісторыі» і «Маральны запавет нашчадкам», дзе асэнсоўваецца месца крытыкі ў агульным літаратурным працэсе.

У зборніку друкуюцца творчыя партрэты пачынальнікаў беларускай гісторыка-літаратурнай навукі — М. Багдановіча, М. Гарэцкага, І. Замоціна, Я. Коласа.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1988 г.

**«НА ШЛЯХАХ ПРАЎДЫ».** На паліцах кнігарняў яшчэ летась з'явіўся зборнік выбранай паэзіі — вершы і песні — вядомага нямецкага паэта і драматурга Бертальда Брэхта. Яго складаную паэзію на беларускай мове ўзнавіў з арыгінала малады перакладчык Лявон Баршчэўскі.

Ён жа зрабіў укладанне кнігі, напісаў прадмову і заўвагі да гэтага патрэбнага беларускай культуры выдання.

Зборнік выйшаў у серыі «Паэзія народаў свету».

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1988 г.

### БЕЛАРУСКАЯ КНІГА НА МОВАХ СВЕТУ

**«КАР'ЕР».** Новая аповесць Васіля Быкава, якая перакладзена ўжо на шмат якія мовы, выдадзена ў Балгарыі. Яе пераклаў з мовы арыгінала вядомы балгарскі паэт і шчыры прыхільнік нашай літаратуры Найдзен Вылчаў. Дарэчы, у яго перакладзе выйшла і папярэдняя аповесць пісьменніка «Знак бяды».

У кнізе змешчана слова Васіля Быкава «Да маіх балгарскіх чытачоў». Тут жа друкуецца і прадмова Каці Тапчыевай «Самасуд».

«Партвыдат», Сафія, 1988 г.

**«ПЕТРАГРАД — БРЭСТ».** Вядомы шырокаму колу чытачоў гістарычны раман Івана Шамякіна ў перакладзе на рускую мову выйшаў у серыі «Беларуская проза». Аўтарызаваны пераклад твора зрабіла Т. Шамякіна.

Кніга выдадзена масавым тыражом.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1988 г.



## *Усмешкі маладосці*




**Мікола ЧАРНЯЎСКІ**

**Пра стыль,**
**Пра моду —**
**Зноў дэбаты,**
**Хоць быў, здаецца,**
**Поўны штыль.**
**Дзяўчо пацвельвае цыбата —**
**Вярнуўся зноўку**
**Міні-стыль.**

**Не дзіўна**
**Раптам спатыкнуцца,**
**Забыць пра высеўкі маршчын:**
**З-пад «міні»**
**Сцёгны ўпарта пнуцца —**
**Бліжэй**
**Да позіркаў мужчын.**

**Не дзіўна**
**Ўсцешыцца спадманам:**
**«Ах, як з душою саўладаць!..»**
**Не дзіўна —**
**Максі-донжуанам,**
**Не дзіўна —**
**Развядзёным стаць!**

**Спаднічка**
**Ветразем напятым,**
**Здаецца,**
**Трэсне на клубах:**
**Дзяўчо пацвельвае цыбата,**
**Ды ўжо...**
**Табе не па зубах...**

**Тупоча,**
**Бы па даўняй таксе,**
**Камусь**
**Надзеі раздае...**
**Спаднічка —**
**Міні,**
**Ногі —**
**Максі.**
**А розум!**
**Ён які ў яе!**

Мал. **А. Гармазы.**

# *Нашы аўтары*

**СЫС Сяргей** нарадзіўся ў 1962 годзе ў вёсцы Пракісель Рэчыцкага раёна. Скончыў кааператыўны тэхнікум. Вучыцца завочна на філфаку Гомельскага універсітэта.
Працаваў грузчыкам, экспедытарам, тавараэнаўцам, настаўнікам. Зараз—карэспандэнт жлобінскай раённай газеты «Камуніст».
У «Маладосці» друкуецца ўпершыню.

**СЯРГЕЙЧЫК Іван** нарадзіўся ў 1949 годзе ў вёсцы Вострава на Зэльвеншчыне. Скончыў Слонімскае СПТВ. Працаваў на будаўніцтве аўтадарог у Сярэдняй Азіі. З 1970 года служыць у Савецкай Арміі. Выконваў інтэрнацыянальны абавязак у складзе абмежаванага кантынгенту Савецкіх войск у Афганістане. Узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі і медалямі.
У «Маладосці» друкуецца ўпершыню.

**МАЛЯУКА Мікола** нарадзіўся ў 1941 годзе ў вёсцы Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна. Скончыў філфак БДУ імя У. І. Леніна. Працаваў на лесараспрацоўках у Карэліі, настаўнічаў, працаваў у раённай газеце, на Беларускім радыё. Зараз—у часопісе «Вясёлка». Выдаў кнігі паэзіі «Едуць маразы», «Жалеза», «Лотаць», «Круг», «Эстакада», «Дар», «Аднавякоўцы» і інш.

**БАРСКІ (БАРШЧЭУСКІ) Алесь** нарадзіўся ў 1930 годзе ў вёсцы Бандары Беластоцкага ваяводства. Скончыў аддзяленне русістыкі Лодзенскага універсітэта. Працуе загадчыкам кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Член Саюза польскіх пісьменнікаў, старшыня Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Паэт, перакладчык, даследчык літаратуры.
Аўтар паэтычных зборнікаў «Белавежскія матывы», «Жнівень слоў», «Бераг», «Блізкасць далёкага», перакладчык беларускіх і рускіх казак на польскую мову.

**БЯЛЯЧЫЦ Рычард** нарадзіўся ў 1953 годзе ў вёсцы Стаўбуры на Астравеччыне. Скончыў літаратурна-музычнае аддзяленне Мінскага педінстытута імя А. М. Горкага. Працуе выкладчыкам роднай мовы і літаратуры на Шчучыншчыне.
Друкаваўся ў рэспубліканскай прэсе.

**ПРУДНІКАУ Павел** нарадзіўся ў 1911 годзе ў вёсцы Стары Дзедзін Клімавіцкага раёна. Скончыў Ленінградскі педінстытут. Працаваў у рэдакцыях рэспубліканскіх газет і часопісаў, на Беларускім радыё, у БЕЛТА. З 1937 года знаходзіўся ў Бурацыі, Іркуцкай, Омскай абласцях, у Краснаярскім краі.
Выдаў кнігі «Песні грузчыкаў», «Час майго нараджэння», «Прысады», «Мая магістраль», «Успаміны» і інш.

**КУХАРАУ Сцяпан** нарадзіўся ў 1919 годзе ў вёсцы Стайкі Краснапольскага раёна. Скончыў Мінскі педінстытут. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Працаваў у рэдакцыях газет «Чырвоная змена», «Настаўніцкая газета», у часопісе «Маладосць».
Выдаў кнігі нарысаў «Незабыўныя сустрэчы», «Светлая пара». Аўтар аповесцей «Бацькавічы» і «Зорка Канікула».
Заслужаны работнік культуры БССР.

**«МОЛОДОСТЬ» № 6 (1—176), 1989 г.**
**Ежемесячный литературно-художественный**
**и общественно-политический иллюстрированный журнал**
(на белорусском языке)

Мастацкі рэдактар **Віктар КАЗЛОУ.** Тэхнічны рэдактар **Яніна ВАЖНІК.**
Карэктары **Валянціна БАШАК, Мая ВІНАГРАДАВА.**

Рукапісы аб'ёмам да аркуша не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: 220041, Мінск, Ленінскі праспект, 79, выдавецтва ЦК КПБ. Тэлефоны: 31-85-43—галоўны рэдактар і намеснік галоўнага рэдактара, 32-82-29—сакратарыят, аддзелы паэзіі, прозы, крытыкі, 31-76-14—аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, 39-87-70—фотакарэспандэнт.

Здадзена ў набор 20.04.89. Падпісана да друку 24.05.89. АТ 06802. Фармат 70×90¹/₁₆. Друк высокі. Умоўн. фарбаадб. 14,77. Умоўн. друк. арк. 12,87. Ул.-выд. арк. 14,62. Тыраж 11 208 экз. Зак. 177.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі. 220041, Мінск, Ленінскі пр., 79.






**М. БАСАЛЫГА.** Лінарыт, 1984.

